Сяргей Абламейка

# нечаканы Скарына

Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода

**Сяргей Абламейка. Нечаканы Скарына.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2018. 328 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

Кнігу складае аўтарскае эсэ ў 25 частках «Нечаканы Скарына», у якім прадстаўлены новы погляд на асобу Францішка Скарыны і арыгінальныя гістарыясофскія канцэпцыі для разуменьня яго дзейнасьці, даробку і шчыльных сувязяў з італьянскім Рэнэсансам. Другую частку кнігі складаюць аўтарскія інтэрвію зь беларускімі, аўстрыйскімі, італьянскімі, польскімі, французкімі і чэскімі навукоўцамі, якія расказваюць пра эпоху Скарыны і новыя знаходкі ў скарыназнаўстве.

Фота аўтара, Вольгі Абламейкі, Ганны Гардаш, Міколы Нікалаева, Shutterstock.



FOL

ISBN 978-0-929849-10-2

# ЗЬМЕСТ

**НЕЧАКАНА ПРА СКАРЫНУ**

*Гутаркі са скарыназнаўцамі*

## ПРЫХОДЗЯЦЬ ТУДЫ, ДЗЕ ЧАКАЮЦЬ

Сяргей Абламейка памыляецца, калі называе Скарыну нечаканым. І патрапляе, бо гэтае сьвята мае ўсё больш абліччаў.

Чаканьне ператварае час у прастору і пракладае дарогу для будучыні. Яна будуецца з самага няўлоўнага і надзейнага матэрыялу ў сьвеце: цікаўнасьці і цярплівасьці, дасьведчанасьці і дасканаласьці, захапленьня і настойлівасьці.

Гэты працэс аднолькавы з расшчапленьнем атамнага ядра і ва ўсе часы спараджае выбух энэргіі: дастатковы, каб з Полацку патрапіць у Падую і там, у найлепшым тагачасным унівэрсытэце, атрымаць найвышэйшае прызнаньне вартасьці і стаць у адзін шэраг з сучасьнікамі — вялікімі гуманістамі; дастатковы, каб, пабачыўшы цуды антычнай спадчыны і эўрапейскага рэнэсансу, першым выдаць друкаваную кнігу на сваёй мове, у якой пазачасавай каштоўнасьцю абвясьціць любоў да месца, дзе нарадзіўся; дастатковы, каб ланцуговая рэакцыя праз стагодзьдзі стварыла народ, краіну, дзяржаву, дзе яго чын будзе адзначацца як агульнае сьвята.

А што можа быць лепшым падарункам на такое сьвята, як ня кніга — зноў з Прагі, зноў па-беларуску, зноў нечакана.

Хоць не — прыходзяць туды, дзе чакаюць.

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*




## НА ЯКОЙ МОВЕ ЁН ВЫДАЎ БІБЛІЮ

Скарына ня быў друкаром. У простым, прафэсійным значэньні гэтага слова ён — не друкар.

Скарына не будаваў друкарскі варштат, не адліваў шрыфты, не вырабляў наборныя касы, не мантаваў шафы-рэалы для захоўваньня літараў, не майстраваў наборныя інструмэнты і рамы для заключкі набору, не стаяў за варштатам падчас друку, не фальцаваў гатовыя аркушы, не разразаў іх, не складаў у канвалюты, не сшываў, не абразаў блёкі і не пераплятаў іх. Усё гэта рабілі нанятыя ім рамесьнікі.

Скарына — гэта грандыёзнага маштабу беларускі інтэлектуал эпохі Адраджэньня, арганізатар

Фрагмэнт тытульнага ліста да Бібліі Скарыны з Кнігі Быцьця

кнігадруку, пісьменьнік, паэт, перакладчык, рэдактар, мовазнавец, ідэоляг-гуманіст, грамадзкі дзяяч, лекар, садавод, бізнэсмэн.

На думку гісторыкаў, калі Скарына піша ў прадмовах, што тая або іншая кніга выдадзена «повелением и працею», «працею и пильностию» або «повелением працею и выкладом» доктара Францішка Скарыны, гэта азначае, што ён быў найперш арганізатарам выданьня і аўтарам перакладу.

## «Пірава» перамога Аркадзя Жураўскага

Навукоўцы раней шмат спрачаліся, на якой менавіта мове Скарына выдаў Біблію. У наш час такіх спрэчак амаль няма. Нават у Вікіпэдыі можна прачытаць, што Скарына выдаў Біблію на царкоўнаславянскай мове беларускай рэдакцыі. Гэта паказвае, як далёка ў народныя і навуковыя масы пайшла кніга Аляксандра Булыкі, Аркадзя Жураўскага і Ўладзімера Сьвяжынскага «Мова выданьняў Францыска Скарыны», якая ўбачыла сьвет у 1990 годзе.


ий ктєвъ, и вширину двадцети локтевъ • :Въвышиню:
ь: тридцети локтевъ • И притворъ былъ єсть
оуделал предъ Храмом божиим, двадцети локтєв
вдолжиню, подлугъ мєры широкости Храмовы • И
десети локтєвъ вширину • И оучинил є вохрамє
божиємъ Окна кривограновитам • И поделалъ є

Фрагмэнт Трэцяй Кнігі Царстваў у перакладзе Скарыны

У 80-я гады XX стагодзьдзя ў лінгвістыцы быў шырока распаўсюджаны так званы квантытатыўны мэтад — або статыстычны аналіз лексычнага складу мовы. Аўтары згаданай кнігі ўзялі пэўныя ўрыўкі з праскіх выданьняў Скарыны і падлічылі колькасьць царкоўнаславянізмаў і беларусізмаў. Аказалася, што нідзе колькасьць беларусізмаў не дасягае 50 працэнтаў. Напрыклад, у Трэцяй Кнізе Царстваў іх 43,6%, у Кнізе Руф 42,9% і так далей. На гэтай падставе аўтары зрабілі выснову:

«...Паколькі ніводная з вывучаных кніг Скарыны практычна не зьмяшчае менш чым 50% царкоўнаславянізмаў і ў ніводнай зь іх працэнт беларусізмаў не дасягае 50%, іх нельга лічыць перакладам на беларускую мову».

З гэтага рабілася выснова, што мову выданьняў Скарыны трэба адносіць «да беларускага варыянту царкоўнаславянскай мовы».

Ужо адразу пасьля выхаду кнігі яе аўтарам закідалі абмежаванасьць аб'ёму прааналізаваных фрагмэнтаў, няясны статус агульных словаў старабеларускай і царкоўнаславянскай моваў, а таксама чэскай і польскай лексыкі ў статыстычнай табліцы, зьмешчанай у выданьні. Тым ня менш, яшчэ і сёньня філёлягі нярэдка паўтараюць высновы манаграфіі 1990 году.

## Іншы погляд на мову Скарыны

У акадэмічнай школы, якую ўзначальваў Аркадзь Жураўскі, была і навуковая апазыцыя. Яе ўдзельнікі групаваліся вакол прафэсара БДУ

Льва Шакуна, які лічыў мову выданьняў Скарыны аўтарскім варыянтам (ідыялектам) старабеларускай мовы.

Некаторыя навукоўцы лічылі мову прадмоў Скарыны, якая значна бліжэйшая да тагачаснай народнай мовы, старабеларускай, а мову ўласна перакладу кніг Бібліі называлі царкоўнаславянскай.

Нарэшце існавала думка, што ідыялект Скарыны зьяўляецца ўнікальнай, адзінкавай у сваім родзе гібрыднай сумесьсю старабеларускай, царкоўнаславянскай, чэскай і польскай моваў з дамешкам германізмаў.


ланы были • И повешены были со всихъ странъ опоны
и ковры небесное фарбы, то є голубое со златом про
мешиваное и лазуровое з ыними фарбами • И розтягне
ны были вервами шолъковыми со златомъ делаными
по кольцехъ костей слоновыхъ • И костолпомъ мра
моровымъ были привязаны • Кресла теже были зла
тые и серебреные на вдненийи, стены пакъ были от ка
меня шмарагда и мрамора з разноличными взоры оу

Фрагмэнт Кнігі Эсфір у перакладзе Скарыны

Нельга не згадаць, што і сам Аркадзь Жураўскі прытрымліваўся супярэчлівых поглядаў на мову выданьняў Скарыны. Гэта добра відаць з агляду ўсяго спэктру меркаваньняў за апошнія два стагодзьдзі, які зрабіла прафэсар філялягічнага факультэту БДУ Людміла Машчэнская:

«Мова перакладаў і прадмоў да сёньняшняга дня ня мае адназначнага вызначэньня. Да царкоўнаславянскай адносілі мову Ф. Скарыны С. Ліндэ, А. Сабалеўскі, І. Воўк-Левановіч, А. Флароўскі, А. Мартэль, да спрошчанай царкоўнаславянскай — Б. Усьпенскі, да асобнага тыпу царкоўнаславянскай — А. Парукаў, да беларускага варыянту царкоўнаславянскай мовы — А. Жураўскі. Двухплянавасьць мовы выданьняў Скарыны вызначаў А. Жураўскі: аснову яе складае народная мова, якая цесна суадносіцца з царкоўнаславянскай; асобны тып гібрыднай царкоўнаславянска-беларускай мовы, аналяг якой немагчыма знайсьці ва ўсіх славян таго часу; прамежкавае зьвяно ў працэсе пераходу ад царкоўнаславянскай мовы да беларускай у сфэры рэлігійнага ўжытку. П. Уладзіміраў, М. Алексютовіч, Ц. Ломцеў лічылі мову Скарыны беларускай».

Як відаць, часам і Аркадзь Жураўскі прызнаваў, што аснову перакладаў Скарыны складае народная мова, і лічыў яе прамежкавым пераходным зьвяном ад царкоўнаславянскай да беларускай.

## Спрэчкі працягваюцца

Зрэшты, я невыпадкова напісаў, што цяпер спрэчак пра мову Скарыны амаль няма. Памалу ўсё ж спрачаюцца. Напрыклад, тая самая прафэсарка Людміла Машчэнская лічыць, што галоўнай мэтай дзейнасьці Скарыны было зусім не асьветніцтва, але стварэньне новай сьвецкай літаратурнай мовы. Яна лічыць, што Скарына

грунтаваўся на моўных ідэях дзеячоў італьянскага Рэнэсансу, якія заклікалі да выкарыстаньня народных моваў:

«Мова выданьняў Скарыны ў адносінах да царкоўнаславянскай і беларускай займае самастойную пазыцыю і не патрабуе атаясамліваньня ні з водным полюсам. Яна зьяўляецца першай рэцэпцыяй лінгвістычных канцэпцый Адраджэньня, зьвязанай з фарміраваньнем нацыянальных літаратурных моў на царкоўнаславянскай традыцыі і гутарковай мове. З пазыцыі зьнешняга погляду сучасных дасьледчыкаў мова Ф. Скарыны зьяўляецца гібрыднай царкоўнаславянскай беларускага зводу (па тэрміналёгіі М.І. Талстога, славенабеларускай), але з пункту гледжаньня асьветніка яна была асобнай літаратурнай мовай, рускай (славенарускай)».


Книги третий
вы внутри доцками кедровыми, ѿ подлоги храмовоє
даже доверху стенъ и докрокѣвн, окрилъ древом ке
дровымъ внутрь весь. И положилъ помостъ вохра
ме бж҃ием дсками еловыми. И оуделалъ два

Фрагмэнт Трэцяй Кнігі Царстваў у перакладзе Скарыны

Тэрмін «славенаруская», канечне, Скарыну тут прыпісаны. Сам першадрукар сваю мову называў «рускай».

Адрозную ад канцэпцыі Машчэнскай пазыцыю ў наш час прадстаўляе вядучы навуковы

супрацоўнік Аддзелу гісторыі беларускай мовы Акадэміі навук Беларусі Ірына Будзько.

Яна лічыць, што «пры вялікай колькасьці запазычаньняў з царкоўнаславянскага тэксту і пры відавочнай прыхільнасьці беларускага першадрукара да кірыла-мяфодзіеўскай традыцыі няма падстаў лічыць мову яго праскіх выданьняў царкоўнаславянскай; беларускі першадрукар прапанаваў своеасаблівую моўную мадэль, абапіраючыся на кніжную традыцыю, закладзеную старажытнымі славянскімі асьветнікамі, і на народную традыцыю, узорам якой для яго паслужыла перакладчыцкая дзейнасьць чэскіх рэфарматараў», і адназначна ўключае моўную мадэль Скарыны ў кантэкст і прастору старабеларускай літаратурнай мовы.

Нават з гэтага кароткага агляду робіцца відавочнай наяўнасьць розных, нават процілеглых ацэнак «Бібліі Рускай» з боку лінгвістаў.

## Мова Скарыны — праблема ня толькі лінгвістыкі

У гэтай сувязі важна сказаць, што мова выданьняў Скарыны — гэта ня чыста лінгвістычная праблема. Гэта праблема гісторыі Беларусі і беларускай культуры.

Лінгвісты могуць яшчэ доўга вынаходзіць тыя або іншыя вузкаспэцыяльныя мэтады аналізу і распрацоўваць на іх падставе канцэпцыі, якія самі ж пасьля і абвергнуць — навука, як вядома, не стаіць на месцы. Канчатковых высноваў не існуе нават у такіх дакладных навуках, як фізыка.


Глава з
Домъ собѣ ставилъ є҃ Царь Саломонъ, з дре-
ва горы ливанское. И другии дворъ дщери фараонове.
Гирамъ майстеръ злилъ до храму гдьня два столпа
и море и бани медяныє, и иныє сосуды храмовы.

Фрагмэнт Трэцяй Кнігі Царстваў у перакладзе Скарыны

Задача гісторыка — пошук і зьбіраньне гістарычных фактаў, а таксама іх наступная інтэрпрэтацыя пры дапамозе актуальных мэтадаў гістарычнай навукі і дадзеных сумежных навуковых дысцыплін.

З усяго вышэйсказанага вынікае, што для гісторыка мова Скарынавага перакладу біблійных кніг і яго прадмоваў да іх — гэта праблема інтэрпрэтацыі.

Намер Скарыны выдаць Біблію па-руску (старабеларуску), выкладзены ўжо ў назьве выданьня «Біблія Руска» — гістарычны факт. (Больш падрабязна пра тэрміны «рускі» і «старабеларускі» чытайце ў эсэ «Хто ён — русін, ліцьвін ці беларус».)

Перакананьне Скарыны, што свой намер ён ажыцьцявіў, выяўленае ў шматлікіх прадмовах фразамі накшталт «выложены доктором Франциском Скориною из славнаго града Полоцка на руский язык», «зуполне выложены на руский язык», «казал есми тиснути книгу светого Иова руским языком» — гістарычны факт.

Перакананьне дзеячоў XVI–XVII стагодзьдзяў (кароль Жыгімонт Аўгуст, мітрапаліт Антоні Сялява) у тым, што Скарына выдаў Біблію па-руску — гістарычны факт.

Прысутнасьць вялікай колькасьці тагачаснай беларускай лексыкі ў ягонай Бібліі — таксама гістарычны, навуковы факт, устаноўлены сучаснай лінгвістыкай.

Значная прысутнасьць у мове Скарыны беларускага лексычнага і граматычнага кампанэнтаў побач з ацэнкай гэтай мовы з боку самога першадрукара дае гісторыку падставы назваць мову праскіх выданьняў Скарыны адным з варыянтаў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы і лічыць яе значным этапам у гістарычным разьвіцьці беларускай мовы. Скарына хацеў перакласьці Біблію на старабеларускую мову і так або іначай свой намер ажыцьцявіў.

Што тычыцца матываў і мэтаў першадрукара, то тут навукоўцы нярэдка ўступаюць у сфэру гіпатэтычных меркаваньняў.

Такім меркаваньнем трэба прызнаць прапанову Людмілы Машчэнскай лічыць мэтай Скарыны не асьветніцтва, але стварэньне новай сьвецкай літаратурнай мовы. З такой самай ступеньню верагоднасьці можна сьцьвярджаць, што мэтай Скарыны было стварэньне новай сакральнай мовы русінаў або стварэньне высокага сакральнага стылю рускай літаратурна-пісьмовай мовы ВКЛ. Праблема ў тым, што сам Скарына пра гэта нідзе ніколі нічога не сказаў. Гэта — гістарычны факт.

## «Біблія Руска» як працяг ідэй Дантэ

Мы ведаем гістарычны кантэкст, у якім разьвівалася дзейнасьць Скарыны. На яго не маглі не ўплываць ідэі італьянскага Рэнэсансу пра стварэньне новых нацыянальных моваў.

Гэтыя ідэі былі канцэптуальна выкладзены ў двухтомным трактаце Дантэ «De vulgari eloquentia» (Аб народным красамоўстве), напісаным у 1304–1307 гадах. Славуты паэт ставіў пытаньне пра патрэбу стварэньня вярхамі грамадзтва новай мовы для народу шляхам выкарыстаньня народных італьянскіх дыялектаў.

Ідэі Дантэ былі падхопленыя яго пасьлядоўнікамі ў Італіі і іншых краінах Заходняй Эўропы, у наступныя стагодзьдзі яны сталі падставай для фармаваньня новых нацыянальных моў. Дзейнасьць Скарыны цалкам укладаецца ў гэтае рэчышча.

Людміла Машчэнская таксама прызнае, што мова выданьняў Скарыны «зьяўляецца першай рэцэпцыяй лінгвістычных канцэпцый Адра-


ꙗзыкомсѧ любѧть • Толико втом хотѧтсѧ згожати
ꙗбы были Права ихъ или Законъ Почтивыи Спра
ведливыи Можныи Потребныи Пожиточныи Подлѣ
прироженіѧ Подлугъ обычаевъ земли, Часу И ме
сту пригожии, Явныи неимеѧ всобѣ закритости:
Некпожитку единого человека, Но кпосполитому до
брому написаныи • Ктожъ пак наиперве злюдеи

Фрагмэнт прадмовы Францішка Скарыны да Кнігі Другазаконьня

джэньня, зьвязанай з фарміраваньнем нацыянальных літаратурных моў на царкоўнаславянскай традыцыі і гутарковай мове», але робіць пры гэтым парадаксальную выснову, што мова «Бібліі Рускай» «у адносінах да царкоўнаславянскай і беларускай займае самастойную пазыцыю і не патрабуе атаясамліваньня ні з водным полюсам». Гэта выснова лінгвіста, але не гісторыка.

Чаму ж не патрабуе, калі дзеячы Адраджэньня стваралі новыя мовы для сваіх народаў з выкарыстаньнем народнай лексыкі?

Для якога народу перакладаў і выдаваў Біблію Скарына? Не для нямецкага, польскага або баўгарскага. Ён выдаваў яе (і пра гэта шмат разоў напісаў сам) для сваіх «братоў Русі, людзей паспалітых» — гэта значыць, для фэадальнай беларускай народнасьці, якая тады ўжо існавала.

Адпаведна і мова «Бібліі Рускай» так ці іначай стала адным з варыянтаў старабеларускай пісьмовай мовы.

## За што мы яго шануем

Як бы там ні было, наконт прадмоваў і пасьляслоўяў Скарыны мовазнаўцы як раней, так і цяпер спрачаюцца значна менш. Пераважна мяркуецца, што гэтыя тэксты асьветнік напісаў на мове, вельмі блізкай да тагачаснага варыянту літаратурнай старабеларускай мовы.

Вось вытрымкі зь некаторых Скарынавых прадмоў:

«*Кажеть, естъли же в ласце милостиваго бога доконаем сего суетнаго жития... даючи нам при-*

*клад о любовнику и с своею любою, глаголя: «Поцалуй мя поцалованием уст своих!» И даже до конца, яко же чтучи, знайдешь».*

*«Не став, Амане, Мардохею шибенице,*
*Сам повиснеш на ней».*

*«Потреба теж ведати, иже закон, или право, разноличне ся от людей называеть. Едино — посполитое, понеже от всех народов посполите соблюдаемо ест, яко мужа и жены почтивое случение, детей пильное выхование, близко живущих схожение, речи позыченое навращение...»*


му ученїю противлѧютсѧ • Потреба тежъ веда
ти, иже Законъ или право разноличнесѧ ѿлюдей на
зываетъ • Едино посполитое понеже ѿвсехъ наро
довъ посполите соблюдаемо естъ • Яко мужа иже
ны почтивое случение, детей пильное выхование, бли
зкоживущихъ схожение, речи позыченое навращение :

Фрагмэнт прадмовы Францішка Скарыны да Кнігі Другазаконьня

Як бачым, мова гэтых урыўкаў вельмі блізкая да тагачаснай пісьмовай старабеларускай — а фактычна, старабеларуская.

І нават калі б такія старабеларускія кавалкі трапляліся там толькі месцамі, усё роўна нішто не замінае нам зрабіць адну простую і, адначасова, нечаканую выснову:

Францішак Скарына быў першым пісьменнікам, які пісаў па-беларуску.



## ЦІ БЫЎ ЁН ЗАСНАВАЛЬНІКАМ УСХОДНЕСЛАВЯНСКАГА КНІГАДРУКАВАНЬНЯ

Пра гэта навукоўцы спрачаюцца да сёньня. Два полюсы тут прадстаўляюць беларус Георгі Галенчанка і расеец Яўген Неміроўскі. Першы лічыць, што Скарына быў заснавальнікам усходнеславянскага кнігадрукаваньня, а другі аддае першынство немцу Швайпальту Фіёлю.

Кнігадрукаваньне ў Эўропе наагул вынайшаў ураджэнец нямецкага гораду Майнц Ёган Гутэнбэрг. Гэта адбылося ў 1440 годзе, калі Гутэнбэрг працаваў на мануфактуры па вырабе люстраў. Як вядома, друкарскі шрыфт — гэта люстраны адбітак друкаваных літараў.

Адна з заляў Музэю беларускага кнігадрукаваньня ў Полацку



Біблія Ёгана Гутэнбэрга

Гутэнбэрг вырашыў не агалошваць сваё вынаходніцтва, атрымаў на яго сакрэтны патэнт, знайшоў фінансавых партнэраў і 13 гадоў распрацоўваў і ўдакладняў тэхналёгію. Кнігі ён пачаў друкаваць у 1453 годзе і да 1456 году пасьпеў выдаць лацінскую граматыку, некалькі папскіх дакумэнтаў і дзьве лацінскія Біблii.

## Славянскі друк заснаваў немец

Скарына ня быў пачынальнікам славянскага кнігадрукаваньня як такога. Славянскае кнігадрукаваньне заклаў немец Швайпальт Фіёль у

польскім горадзе Кракаў. Першая кніга Фіёля на царкоўнаславянскай мове выйшла ў 1491 годзе і называлася «Актоіх». Да 1493 году Фіёль выдаў яшчэ тры кніжкі.



Старонкі «Актоіха» Швайпальта Фіёля

Гісторыкі дагэтуль спрачаюцца на прадмет таго, для каго менавіта прызначаў свае кнігі Швайпальт Фіёль. Дакладнай інфармацыі на гэты конт няма. Яўген Неміроўскі кажа пра вялікую колькасьць кніг Фіёля ў бібліятэках Расеі і робіць выснову, што іх там здаўна чыталі. Але Георгі Галенчанка адказвае, што большасьць гэтых кніг трапілі ў Расею пасьля падзелаў Рэчы Паспалітае і ў выніку замежных паходаў расейскай арміі.

Дакладна вядома, што працы Швайпальта Фіёля перашкаджала каталіцкая герархія Кракава.

## Скарына — чацьвёрты і першы

У 1494–95 гадах дзьве царкоўнаславянскія кніжкі выйшлі у чарнагорскім горадзе Цэтыне.

А у 1508, 1510 і 1512 гадах тры царкоўнаславянскія кніжкі выйшлі ў румынскім горадзе Тыргавіштэ.

Скарына, такім чынам, стаў чацьвёртым выдаўцом славянскіх кніг, але першым сярод усходніх славян, які выдаваў друкаваныя тэксты на нацыянальнай мове.

Таму для нас Скарына, безумоўна, першы выдавец сярод усходніх славян і першы выдавец менавіта беларускіх тэкстаў.

А ці лічаць яго такім расейцы і ўкраінцы — ня так і важна.



## ДЗЕ ЁН НАТХНІЎСЯ НА ВЫДАНЬНЕ КНІГ

У 1504 годзе Скарына стаў студэнтам Кракаўскага ўнівэрсытэту.

Кнігавыданьне ў Польшчы пачалося ў 1474 годзе на лацінскай мове, калі ў Кракаве выйшлі дзьве кнігі і правобраз газэты — «Кракаўскі альманах». Мяркуецца, што польскім першадрукаром быў саксонец Каспар Штраўбэ.

Тамсама, у Кракаве, як памятаем, друкаваў свае славянскія кнігі Швайпальт Фіёль.

А трэцім кракаўскім друкаром, які заклаў там друкарню ў 1505 годзе, стаў немец — Ян Гелер. Скарына ня мог ня ведаць і не чытаць кнігі гэтых выдаўцоў, тым больш што ён вучыўся ў Кракаве

Кракаўскі ўнівэрсытэт

ў тыя самыя гады, калі там засноўваў сваю друкарню Гелер. За гады побыту Скарыны ў Кракаве (1504–1506) Гелер пасьпеў выдаць 10 кніг.

Апрача таго, у бібліятэцы Кракаўскага ўнівэрсытэту на той час ужо былі італьянскія выданьні вялікіх антычных філёзафаў Грэцыі і Рыму. Вядома, напрыклад, што Арыстотэля кракаўскія студэнты вывучалі па зборы твораў у пяці тамах, выдадзеным у Вэнэцыі.

Тамсама, у Кракаве, Скарына пазнаёміўся і з працэсам вырабу паперы. Першы папяровы млын быў заснаваны ў гэтым горадзе ў 1496 годзе немцам Фрыдрыхам Шылінгам.

Так што адказ на пытаньне — дзе і калі Францішак Скарына натхніўся кнігавыданьнем гучыць проста: гэта стары польскі горад Кракаў, першая гістарычная згадка пра які адносіцца да 965 году.

Падзякуем палякам (і немцам!) за гэта.



Заля пасяджэньняў Кракаўскага ўнівэрсытэту ў галоўным корпусе Collegium Maius. XV стагодзьдзе



## КОЛЬКІ ЎНІВЭРСЫТЭТАЎ ЁН СКОНЧЫЎ

У часы Скарыны ўнівэрсытэты ў Эўропе былі каталіцкімі — гэта значыць, знаходзіліся пад кантролем Каталіцкай царквы і непасрэдна мясцовага герарха.

Факультэтаў, як правіла, было чатыры. Асноўныя — тэалягічны, юрыдычны і мэдычны. Перш чым паступіць на іх, трэба было скончыць факультэт свабодных мастацтваў (або навук) са ступеньню бакаляўра. На гэтым факультэце спачатку вывучалі *trivium* — граматыку, рыторыку і лёгіку, а пасьля *quadrivium* — арытмэтыку, геамэтрыю, астраномію і музыку.

Галоўная заля мэдычнага факультэту Падуанскага ўнівэрсытэту. XIV стагодзьдзе

Мы ведаем, што ў канцы 1506 году Францішак Скарына разам зь некалькімі сваімі землякамі, у тым ліку Венцэславам са Слуцку, атрымаў у Кракаве ступень бакаляўра. А дзе ён вучыўся на мэдычным факультэце — ня ведаем, як і ня ведаем дакладна, дзе ён знаходзіўся наступныя шэсьць гадоў.

Увосень 1512 году, калі Скарына прыехаў у Падую здаваць экзамэн на званьне доктара мэдыцыны, ён ужо мусіў недзе скончыць мэдычны факультэт і атрымаць ступень магістра. Да таго ж у дакумэнтах Падуанскага ўнівэрсытэту Скарына названы доктарам свабодных навук і прафэсарам.

Так што за тыя шэсьць гадоў, пра якія мы пакуль нічога ня ведаем дакладна (1506–1512), Скарына пасьпеў стаць лекарам, пачаў лячыць людзей, а таксама зрабіўся доктарам свабодных навук і нават прафэсарам. Апошняе можа азна-



Анатамічны тэатар мэдычнага факультэту Падуанскага ўнівэрсытэту – першы анатамічны тэатар у Эўропе. XV стагодзьдзе

чаць, што ён недзе пасьпеў пабыць выкладчыкам ўнівэрсытэту.

Улічваючы, што мовай выкладаньня ўсюды была лаціна, Скарына мог скончыць адзін з ўнівэрсытэтаў Нямеччыны, мог вучыцца ў Вене, Празе або (пра гэта загаварылі апошнім часам) у Капэнгагене — там якраз чвэрць стагодзьдзя перад магчымым прыездам туды Скарыны, а менавіта ў 1479 годзе, дацкі кароль Крыстыян I заснаваў ўнівэрсытэт.

У адным з падуанскіх дакумэнтаў нашага асьветніка называюць «secretarius regis Datiae». Была гэта Дакія (Румынія) або Данія, пакуль дакладна не вядома, навукоўцы ўсё яшчэ спрачаюцца, але апошнім часам усё больш гісторыкаў схіляецца да думкі, што гэта была Данія.



Унутраны двор Капэнгагенскага ўнівэрсытэту

Тады становіцца зразумелым, дзе Скарына атрымаў ступень магістра мэдыцыны — у Капэнгагенскім унівэрсытэце ад самага пачатку яго заснаваньня ў 1479 годзе працаваў мэдычны факультэт. Праблема ў тым, што ў дацкіх архівах пакуль ня знойдзена дакумэнтаў, якія б сьведчылі пра знаходжаньне ў Капэнгагене беларускага першадрукара.

Так што колькі дакладна ўнівэрсытэтаў скончыў Скарына мы ня ведаем. Наперадзе дасьледчыкаў чакаюць новыя адкрыцьці.

Пакуль дакладна можна сказаць, што гэтых унівэрсытэтаў было ня менш за два. А можа і болей.



## З БАГАТАЙ ЦІ БЕДНАЙ СЯМ'І ПАХОДЗІЎ

У рэаліях XV–XVI стагодзьдзяў сын селяніна ня меў шанцаў атрымаць адукацыю і выбіцца ў людзі. Гэта маглі зрабіць толькі дзеці шляхты або заможных мяшчан.

Беларусам пашанцавала, што дзед і бацька Скарыны мелі дастаткова ініцыятывы і энэргіі, каб стаць прадпрымальнікамі і зарабіць немалы для таго часу капітал. Старэйшаму сыну Івану належала пераняць бацькоўскую справу, а малодшы Францішак пайшоў у навуку.

Лука Скарына меў дастаткова грошай, каб паслаць сына спачатку ў віленскую школу, а пасьля і ў кракаўскі ўнівэрсытэт.

---

Удзельнікі гістарычнага фэстывалю ў адзеньні XVI ст.

У тыя часы ўнівэрсытэты ня бралі са студэнтаў плату за навучаньне. У некаторых выпадках трэба было ўнесьці толькі невялікі ўступны ўзнос. Гэтак Скарына ў 1504 годзе заплаціў у скарбонку кракаўскага ўнівэрсытэту тры літоўскія грошы. Затое здымаць жыльлё і харчавацца студэнтам трэба было за ўласны кошт. А гэта было ня танна, асабліва для тых, хто прыехаў па навуку ў чужую краіну. Але Скарыны на гэта сродкі мелі.

Калі ня браць валоданьні брата Івана ў Вільні, Познані і Гданьску, а паглядзець толькі на полацкія ўладаньні нашчадкаў Лукі, то і яны ўражваюць. У 1535 годзе сям'я Скарынаў, у тым ліку і сам першадрукар, валодалі домам у Полацкім замку, што было асабліва пачэсна, а таксама домам у Вялікім пасадзе побач з дамамі чатырох бурмістраў. На зямельных пляцах Скарынаў у горадзе жыло



Полацкія замкі. XVI стагодзьдзе

больш за 20 мяшчан, пры тым што на пляцах бурмістра Мартына Шчыта жыло пяць месьцічаў, а бурмістра Давыда Панкова — сем.

Мелі Скарыны і маёнтак за горадам зь вялікім домам, зь вёскай, з падданымі сялянамі, з бортным промыслам, з ворнай зямлёй і паляўнічымі ўгодзьдзямі.

Трэба разумець, што малады Францішак Скарына належаў да гарадзкога патрыцыяту, вырас з пачуцьцём уласнай годнасьці і гонару за сваю сям'ю. Гэтыя пачуцьці пазьней трансфармаваліся ў гонар за радзіму і пачуцьцё нацыянальнай годнасьці, якія штурхнулі юнака ў далёкія падарожжы і прывялі да вялікіх дасягненьняў.

Жыцьцё не даруе пасіўнасьці і ўзнагароджвае энэргічных і актыўных. Як казаў Хрыстос, «хто мае, таму дадасца, а хто ня мае — у таго аднімецца».

Падзякуем сям'і асьветніка за актыўнасьць і прадпрымальнасьць. Калі казаць сучаснай мовай, малады Францішак Скарына належаў да эліты старой сталіцы Беларусі — Полацку.



## ЦІ БЫЎ ЁН У ВЭНЭЦЫІ

У восень 1512 году Скарына здаў экзамэн на званьне доктара мэдыцыны ва ўнівэрсытэце Падуі, якая знаходзілася ўсяго за некалькі дзясяткаў кілямэтраў ад Вэнэцыі.

Падую называлі тады Лацінскім (або ўнівэрсытэцкім) кварталам Вэнэцыі, якая сама ўнівэрсытэту яшчэ ня мела.

У часы Скарыны два гарады зьвязваў водны канал Брэнта, які існуе і ў нашы дні. Дарога на лодцы паміж абодвума гарадамі займала ўсяго пару гадзін.

---

Галоўная водная вуліца Вэнэцыі Canal Grande



Водны канал Брэнта

## Культурная сіла Вэнэцыі

Каб адказаць на пытаньне, ці быў беларускі асьветнік у Вэнэцыі, нам трэба добра ўсьвядоміць сабе сілу і моц тагачаснай эўрапейскай культуры, галоўным цэнтрам якой тады якраз і была Вэнэцыя.

Пасьля вынаходніцтва кнігадрукаваньня адбыўся сапраўдны культурны выбух. Друкарні ствараліся сотнямі па ўсім кантынэнце, выдаваліся ня толькі царкоўныя кнігі, але і сьвецкія. Пачаліся пераклады антычных аўтараў — сталі выходзіць лістоўкі, газэты, альманахі, брашуры,

філязофскія трактаты, навукова-тэхнічныя працы, зборнікі сэнтэнцый, юрыдычная літаратура і нават кухарскія кнігі. Лідэрам усяго гэтага працэсу была тагачасная Вэнэцыянская рэспубліка і яе сталіца — Вэнэцыя.

У 1512 годзе, калі Скарына прыехаў у Італію, у Вэнэцыі, паводле розных падлікаў, працавала ад 70 да 150 друкарняў! А ўсяго ў Італіі тады было 500 друкарняў, некаторыя навукоўцы сьцьвярджаюць, што 700.

Галоўнай асаблівасьцю Вэнэцыі часоў Скарыны была яе нацыянальная і рэлігійная талерантнасьць, якая стала вынікам супраціўленьня ўплывам Ватыкану. У Вэнэцыі друкавалі кнігі на многіх мовах, уключаючы габрэйскую, армянскую, грэцкую, чэскую.

Няма сумневу, што менавіта ў Вэнэцыі справа і лёс беларускага кнігадрукаваньня былі вырашаныя канчаткова — там Скарына задумаў пераклад і выданьне Бібліі, а таксама іншых карысных для паўсядзённага жыцьця кніг. І тым самым вывеў наш народ у культурныя лідэры сярод усходніх славян і наагул нашай часткі эўрапейскага кантынэнту.

Таму адказ на пытаньне, ці быў Скарына ў Вэнэцыі, гучыць так: у той час пабываць у Падуі і не пабываць у Вэнэцыі было немагчыма. Скарына ня мог там ня быць.

## Акадэмія Альда Мануцыя

У канцы XV – пачатку XVI стагодзьдзяў у Вэнэцыі жыў і працаваў вялікі італьянскі гуманіст і выдавец Альд Пій Мануцый.

Калі Скарына прыехаў у Італію, Мануцыю было ўжо 64 гады. Пры яго выдавецкім доме існаваў гурток інтэлектуалаў-гуманістаў, які называўся Акадэміяй. Для кожнага іншаземца, які прыбываў у Вэнэцыю, было вялікім гонарам наведаць Акадэмію Мануцыя.



Альд Мануцый

Мануцый выдаваў шматтомныя выданьні грэцкіх і лацінскіх клясыкаў, у тым ліку Арыстотэля, Арыстафана, Эўрыпіда, Сафокла, Плютарха, Герадота, Плятона, Цыцэрона і іншых.

Асабліва каштоўным выданьнем Мануцыя стаў збор твораў Вэргілія 1501 году.

Мануцый лічыцца вялікім рэфарматарам кнігадрукаваньня — яму належыць вынаходзтва курсіву і малога фармату кніг, так званага in octavo (на адну восьмую аркуша). Можна канстатаваць, што малы фармат сваіх выданьняў Скарына выбраў пад уплывам менавіта невялікіх кніжак Мануцыя. У гэтым сумнявацца не даводзіцца, бо беларускі першадрукар сам даў нам пацьверджаньне гэтага, пра што гаворка пойдзе ў наступных частках цыклю.

Паколькі мы дакладна ня ведаем, дзе Францішак Скарына знаходзіўся паміж 1506 і 1512 гадамі, мы ня можам напэўна сказаць, дзе ён задумаў пераклад Бібліі на нацыянальную мову. Вэнэцыя на гэтую ролю падыходзіць ідэальна. У часы Скарыны там па-італьянску выдавалі ўжо ня толькі літаратурныя творы, але і навуковыя трактаты.

Вялікі матэматык Люка Пачолі ў 1494 годзе выдаў у Вэнэцыі па-італьянску славутую энцыкляпэдыю «Сума арытмэтыкі, геамэтрыі, адносінаў і прапорцый». У прадмове да яе выбар мовы ён патлумачыў так:

«Я вырашыў напісаць сваё сачыненьне на роднай мясцовай мове, каб і адукаваныя, і неадукаваныя (гэта значыць тыя, хто ня ведае лаціны — С.А.) у роўнай меры маглі атрымаць задавальненьне ад гэтых заняткаў».




Партрэт Люкі Пачолі на італьянскай манэце вартасьцю 500 лір, прымеркаванай да 500-годзьдзя выхаду ў сьвет энцыкляпэдыі «Сума арытмэтыкі, геамэтрыі, адносінаў і прапорцый»

Як бачым, дзеячы Рэнэсансу сваю мову тады таксама называлі «тутэйшай», што не замінае нам сёньня называць яе італьянскай.

## З кім яшчэ Скарына мог сустракацца ў Вэнэцыі

У Вэнэцыі Скарына мог пазнаёміцца з сэрбскім першадрукаром Божыдарам Вукавічам, які пачаў сваю дзейнасьць на два гады пазьней за Скарыну. Вукавіч у 1520 годзе выдаў «Псалтыр з часасловам», якая прызначалася для падарожнікаў. У 1522 годзе ў Вільні Скарына выдаў аналяг гэтай кнігі Вукавіча — «Малую падарожную кніжку», што можа служыць доказам іх кантактаў у Вэнэцыі і магчымых пазьнейшых сувязяў.

У Вэнэцыі Скарына мог бачыць армянскую Біблію 1512 году і яшчэ шмат розных кніг на нацыянальных мовах. Для нас таксама важна, што менавіта ў Вэнэцыі Скарына мог пазнаёміцца з чэскай Бібліяй, якая выйшла там у 1506 годзе і, паводле сучасных навукоўцаў, стала адной з крыніц Скарынавага перакладу.

Але галоўная выснова такая. У выніку паездкі ў Вэнэцыю беларускі гуманіст пачаў друкаваць кнігі малым фарматам, што зрабіла іх нашмат больш таннымі і даступнымі для простых беларусаў — яны лёгка зьмяшчаліся ў кішэні тагачаснага адзеньня або ў невялікай дарожнай сумцы. Гэта быў чыста народны, дэмакратычны фармат.



## ЧЫМ ЗАГАДКАВАЯ АБАРОНА Ў ПАДУІ

5 лістапада 1512 году ў царкве Сьвятога Урбана ў Падуі сабралася на паседжаньне мэдычная калегія Падуанскага ўнівэрсытэту.

Адкрываючы паседжаньне, віцэ-прыёр калегіі доктар свабодных навук і мэдыцыны Тадэо Мусаці сказаў:

«Вашы дастойнасьці спадары навукоўцы! Я склікаў Вашы вялебнасьці дзеля наступнай

Заля «Tinello dei Dottori» ў біскупскім палацы Падуі, дзе ў XV– XVI стагодзьдзях праводзіліся экзамэны і дзе 9 лістапада 1512 году Скарына ў прысутнасьці мясцовага кардынала здаў экзамэн на званьне доктара мэдыцыны. Тут першадрукару былі ўручаныя дыплём і доктарская мантыя

прычыны. У Падую прыбыў вельмі вучоны, але бедны малады чалавек, доктар свабодных навук, родам зь вельмі далёкіх краін, якія ляжаць на адлегласьці чатырох тысяч міль, а можа і больш, ад нашага слаўнага гораду. Прыбыў малады чалавек для таго, каб памножыць славу і бляск Падуі, а таксама квітнеючага сходу філёзафаў унівэрсытэту і нашай сьвятой калегіі. Ён просіць калегію на знак асаблівай міласьці дазволіць яму прайсьці выпрабаваньні ў галіне мэдыцыны... Калі дазволяць Вашы вялебнасьці, я прадстаўляю Вам гэтага маладога чалавека. Завуць яго Францішак, ён сын нябожчыка Лукі Скарыны з Полацку, русін».

Калегія, як вядома, дазволіла, і назаўтра, 6 лістапада, Скарына здаў доктарскі экзамэн. Пасьля быў яшчэ больш цырыманіяльны экзамэн 9 лістапада ў біскупскім палацы Падуі, на якім Скарыну і была нададзеная годнасьць доктара мэдыцыны. Вось тут і пачынаюцца загадкі.

Паводле статуту Падуанскага ўнівэрсытэту, дактарантура доўжылася чатыры гады. Да экзамэнаў на званьне доктара мэдыцыны дапускалі толькі прэтэндэнта, які тры гады слухаў лекцыі, а пасьля яшчэ ня менш за год практыкаваў пад кіраўніцтвам вядомага лекара ў шпіталях Падуі.

Чаму Скарыну дапусьцілі да абароны без навучаньня ў дактарантуры?

Можна меркаваць, што гэтую асаблівую ласку яму аказалі як «secretario regis Datiae». Але калі ён быў «сакратаром караля», то чаму яго назвалі «бедным» і чаму сказалі, што ён прыбыў зь вельмі далёкіх краін, якія ляжаць на адлегласьці чатырох тысяч міль ад Падуі?

## Адзін экзамэн, тры этапы

Але гэтымі пытаньнямі загадкі падуанскай абароны Скарыны не вычэрпваюцца. Дасьледаваньні беларускага гісторыка Вольгі Шутавай у апошнія гады дазволілі, з аднаго боку, удакладніць дэталі і ход доктарскага экзамэну беларускага першадрукара, а зь іншага, выявілі і новыя загадкі.

Вольга Шутава наноў вывучыла і прааналізавала дакумэнты Падуанскага ўнівэрсытэту, зьвязаныя з абаронай Скарыны. Аказалася, што экзамэн славутага палачаніна ня быў асаблівым ці надзвычайным, як лічылася раней. Памылка была зьвязаная зь недакладным прачытаньнем лацінскіх тэкстаў і няведаньнем унівэрсытэцкіх рэаліяў рэнэсанснай Эўропы.

Аказалася, што доктарскіх абаронаў у Падуанскім унівэрсытэце ў 1512 годзе было ня менш за дванаццаць. І ўсе яны праходзілі паводле той самай схемы, характэрнай для доктарскіх экзамэнаў ва ўсіх унівэрсытэтах тагачаснай Эўропы. Этапаў абароны было тры: прашэньне аб міласьці *gratia*, пробны экзамэн *tentativum* і асабісты экзамэн *privatum* Вось іх Скарына і здаў 5, 6 і 9 лістапада 1512 году. На апошнім экзамэне *privatum* у біскупскім палацы яму былі ўручаныя знакі доктарскай годнасьці — так званыя *insignia*.

## Хто прыйшоў яго паслухаць

Таксама Вольга Шутава высьветліла, што ў склад камісіі, якая прысутнічала на ўсіх этапах абароны Скарыны, уваходзілі прынамсі 33 чалавекі. Гэта былі вельмі вядомыя і паважаныя людзі Вэнэцыі і Падуі.

Сярод прысутных на абароне Скарыны быў біскуп Падуі — кардынал Сыкст Гара дэля Равэрэ (пляменьнік тагачаснага папы Юлія II і ўнучаты пляменьнік яго наступніка Сыкста IV), вельмі вядомы на той час у Італіі біскуп Паола Забарэла, іншыя высокія каталіцкія дастойнікі, прафэсура ўнівэрсытэту, а таксама шэраг вядомых арыстакратаў і інтэлектуалаў.

У 1512 годзе толькі дзьве з дванаццаці абаронаў суправаджаліся такой масавай прысутнасьцю вядомых людзей. Першы раз яны сабраліся на экзамэн Фэдэрыка Маразіні, вядомага арыстакрата, сына члена Вэнэцыянскай Рады Дзесяці Дамініка Маразіні, які быў апекуном Падуанскага ўнівэрсытэту. А другі раз, праз месяц, гэтыя людзі прыйшлі паслухаць абарону ўраджэнца далёкага Полацку Францішка Скарыны. Што менавіта іх туды прывяло, мы дагэтуль ня ведаем.

Яшчэ адной знаходкай Вольгі Шутавай стала прысутнасьць у камісіі на абароне Скарыны як найменш трох чалавек, зьвязаных з кнігавыдавецкай справай. Наагул, у Падуі да 1500 году ўжо існавала як мінімум 7 друкарняў, а кнігарні знаходзіліся ў непасрэднай блізкасьці ад унівэрсытэту.


ALDVS ROMANVS MARINO SANNVTO PATRITIO VENETO LEONARDI FILIO. S.

QVINTI HORATII FLACCI CARMINVM LIBER PRIMVS.

AD MOECENATEM, ALIVM ALIO STVDIO TENERI, SE VERO SCRIBENDORVM LYRICORVM VERSVM.

ODE I. Monocolos.

Курсіў у вэнэцыянскім выданьні твораў Гарацыя

Дык вось у склад камісіі на абароне Скарыны прысутнічаў зьбіральнік кніг і манускрыптаў Барталямэо дэ Санвіта, знаёмы Альда Мануцыя, разам зь якім ён лічыцца вынаходнікам курсіву.

Таксама былі прысутныя гандляр кнігамі Антоніюс дэ Санчына і пісьменьнік Хрыстафор зь Ліньяміна — выхадцы зь вядомых сямей заснавальнікаў італьянскага кнігадрукаваньня. Санчына — юдэйская сям’я, якая займалася друкам кніг, а Ліньяміна — італьянцы, якія пакончылі зь нямецкай манаполіяй на кнігадрукаваньне ў Італіі.

## Сьляды вядуць у Ватыкан?

Чаму Скарыну дазволілі здаваць экзамэн без навучаньня ў дактарантуры? Чаму на яго абарону прыйшлі тры з паловай дзясяткі славутых людзей тагачасных Вэнэцыі і Падуі? І для чаго там былі італьянскія выдаўцы?

Нядаўна знойдзены дакумэнт, які хоць і не называе імя Скарыны, але дазваляе меркаваць, што ён як сакратар караля Даніі ў 1512 годзе, за тры месяцы да прыезду ў Падую, браў удзел у нарадзе ў Ватыкане, на якой абмяркоўвалася пашырэньне каталіцкай рэлігіі на ўсходзе Эўропы. Можна меркаваць, што з магчымым удзелам Скарыны ў гэтай справе і зьвязаная прысутнасьць на яго доктарскай абароне ў Падуі такой колькасьці вядомых людзей, у тым ліку герархаў царквы і тых, хто займаўся кнігавыдавецкай справай.

Некаторыя гісторыкі мяркуюць, што за Скарынам павінна была стаяць нейкая сіла, інакш бы ён ня змог самастойна арганізаваць такую грандыёзную справу, як пераклад і выданьне Бібліі.

Але дакладных адказаў на гэтыя пытаньні гісторыкі ня маюць. Нічога не напісаў пра сваю магчымую каталіцкую місію і сам Скарына.

Тое, што мы ведаем пра яго сёньня, дазваляе меркаваць, што ён дзейнічаў на сваю ініцыятыву і карыстаўся дапамогай віленскіх беларускіх мяшчан-мэцэнатаў.



## У ЯКУЮ ЦАРКВУ ЁН ХАДЗІЎ

### Пратэстант

Уніяцкі архімандрыт (будучы Кіеўскі мітрапаліт) Антоні Сялява, зьвяртаючыся ў 1622 годзе да сваіх праваслаўных апанэнтаў, пісаў:

«І перад тым яшчэ, задоўга да продкаў вашых, Русь была добра атручана: яшчэ да уніі быў Скарына, ерэтык гусіцкі, які для вас кнігі па-руску друкаваў у Празе. Прымалі іх з удзячнасьцю толькі таму, што называў сябе русінам з Полацку,

Пятніцкая царква ў Вільні. XIV стагодзьдзе

так і падпісваўся. Падабаліся гэтыя выданьні, сьцьвярджалі, што надрукаваў іх чалавек дастойны, русін, брат наш».

Сялява, як бачым, наўпрост называў Скарыну пратэстантам.

Сучасная дасьледчыца Сьвятлана Куль-Сяльверстава знайшла ў кнігах Скарыны прыкметы пратэстанцкага летазьлічэньня. Яна заўважыла, што Скарына пры датаваньні сваіх кніг ня згадваў пра рэлігійныя сьвяты і прысьвяткі, што было тады характэрна для каталіцкіх і праваслаўных тэкстаў. На думку Куль-Сяльверставай, гэта «зьява Рэнэсансу, блізкая да прынцыпаў рэфармацыйнага руху».

## Праваслаўны

Зь іншага боку, той факт, што Скарына пісаў вытанчаныя акафісты да Багародзіцы ды яшчэ і суправаджаў іх акравершамі, сьведчыць, што ён быў выхаваны ва ўсходнехрысьціянскай традыцыі, любіў яе і пратэстантам быць ня мог. Акафісты — гэта асаблівая форма праваслаўнага, а пазьней і ўніяцкага набажэнства, якая нарадзілася ў Бізантыі.

Антоні Сялява сьцьвярджаў, што кнігі Скарыны прызначаліся для праваслаўных. Тым часам вядома, што праваслаўная царква Маскоўскага княства, як і праваслаўная царква ВКЛ, кніг Скарыны не прыняла.

## Католік

Некаторыя дасьледчыкі, спасылаючыся на імя Скарыны, сьцьвярджаюць, што ён быў лацінскім католікам. Прафэсар Неміроўскі яшчэ 30 гадоў таму паказаў, што ў канцы XV — пачатку XVI стагодзьдзяў падзелу на каталіцкія і праваслаўныя імёны ў ВКЛ не існавала. Скарыну доўгі час стараліся «аправаславіць» і называлі яго Георгіем. Гэта была палітыка, абернутая ў мінулае, яе адэпты ня ведалі, што ў часы Скарыны і католікаў называлі Георгіямі.

Да таго ж, беларускі скарыніст Георгі Галенчанка даказаў, што «Георгіус» — насамрэч не другое імя першадрукара, а прыкрая памылка, дапушчаная перапісчыкам аднаго з дакумэнтаў: замест *egregius* (выдатны) перапісчык напісаў *georgius*.

Зрэшты, Скарына працаваў сакратаром віленскага біскупа Яна і, на думку гісторыкаў, уваходзіў у гурток гуманістаў пры віленскай курыі. Таму ён мог быць і лацінскім католікам-канвэртытам.

## Уніят

У XV стагодзьдзі шэсьць беларускіх мітрапалітаў з трынаццаці прызнавалі Унію з Рымам. Ня ведаючы гэтай акалічнасьці, цяжка зразумець вытокі гатычнай архітэктуры беларускіх праваслаўных цэркваў XV стагодзьдзя — Сынковіцкай, Маламажэйкаўскай, Наваградзкай Барысаглебскай і іншых.

Якраз пры апошнім мітрапаліце-уніяце XV стагодзьдзя Іосіфе I Балгарыновічы і гадаваўся



Флярэнцыя. Царква Санта Марыя дэль Фіёрэ, месца падпісаньня Уніі 1439 году паміж Каталіцкай і Праваслаўнай цэрквамі

ў Полацку Францішак Скарына. Зьмяшэньне каталіцкай і праваслаўнай духоўнасьці і абраднасьці пачалося ў Беларусі з XIV стагодзьдзя. Гісторыкі сьцьвярджаюць, што на мяжы XV–XVI стагодзьдзяў у Вільні існаваў храм, дзе адбываліся набажэнствы ў лацінскім і ўсходнім абрадах.

Падпісаная ў 1439 годзе Флярэнцкая Унія паміж Канстантынопалем і Рымам была прызнаная царквой і ўладамі ВКЛ. З таго часу ў нас перасталі ўжываць тэрміны «вера грэцкая» і «вера рымская» — іх замянілі «закон грэцкі» і «закон рымскі». Пра тое, што на рубяжы XV–XVI стагодзьдзяў Флярэнцкая Унія ў ВКЛ усё яшчэ дзейнічала, пісаў і прафэсар Яўген Неміроўскі з Расеі.

Як вядома, вайна паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай 1500–1503 гадоў, падчас якой у па-

лон трапіў гетман Канстанцін Астроскі, была ў пэўнай ступені вайной рэлігійнай. Яе пачатку паспрыялі спробы навярнуць на унію Алену Іванаўну, жонку вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягайлавіча і дачку маскоўскага князя Івана III. Пры шлюбе ў 1495 годзе яе бацьку было абяцана, што Алену на унію схіляць ня будуць.

У пазьнейшыя часы шмат хто называў Скарыну уніятам. Напрыклад, славенскі славіст Ернэй Капітар, пішучы ў 1839 годзе пра магчымасьць сустрэчы Скарыны і Лютэра, называў беларускага першадрукара грэка-католікам. Сучасны літоўскі гісторык прафэсар Эдвардас Гудавічус лічыць, што Скарына сваімі выданьнямі і іх зьместам падтрымліваў уніяцкія намаганьні віленскіх каталіцкіх біскупаў.

## Вэрсія айца Аляксандра Надсана

Знаўца Скарынавых тэкстаў, Апостальскі візытатар для беларусаў замежжа і кіраўнік бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане айцец Аляксандар Надсан заўважыў, што ў свае праваслаўныя па форме тэксты Скарына ўстаўляў каталіцкія догматы.

Напрыклад, у Акафісьце апосталам Пятру і Паўлу з «Малой падарожнай кніжкі» Скарына называе апостала Пятра «Божий намесниче» — гэта каталіцкі догмат. Праваслаўная царква апостала Пятра намесьнікам Бога на зямлі не прызнае. І такіх месцаў у Скарыны шмат. Надсан прывёў прыклады, як пры перавыданьні Віленскім праваслаўным брацтвам у 1628 годзе ўсе каталіцкія



| Скарына 1522 | Акафісты 1628 г. |
|---|---|
| Ікас 7 (Пятра) | |
| Радуйся, Ісусом любимый апостоле Петре, его же ради мирская опустивый; радуйся, Божий наместниче і того для духовныя возлюбивый. | Радуйся, Богом избранный апостоле Петре, его же ради земных обоживый; Радуйся, его же ради обогативый духовною благодатию. |
| Ікас 11 (Пятра) | |
| Радуйся, Риму великаго похвало, кровию светою своею и (г.зн. яго - *А.Н.*) посветивый; радуйся, Риму славнаго главо, пастыря стада Христова по собе в нем оставивый. | Радуйся, Риму великая похвало, в нем же течению край навершив, ко небеси стопы простер. |
| Ікас 12 (Паўла) | |
| Радуйся, ты Нерона царя римскаго посрамил и жену его на веру Христову навратил, радуйся ты, во прехвальном Риме вкупе с намесником Ісусовым мучение принял. | Радуйся, иже венценоснаго Нерона никакоже не усумнеся, но и виночерпца того верна во Христа Ісуса сотвори. Радуйся, иже крайним удивлением неверныя воины во веру привлекл, в сечении бо твоем кров и млеко множайше источил еси. |

Старонка з кнігі айца Аляксандра Надсана «Выбраныя малітвы з Малой падарожнай кніжкі», Лёндан, 1992

месцы ў тэксьце акафісту былі старанна падчышчаныя. «Сёньня мы б назвалі яго ўніятам», — пісаў айцец Аляксандар Надсан.

Тым ня менш факт застаецца фактам — свае выданьні Скарына прызначаў для «людзей паспалітых» грэцкага закону, якія ў часы кіраваньня мітрапаліта Іосіфа Солтана (1507–1522) пра Флярэнцкую Унію пачыналі ўжо забываць.

Ня выключана, што менавіта прахалоднае стаўленьне да кніг Скарыны стала прычынай канчатковага адʼезду першадрукара за мяжу.

Зрэшты, у якую б царкву ён ні хадзіў, сёньня Скарына належыць усім беларусам.



## ЦІ ДОБРЫМ ЛЕКАРАМ ЁН БЫЎ

У пачатку XVI стагодзьдзя дактароў мэдыцыны ў Эўропе было вельмі мала. Некаторыя навукоўцы мяркуюць, што ўсе яны былі знаёмыя паміж сабой ці, прынамсі, падтрымлівалі кантакты пры дапамозе перапіскі.

Прафэсія лекара ў тыя часы прыносіла дастатковы даход, каб чалавек мог заможна жыць. А ўзровень людзей, у якіх Скарына працаваў лекарам, сьведчыць ня толькі пра тое, што ён добра зарабляў, але і пра тое, што яго прафэсійны ўзровень задавальняў высокапастаўленых пацыентаў.

Удзельнік гістарычнага фэстывалю ў старадаўнім лекарскім аблачэньні

## Каго лячыў

Лекарскую адукацыю ў невядомым пакуль унівэрсытэце Эўропы Скарына атрымаў паміж 1506 і 1512 гадамі. Гісторыкі, як мы ўжо ведаем, усё больш схіляюцца да думкі, што ў гэтым самым прамежку часу Скарына пабываў і сакратаром караля Даніі Ганса, які кіраваў краінай у 1481–1513 гадах.

Зразумела, што будучы пры двары, Скарына мог лячыць і караля, і іншых высокапастаўленых дацкіх прыдворных, бо прафэсійныя лекары тады, без сумненьня, былі рэдкасьцю.



Старадаўнія мэдычныя інструмэнты

Больш за пяць гадоў Скарына быў сакратаром і лекарам віленскага біскупа Яна. Ён быў пазашлюбным сынам Жыгімонта I Старога і афіцыйна зваўся Янам з князёў Літоўскіх. Як сьвецкая асоба,

Ян кіраваў япархіяй і браў зь яе даходы. Скарына, такім чынам, лячыў сына караля і вялікага князя.

Пасьля Скарына стаў лекарам прускага герцага Альбрэхта, які вельмі шкадаваў, калі праз два гады славуты палачанін яго пакінуў.

## Навошта скраў друкара ў Каралеўцы

Можна, вядома, разважаць і пра тое, што Скарына больш аддаваўся перакладу і друкаваньню кніг, чым лекарскай справе. Ускосна пра гэта сьведчыць і ліст, напісаны прускім герцагам Альбрэхтам 26 траўня 1530 году віленскаму ваяводу Гаштольду, у якім Альбрэхт скардзіўся, што пры ад'езьдзе з Каралеўца Скарына забраў з сабой і мясцовага друкара.

З гэтага вынікае, што асьветнік зьбіраўся далей выдаваць кнігі, але зусім не вынікае, што ён менш увагі надаваў лекарскай справе.

Пры гэтым трэба разумець, што ў тыя часы непасрэдным лячэньнем людзей займаліся чараўнікі, траўнікі, знахаркі, цырульнікі, аптэкары, манахі, кавалі і нават гарадзкія ка́ты. Пры дварах каралёў і арыстакратаў была невялікая колькасьць дыплямаваных лекараў.

Дактары мэдыцыны практыкавалі рэдка — гэта была эліта навуковага сьвету, своеасаблівая арыстакратыя. Доктарская ступень давала яе ўладальніку пропуск у найвышэйшыя сфэры грамадзтва. Дактары мэдычных навук пераважна займаліся абмеркаваньнем тэарэтычных праблем мэдыцыны і філязофіі. Але былі сярод іх і тыя, хто сапраўды лячыў людзей.

Такім практыкуючым лекарам быў ужо згаданы раней віцэ-прыёр мэдычнай калегіі Падуанскага ўнівэрсытэту, доктар свабодных навук і мэдыцыны Тадэо Мусаці, які прадстаўляў Скарыну сваім калегам у Падуі і, магчыма, стаў прыкладам для маладога беларуса.

## Патрыёт прафэсіі

З усяго нам вядомага пра Скарыну можна зрабіць выснову, што ён быў добрым лекарам і патрыётам сваёй прафэсіі. Ён перадаў яе свайму сыну Сімяону, які практыкаваў у другой палове XVI стагодзьдзя ў Чэхіі.



Чарапы прафэсараў Падуанскага ўнівэрсытэту часоў Скарыны, якія завяшчалі свае целы навуцы

Таксама нельга не зьвярнуць увагі на той факт, што Скарына ганарыўся сваёй прафэсіяй і навуковай ступеньню доктара мэдыцыны. Усюды, дзе мог, ён падпісваўся тытулам «в лекарских науках доктор», хаця быў і доктарам свабодных навук.



## ЧАМУ ЁН ПАЧАЎ СВАЮ ДЗЕЙНАСЬЦЬ У ПРАЗЕ

Існуе некалькі вэрсіяў адказу на гэтае пытаньне.

### Вэрсія першая. Сям'я Турзо

Яна заключаецца ў тым, што каталіцкім біскупам Оламаўцу ў тыя часы быў Станіслаў Турзо, бацька якога, багаты горнапрамысловец Ян Турзо, фінансаваў славянскія выданьні Швайпальта Фіёля ў Кракаве. А брат Станіслава Турзо Жыгімонт, сакратар караля Вугоршчыны і Чэхіі Ўладзіслава II Ягайлавіча, быў у перапісцы са

Старамесцкі пляц Прагі

славутым вэнэцыянскім выдаўцом Альдам Піем Мануцыем.

Мяркуецца, што біскуп Оламаўцу Станіслаў Турзо мог быць апекуном Скарыны і нават даў яму рэкамэндацыйны ліст да Мануцыя.

## Вэрсія другая. Ягайлавічы — Добраўскі

Яшчэ адным немалаважным фактарам было тое, што каралямі і каралевамі Чэхіі ў той час былі прадстаўнікі дынастыі Ягайлавічаў — выхадцаў зь Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Гэта — другая вэрсія адказу на пытаньне, чаму Скарына пачаў сваю дзейнасьць у Празе.

Першым яе агучыў чэскі славіст XVIII стагодзьдзя Ёзэф Добраўскі, а ў нашым часе такой думкі прытрымліваецца чэская беларусістка Францішка Сокалава. У 1516 годзе памёр чэскі кароль Уладзіслаў II Ягайлавіч, родны брат польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта I Старога. Замест Уладзіслава II каралём стаў яго сын Людвік II, якому было усяго дзесяць гадоў. Апекуном малалетняга караля стаў яго дзядзька Жыгімонт I Стары.

Ёзэф Добраўскі лічыў, што Скарына падчас сваёй выдавецкай дзейнасьці знаходзіўся пад апекай дынастыі Ягайлавічаў. Дасьледчык лічыў, што Скарына браў удзел у Венскім кангрэсе 1515 году ў складзе дэлегацыі ВКЛ і Польшчы, на якім Габсбургі і Ягайлавічы абмяркоўвалі шляхі процістаяньня турэцкай кааліцыі і дынастычныя шлюбы. Менавіта адтуль Скарына мог накіравацца ў Вэнэцыю для вырабу шрыфтоў.



Люкас Кранах Малодшы. Партрэт караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта I Старога

Гады выхаду ў сьвет праскіх выданьняў Скарыны супадаюць з апякунствам Жыгімонта I Старога над сваім пляменьнікам Людвікам II. А калі у 1519 годзе чэскія паны не захацелі далей падтрымліваць апякунства Жыгімонта I, скончылася і дзейнасьць праскай друкарні Скарыны.

## Вэрсія другая, працяг

Разьвіваючы гіпотэзу Добраўскага, Францішка Сокалава зьвярнула ўвагу, што пазашлюбны сын Жыгімонта I Старога Ян з князёў Літоўскіх якраз у 1519 годзе стаў віленскім біскупам. Магчыма, з гэтым і быў зьвязаны пераезд Скарыны ў Вільню.



Невядомы мастак. Партрэт біскупа Яна з князёў літоўскіх

Вядома, што беларускі асьветнік шмат гадоў працаваў сакратаром біскупа Яна. І нават пасьля, калі Скарына ўжо ня быў супрацоўнікам біскупа, ён усё роўна карыстаўся біскупскай падтрымкай.

Так сталася ў 1532 годзе, калі пазнанскія габрэі засадзілі Скарыну ў турму за даўгі брата. Менавіта біскуп Ян дамогся ад свайго бацькі Жыгімонта І Старога выданьня дзьвюх беспрэцэдэнтных грамат, якія надалі Скарыну недатыкальны статус на ўсёй тэрыторыі Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага.

У 1530 годзе Скарына працаваў у прускага герцага Альбрэхта, які таксама паходзіў з роду Ягайлавічаў і быў унукам караля Казіміра IV.

І нават падчас другога прыезду ў Прагу беларускі асьветнік быў пад апякунствам Ягайлавічаў. Ён працаваў садоўнікам у садзе, які быў спэцыяльна закладзены Фэрдынандам I для сваёй жонкі каралевы Ганны, якая паходзіла зь Ягайлавічаў і была ўнучкай Соф'і Гальшанскай.

## Вэрсія трэцяя. Толькі Прага

Ну а трэцяя вэрсія вельмі простая. Прага ў часы Скарыны была адным з эўрапейскіх інтэлектуальных і друкарскіх цэнтраў.

Дастаткова сказаць, што першую друкарню ў Італіі ў 1465 годзе, яшчэ пры жыцьці Ёгана Гутэнбэрга, заснавалі два ягоныя вучні, выхадцы з Прагі Конрад Свэйнгейм і Арнальд Панартц.

Дзьвюм гэтым выдатным пэрсонам належыць павага нашчадкаў за стварэньне ў тым самым 1465 годзе новага шрыфту — готыкі-антыквы. Гэта было значнае дасягненьне тагачасных гравёраў. Праз пяць гадоў менавіта готыку-антыкву вэнэцыянскі гравёр Нікаля Жансон перапрацаваў у паўнавартасную гуманістычную антыкву, якая адыграла важную ролю ў эўрапейскай культуры.

Была Прага і цэнтрам славянскамоўнага кнігавыданьня. Да выхаду праскіх кніг Скарыны ўжо было выдадзена тры поўныя пераклады Бібліі на чэскую мову — у Празе ў 1488 годзе, у Кутнай Горы ў 1489 годзе і ў Вэнэцыі ў 1506 годзе. Чэская друкаваная Біблія стала трэцяй у сьвеце пасьля нямецкай (1466) і італьянскай (1471).


C Buoh wieczný a nesmrtedlný : yakož gest Cyrkew swú swatú ohradil zákonem a pý
smy swatými : aby z tee ohrady newystupowala : ale tu se pásla . Teež takee rozum nás
poyal w sluzbu wyery : aby se tau zprawuge : mohl z pysem swatých k blahoslawenstwý
przyguti. Ze pak wsseczka pysma gruntownye a gistá : gsú nám w biblý sepsána. Y pro
tož Czechowee vžytek weliký zákona božyeho znagýce : aby to dobré : netoliko w Czeském
národie : ale wssudy ginde mohlo se rozssyrzowati : wzali gsú nase tuto práczy Opatr
ný muzye . Jan Hlawsa. Waczlaw Sowa : Buryan Lazar : Starého miesta Prazskee
ho Miessiané : swých welikých nákladuow przytom nelitowali . Vczených lidy a o swye
czených w tom náslédugýcze : Aby to dobree czož gich praczý a náklady w lidi rozliczne
ho powolánye má vwedeno býti : bylo zprawnie a rozumnie . yakož buoh gich rozum
oswietiti ráczyl : vczynieno a zplna wyhledáno . Acž pak kolíwiek biblý gest prwé giž cze
ským i tisstiena literami : ale že w nýe w gistých mýestech byli gsú nékterzý nedostatkowee.
ti giž tuto gsú naprawení . Takee w prwé tisknutých knihách cztwrtých knih Ezdrásso
wých kteréž se porzyedku nalezagý nebylo gest . ale tuto y ten gest nedostatek naplnien .
K tomu také wyprawowanýe a rozum w krátkých slowyech nad každými knihami gest
položen : czo ty knyehy w sobie obecznéhо rozumu zawýeragý . Teež takee nad každou kapi
tolú : gest rozum krátcze sebraný czelee tee kapitoly : očzem a czo se w tee kapitole pokládaa .
a to slowe latýnie Contynuaczý . Nadto pak gesstie wýecze : srownánye pýsma swaté
ho gednoho s druhým : genž latýnie slowú Concordancý : wnie kromie textu przypsáno
gest . Nebo w rozliczynych knihách gednostayná rzecž a rozum pokládá se : a pýsmo s
pýsmem se srownáwá . Pakožto wsseczko každý opatrzý ktož bude czyesti s pilnostý . A gest
tisstiena w Benátkách w zemi wlásskee Leeta od narozenýe Syna božyeho Tisýczyeho pie
tisteeho ssesteeho


Старонка чэскай Бібліі 1506 году

А ў чэскай рукапіснай традыцыі на той час налічвалася 25 поўных перакладаў Бібліі на чэскую мову, 27 перакладаў Старога і 35 перакладаў Новага Запаветаў! Астатнія славянскія краіны нічога падобнага ня мелі.

Ня дзіва, што Скарына для выданьня першай беларускай Бібліі прыехаў у Прагу. А тое, што ў ягоным перакладзе сустракаюцца багемізмы (напрыклад, ён ужывае чэскае слова «гудба» замест музыкі), можа сьведчыць і пра тое, што Скарына добра валодаў чэскай мовай, а значыць жыў у Празе задоўга да выхаду першай беларускай друкаванай кнігі 6 жніўня 1517 году.

Асьветнік мог працаваць або вучыцца ў чэскай сталіцы у 1506–1512 або ў 1512–1517 гадах — пра гэтыя пэрыяды жыцьця Скарыны гісторыкі дакладнай інфармацыі ня маюць.

Ня выбраць Прагу месцам выданьня беларускіх кніжак было тады вельмі цяжка!



## ДЗЕ БЫЛА ЯГО ПРАСКАЯ ДРУКАРНЯ

Дакладна адказаць на гэтае пытаньне гісторыкі ня могуць. Існуюць толькі вэрсіі.

### Дом Конача

Адну зь іх высунуў вядомы расейскі дасьледчык спадчыны Скарыны прафэсар Яўген Неміроўскі. Ён заўважыў, што праская друкарня, якая належала чэскаму выдаўцу, пісьменьніку і перакладчыку Мікулашу Коначу, у 1517–19 гадах практычна не працавала, гэта значыць не

Фрагмэнт забудовы паўднёва-заходняга боку Старамесцкага пляцу Прагі

выдавала чэскіх кніг. А гэта якраз час выхаду ў сьвет праскіх выданьняў Францішка Скарыны. На думку Неміроўскга, Скарына арандаваў друкарню Конача, бо засноўваць уласную ў Празе было нерацыянальна.

У гэтай вэрсіі ёсьць і яшчэ адно ўскоснае пацьвярджэньне. Шрыфты для Конача ў Нюрнбэргу вырабляў майстар Геранім Гольцэль. А гісторыкі выявілі, што некаторыя гравюры скарынаўскіх выданьняў паходзяць зь Нюрнбэргу. Друкарня Конача была разьмешчана ў доме «U Bílého Lva» на Садавінным рынку, гістарычная забудова якога цяпер не існуе, хоць сама плошча з такой назвай у Старым горадзе Прагі засталася — яна забудаваная дамамі XIX стагодзьдзя.

Неміроўскі падмацоўвае сваю вэрсію і яшчэ адным імем. Гэта чэскі лекар, доктар мэдыцыны Мікулаш Клаўдыян, актыўны дзяяч гусіцкага



Садавінны рынак Прагі

руху з гораду Млада Болэслаў. Клаўдыян выдаваў свае кнігі ў Нюрнбэргу ў Гольцэля і супрацоўнічаў з Коначам. Неміроўскі лічыць, што менавіта Конач і Клаўдыян маглі зьвязаць Скарыну зь Нюрнбэргам. А там у той час жыў славуты мастак і гравёр Альбрэхт Дзюрэр.

## Дом Сэвэрына

Яшчэ адным праскім выдаўцом часоў Скарыны быў Ян Вольф, які жыў у доме «Šmerhof» на Старамесцкай плошчы. Гэты дом быў разбураны пры пашырэньні ратушы ў XIX стагодзьдзі, якая, у сваю чаргу, была амаль цалкам зьнішчаная немцамі падчас Праскага паўстаньня ў траўні 1945 году. Цяпер на гэтым месцы невялікі парк.

Самым вядомым праскім выдаўцом таго часу быў крамнік Сэвэрын, арганізатар выданьня чэскай Бібліі 1488 году. Дом Сэвэрына на Старамесцкай плошчы стаяў побач з домам Вольфа і быў разбураны яшчэ ў XVII стагодзьдзі.

Сёньняшнія чэскія навукоўцы схіляюцца да думкі, што Скарына арандаваў адну з друкарняў на Старамесцкім пляцы Прагі. Але чыю канкрэтна — сказаць ня могуць. Мяркуецца, што гэта магла быць друкарня Сэвэрына.

На карысьць гэтай вэрсіі сьведчыць той факт, што Сэвэрын памёр у 1519 годзе. З 1520 году яго справу (і друкарню) пераняў сын Павел, які пачаў там выдаваць свае кнігі. Паводле чэскіх гісторыкаў, Скарына якраз тады спыніў выданьне Бібліі




Месца на Старамесцкім пляцы Прагі, дзе стаялі дамы Вольфа і Сэвэрына

ў Празе, бо ўжо ня меў сродкаў на арэнду іншай друкарні, і зьехаў у Вільню.

Гісторыкі высьветлілі месца, дзе маглі стаяць дамы Вольфа і Сэвэрына. Гэта ззаду Старамесцкай ратушы, адрас Mikulášská 22/8. Але ніхто ня можа сказаць дакладна, ці была ў іх друкарня. Дакумэнты не захаваліся.

## Дом Яна Білага

У Сэвэрына быў паплечнік, яшчэ адзін са спонсараў выданьня чэскай Бібліі Ян Білы, дом якога, паводле крыніц, стаяў на Старамесцкай плошчы «насупраць ратушы». Некаторыя навукоўцы меркавалі, што і ў доме Білага магла працаваць друкарня. Паводле адукацыі і асноўнай працы Ян Білы, як і Скарына, быў лекарам.



Дом Яна Білага (у цэнтры)

Магчыма, прафэсійная блізкасьць Білага і Скарыны дала падставы чэскім навукоўцам Вацлаву Жыдліцкаму і Мілаславу Зіму лічыць, што Скарына друкаваў свае кнігі на Старамесцкай плошчы ў доме Яна Білага, пабудаваным у 1371 годзе насупраць ратушы і вядомым сёньня пад гістарычнай назвай — «U čarů». Яго адрас Staroměstské nám. 481/22.

Падсумоўваючы ўсё сказанае, можна зрабіць выснову, што месца выданьня Скарынавых кніг у Празе дакладна вызначыць немагчыма.

Сярод усіх згаданых будынкаў захаваўся толькі дом Яна Білага. Сымбалічна, што народжаны ў Беларусі Скарына мог друкаваць свае кнігі ў будынку з такой «беларускай» назвай — «У буслоў». Менавіта гэтак перакладаецца назва «U čarů».


бытья :~
Предъсловие доктора Франъ
циска Скорины с Полоцька во
всю Бивлию рускаго языка :~

## ЦІ ЎСЮ БІБЛІЮ ЁН ПЕРАКЛАЎ

Гісторыкі ведаюць, што друкаваныя выданьні ў XVI стагодзьдзі прадаваліся вельмі доўга, часам на гэта ішлі гады і нават дзесяцігодзьдзі. Тым ня менш раней ці пазьней наступаў час, калі ўвесь тыраж разыходзіўся. І тады кнігі пачыналі перапісваць. Так сталася і зь Бібліяй Скарыны.

Першую зь вядомых нам сёньня рукапісную копію Скарынаўскага выданьня — Псалтыра 1517 году — у 1543 годзе стварыў нехта Парфен, які жыў у Пінскім і Кобрынскім староствах. Пасьля за справу ўзяліся іншыя перапісчыкі, і ў другой палове XVI стагодзьдзя, а таксама ў XVII стагодзьдзі такіх копіяў зьявіліся дзясяткі. Многія зь іх дайшлі да нашага часу. Але некаторыя асабліва адметныя сваім зьместам.

---

Загаловак прадмовы Францішка Скарыны да Кнігі Быцьця з фразай «... во всю Бивлию рускага языка»

## Знаходка біскупа Цеханоўскага

У пачатку XIX стагодзьдзя Холмскі ўніяцкі біскуп Фэрдынанд Цеханоўскі, які паходзіў зь Сямятычаў на Беласточчыне, знайшоў рукапісную Біблію 1569 году. Пазьней ён падараваў яе бібліятэцы Варшаўскага ўнівэрсытэту. З тэксту вынікала, што рукапіс гэты быў створаны ў заходнеўкраінскім горадзе Тэрнопалі перапісчыкам




Біскуп Фэрдынанд Цеханоўскі

Луком, які акуратна перанёс на паперу друкаваныя кнігі праскай Бібліі Скарыны.

Пра рукапісную Біблію 1569 году пісалі некалькі навукоўцаў XIX стагодзьдзя, у тым ліку Самуэль Ліндэ, Яахім Ляляевель і Пятро Ўладзіміраў. Менавіта Ўладзіміраў яе падрабязна апісаў і апублікаваў гэтае апісаньне ў 1894 годзе.

Сэнсацыйнай асаблівасьцю Бібліі Лукі з Тэрнопалю было тое, што яна ўтрымлівала кнігі Старога Запавету, якіх сярод вядомых нам праскіх выданьняў Скарыны не было. Гэта дзьве Кнігі Параліпамэнан (або «Летапісаў»), чатыры Кнігі Эздры і Кніга Тобіі.

Біблія 1569 году захоўвалася ў Варшаве ў Бібліятэцы Красінскіх і загінула ў 1944 годзе ў пажары падчас Варшаўскага паўстаньня разам зь іншымі каштоўнымі рарытэтамі гэтага кнігазбору.

## Пагодзінскі рукапіс

Яшчэ адзін незвычайны варыянт рукапіснай Бібліі ў перакладах Скарыны зь яго прадмовамі да XIX стагодзьдзя захоўваўся ў Бібліятэцы Львоўскага базыльянскага манастыра сьвятога Ануфрыя, дзе, дарэчы, пахаваны расейскі і ўкраінскі першадрукар, беларус Ян Федаровіч (Іван Фёдараў).

У рукапісе некалькі разоў рукой перапісчыка адзначаецца, што манускрыпт створаны Дзьмітром зь Зінкава ў тым самым манастыры сьвятога Ануфрыя ў 1575 годзе.



Базыльянскі манастыр сьвятога Ануфрыя ў Львове

«Незвычайным» гэты рукапіс можна лічыць таму, што і ў ім прысутнічаюць біблійныя кнігі ў перакладзе Скарыны, якія ў друкаваным выглядзе да нас не дайшлі.

Гэта быў велізарны фаліянт на 741 старонку вялікага фармату. У 1843 годзе львоўскі краязнавец-русафіл Дзяніс Зубрыцкі падзяліў фаліянт амаль напалам і пераправіў другую яго частку ў Маскву, у кнігазбор вядомага навукоўца, прафэсара Маскоўскага ўнівэрсытэту Міхаіла Пагодзіна.

Цяпер гэтая частка рукапісу захоўваецца ў Расейскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу, а пачатак рукапісу — у Львоўскай навуковай бібліятэцы імя Васіля Стэфаніка.

Сярод біблійных кніг у львоўскай частцы прысутнічаюць невядомыя ў друкаваным выглядзе



Старонка рукапісу Дзьмітра зь Зінкава. Фота Міколы Нікалаева



Ініцыял з рукапісу Дзьмітра зь Зінкава, які адназначна скапіяваны са Скарынаўскага паўмесяца з чалавечым тварам.
Фота Міколы Нікалаева

дзьве Кнігі Летапісаў, якія яшчэ маюць агульную назву Параліпамэнан, а ў пецярбурскім кавалку ёсьць Кнігі Эздры, Тобіі, Макабэяў і 16 Кніг Прарокаў, якія ў друкаваным выглядзе да нас не дайшлі.

Яны, вядома, маглі і ня выйсьці друкам. Але ў гэтым выпадку цяжка было б патлумачыць, як, зь якой крыніцы на тэрыторыі сучасных Беларусі, Украіны і Польшчы ў XVI–XVII стагодзьдзях ствараліся рукапісныя сьпісы Скарынаўскай Бібліі ды яшчэ зь ягонымі прадмовамі?

Адпаведна, перад наступнымі пакаленьнямі навукоўцаў паўстае новы выклік — адшукаць невядомыя пакуль кнігі першай беларускай друкаванай Бібліі.

## Ці ўвесь Стары Запавет ён пераклаў?

Рукапісныя варыянты Скарынаўскіх перакладаў дапамагаюць нам адказаць і на пытаньне, ці ўвесь Стары Запавет Скарына пераклаў. Адказ відавочны — так, увесь. І пра гэта, дарэчы, некалькі разоў напісаў сам першадрукар. У прадмове да Плачу Ярэміі ён коратка расказаў пра гэтага прарока і дадаў:

«О том ширей написал есми во предословии своем на книги пророчества его».

Але Кніга Ярэміі ў Празе друкам не выходзіла, няма яе і ў вядомых сёньня рукапісных копіях Скарынавай Бібліі.

Яшчэ больш канкрэтна пра гэта Скарына напісаў у сваёй прадмове да Першай Кнігі Царстваў. Пералічыўшы ўсе кнігі Старога Запавету, у тым ліку і тыя, што да нас у друкаваным выглядзе не дайшлі (Параліпамэнан, Эздры, Тобіі і іншыя), Скарына заяўляе:

«О сих всех книгах, мною на руский язык ново выложенных и о именах их ширей в предословиах от мене на кожныи розделне положеных, выписано знайдеши».

Тут ён дакладна піша пра «ўсе кнігі» Старога Запавету і пра свае прадмовы да кожнай зь іх.

## Ці перакладаў Скарына Эвангельле?

У таго, хто цікавіцца гісторыяй беларускай культуры, можа паўстаць пытаньне, ці не спрабаваў Скарына перакласьці і Новы Запавет, Эвангельле? Дакладных зьвестак на гэты конт у гісто-


ние намъ ѡставляюще • Наконци Бивлии Апо
калипсим или Возъявления Книга светго Іоана
положена єстъ • Колико словъ имуще, толико та
инъ особе замыкающе • Ѡсихъ книгахъ всея Би
блии подле малости розуму моего розделы вократце
положихъ • Явчемъ быхся омылилъ, Разумнейшие попра
вте прошу ея, для бога идля посполитого доброго :~
Конецъ Предсловию всея Бивлии :~

Фрагмэнт прадмовы Францішка Скарыны да Кнігі Быцьця з фразай «О сихъ книгах всея Библии...»

рыкаў няма. Але і без такіх зьвестак можна рабіць даволі абгрунтаваныя высновы.

Францішак Скарына быў чалавекам буйнога маштабу, буйных магчымасьцяў і буйнога плёну. Няма сумненьня, што беручыся за пераклад Біблії, ён плянаваў перакласьці яе ўсю.

Пра гэта ён паведаміў нам сам, калі назваў прадмову да кнігі «Быцьця» наступным чынам: «Предъсловие доктора Франъциска Скорины с Полоцька во всю Библию рускаго языка». У гэтым тэксьце ён коратка апісвае зьмест кніг Старога і Новага Запаветаў, якія зьбіраецца выдаць у сваім перакладзе, і заканчвае яго наступным чынам:

«...А тако имате первую часть Бивлии высловену. Другая пак часть Бивлии, еже ест Новый закон спасителный, — суть книги четырех еувангелистов или светое благовествование Матфея, Марка, Луки, Іоана... Затым — Павел-апостол... Потом — Деания апостолская... Потом светый Яков, Петр, Іоан, Іуда седм соборных посланией...

На концы Бивлии — Апокалипсия... О сих книгах всея Бивлии, подле малости розуму моего, розделы вократце положих. А в чем бых ся омылих, разумнейшие поправте, прошу вас для бога и для посполитого доброго. Конець предсловию всея Бивлии».

Ягоных перакладаў Эвангельля пакуль ніхто ня бачыў. У сакавіку 1525 году ў Вільні выйшаў «Апостал» Скарыны, які складаўся з апостальскіх Дзеяў і апостальскіх Пасланьняў, выдадзеных, як і Псалтыр, на царкоўнаславянскай мове.

## Зачэпка для пошукаў

І вось яшчэ цікавая дэталь, якая можа распаліць фантазію любога аматара даўніны.

Рукапісы, пра якія тут ішла гаворка (як і ўсе астатнія тагачасныя помнікі пісьменства) за стагодзьдзі свайго існаваньня ня раз дзялілі на часткі, падшывалі ў новыя пераплёты, на іх палях пісалі камэнтары, іх дапісвалі, размалёўвалі, кралі, прадавалі, гублялі і знаходзілі. Рэдка які зь іх дайшоў да нас у поўным камплекце, з пачаткам і канцом.

Гэтак сталася і з рукапісам 1569 году, які быў знойдзены ў пачатку XIX стагодзьдзя ўніяцкім біскупам Фэрдынандам Цеханоўскім. Гэтая рукапісная Біблія таксама не была камплектнаю, яна складалася зь некалькіх дзясяткаў кніг Старога Запавету. Але затое яна мела тытульны аркуш, на якім было напісана, што рукапіс складаецца як з кніг Старога, так і Новага Запаветаў!

Гэта не абавязкова азначае, што той страчаны Новы Запавет быў перакладам Францішка Скарыны, але хто ведае...

Можа некалі будуць знойдзеныя новыя тэксты Скарыны, якія дапамогуць нам лепш ацаніць абсяг яго перакладчыцкага і выдавецкага подзьвігу.



## ЯК ЁН ПЕРАМОГ У ДЫСПУЦЕ ПАРАЦЭЛЬСА

Каб зразумець, чым у 20-я гады XVI стагодзьдзя Вільня прывабіла славутага ў будучыні прафэсара мэдыцыны Базэльскага ўнівэрсытэту Філіпа Аўрэола Тэафраста Бамбаста фон Гогенгайма, больш вядомага як Парацэльс, трэба зразумець, якой у часы Скарыны была сталіца Вялікага Княства Літоўскага.

---

«Дыспут». Загалоўная гравюра да Кнігі Ісуса Сірахава

## Вільня ў XVI стагодзьдзі

Горад быў падзелены на Рускую і Літоўскую паловы. Руская, або — на сучаснай мове — Беларуская, займала ўсходнюю частку і была ў два разы большая за літоўскую, дзе жылі літоўцы і палякі. У горадзе было 7 цэркваў рымскага закону і 14 цэркваў грэцкага закону. Дзьве траціны насельніцтва гораду складалі беларусы.

Горадам кіравала Рада ў складзе 24 радцаў і 12 бурмістраў. Магдэбурскае права было нададзена




Мапа Вільні XVI стагодзьдзя

«абодвум законам», таму адна палова радцаў і бурмістраў заўсёды належала да царквы рымскага закону, а другая — да царквы грэцкага закону. На практыцы горадам кіраваў магістрат, у які ўваходзілі два бурмістры і чатыры радцы. Склад магістрату мяняўся штогод.

Судовая ўлада належала Лаве, якой кіраваў пажыцьцёва абіраны войт.

Самыя важныя пытаньні, напрыклад, завядзеньне новых падаткаў, вырашаліся на агульным сходзе паспольства.

У горадзе былі Верхні і Ніжні замкі, Палац каралевы, Нямецкі і Маскоўскі дамы для купцоў, палацы членаў Паноў-рады і іншых магнатаў ВКЛ. Галоўнай вуліцай была Замкавая, якая пераходзіла ў Вялікую.

На поўдні, захадзе і поўначы, дзе не было ракі, горад атачала мураваная сьцяна з чатырма вежамі-брамамі — Вілейскай, Троцкай, Рудніцкай і Вострай (Медніцкай). Троху пазьней сьцяну працягнулі і па беразе Вілейкі, пабудаваўшы пятую браму — Спаскую.

У горадзе існавала 20 рамесьніцкіх цэхаў. У Вільні жыў Скарынаў брат Іван, які быў нашмат старэйшы за Францішка, яшчэ ў іх было дзьве сястры.

## Пяць дактароў мэдыцыны ў адным горадзе

Вільня ў 20-я гады XVI стагодзьдзя была перадавым у мэдычным сэнсе горадам. У тыя часы ў сталіцы ВКЛ працаваў выдатны беларускі лекар, доктар мэдыцыны і свабодных навук Марцін




Пячатка віленскага цэху мэдыкаў

Душнік. Ён заснаваў першую ў Вільні бальніцу — шпіталь сьвятой Марыі Магдалены, які месьціўся ў спэцыяльна пабудаваным для гэтага будынку пад Замкавай гарой.

Агулам у той час у Вільні жыло пяць дактароў мэдыцыны. Гэта Францішак Скарына, Марцін Душнік, Мэндэль Франк, Ян Валентус і доктар Томас. Прафэсар Неміроўскі сьцьвярджае, што ніводзін з тагачасных польскіх, чэскіх або нямецкіх гарадоў ня мог пахваліцца такой колькасьцю дактароў мэдыцыны, якія б там жылі ў адзін час.

З гэтага робіцца зразумелым, чаму Вільня вабіла і іншых славутых мэдыкаў — тады былі папулярныя дыспуты паміж навукоўцамі.

## Ці спрачаўся Скарына з Парацэльсам?

Выдатны беларускі гісторык Валянцін Грыцкевіч першы ў 80-я гады мінулага стагодзьдзя зьвярнуў увагу на той факт, што якраз у часы жыцьця Скарыны ў Вільні туды наведаўся і Парацэльс. Гэта адбылося паміж 1520 і 1525 гадамі.




Квэнтын Масэйс. Партрэт Філіпа Аўрэола Тэафраста Бамбаста фон Гогенгайма, больш вядомага як Парацэльс

Парацэльс падарожнічаў па многіх гарадах Эўропы, ён быў рэфарматарам мэдыцыны і актыўна заклікаў навуковую супольнасьць адмаўляцца ад старых догмаў. У канцы жыцьця Парацэльс напісаў мэмуары, у якіх ёсьць аповед і пра яго падарожжа ў Літву. Там Парацэльс прызнаецца, што падчас дыспуту ў Вільні зь мясцовымі дактарамі мэдыцыны ён пацярпеў зьнішчальную паразу і быў выгнаны з гораду.

Дык вось Валянцін Грыцкевіч, а ўсьлед за ім і Яўген Неміроўскі лічаць, што Скарына ня мог ня браць удзелу ў тым дыспуце, бо наш асьветнік, як і іншыя дактары мэдыцыны, уваходзіў у гуманістычны гурток пры Віленскай курыі, якім кіраваў біскуп Ян. Толькі зь імі і мог спрачацца ў Вільні Парацэльс.



## ЦІ ХАЦЕЎ ЁН АТРУЦІЦЬ ЛЮТЭРА

У 30-я гады XIX стагодзьдзя славенскі лінгвіст Ернэй Капітар напісаў зь Вены некалькі лістоў свайму прыяцелю, аднаму са славутых братоў Грымаў — Якубу, які тады жыў у Гётынгене. Капітар настойліва прасіў сябра даведацца ў сваіх знаёмых зь Вітэнбэргу, ці не пабываў там у пачатку XVI стагодзьдзя беларускі першадрукар Францішак Скарына.

---

Люкас Кранах Старэйшы. Партрэт Марціна Лютэра

Ернэй Капітар, Якуб Грым, Францішак Скарына — што агульнага можа быць паміж гэтымі людзьмі? Аказваецца, такі агульны назоўнік у іх ёсьць — гэта гісторыя жыцьця і дзейнасьці заснавальніка нямецкай Рэфармацыі Марціна Лютэра.

## Пра што пісаў Капітар

Грым Капітару не дапамог, але той у 1839 годзе ўсё роўна зьмясьціў у сваім навуковым зборніку артыкул пад сэнсацыйнай назвай «Гістарычнае пытаньне пра доктара мэдычнага факультэту Прагі Францішка Скарыну, які інтрыгаваў супраць доктара Марціна Лютэра».

У артыкуле сьцьвярджалася, што ў 1525 годзе ў тагачасную сталіцу нямецкай Рэфармацыі — Вітэнбэрг, прыяжджаў для сустрэчы зь Лютэрам «doctor Fransiscus polonus» (доктар Францішак паляк).

Капітар пісаў, што доктар Францішак спачатку сустрэўся з найбліжэйшым паплечнікам і сябрам Лютэра Філіпам Мэлянхтонам, на якога зрабіў вялікае ўражаньне сваёй вучонасьцю. Захоплены Мэлянхтон запрасіў доктара Францішка дадому на абед, куды прыйшоў і Марцін Лютэр. Падчас абеду, які зацягнуўся да позьняга вечара, прыежджы доктар зрабіў моцнае ўражаньне і на Лютэра.

Лідэр Рэфармацыі не вагаючыся запрасіў Францішка на заўтра да сябе на сьняданак для гульні ў шахматы.

«Аднак, калі Лютэр павячэраў і амаль апоўначы вярнуўся дадому, — пісаў далей Капітар, —



Люкас Кранах Старэйшы. Партрэт Філіпа Мэлянхтона

яму ў галаву прыйшла думка пра папярэджаньне сяброў, зробленае чатыры гады перад тым, каб ён баяўся нейкага польскага доктара Францішка, найхітрэйшага прайдоху, якога біскупы падгаварылі за дзьве тысячы залатых зжыць Лютэра са сьвету».

Заснавальнік Рэфармацыі нібыта так напалохаўся, што ўцёк у горад Торгаў, адкуль напісаў ліст у магістрат Вітэнбэргу з просьбай схапіць паляка і падвергнуць яго катаваньням. Аднак, паводле Капітара, д'ябальскімі сіламі доктар Францішак зачараваў членаў магістрату і тыя яго адпусьцілі.

У канцы артыкулу сьцьвярджалася, што палякам Францішкам, які прыяжджаў у Вітэнбэрг,

быў Францішак Скарына — паводле Капітара, «грэка-католік, які, сам перакладаючы Біблію з Вульгаты, быў праціўнікам Лютэра, які перакладаў з арыгіналу». Застаецца, пісаў Капітар, адшукаць у архівах Вітэнбэргу хаця б нейкую згадку пра Скарыну, і факт яго прыезду ў Вітэнбэрг будзе канчаткова даказаны.

Аднак такіх дакумэнтаў ніхто дагэтуль не знайшоў.

## Ці быў Скарына ў Вітэнбэргу

Гіпотэза пра сустрэчу Скарыны зь Лютэрам дала падставы многім навукоўцам у XIX стагодзьдзі пісаць пра Скарыну як пра пратэстанта, хаця сам Капітар называў Скарыну уніятам.

Пасьля публікацыі славенскага славіста ў навуковых колах пачалі спрачацца, ці сапраўды Скарына мог пабываць у 1525 годзе ў Вітэнбэргу. Большасьць навукоўцаў сьцьвярджала, што ня мог, бо якраз у 1525 годзе ён быў заняты ў Вільні друкаваньнем «Апостала».

Вэрсію Капітара пра сустрэчу Скарыны і Лютэра ў 1525 годзе канчаткова пахаваў расейскі гісторык Яўген Неміроўскі. У тэксьце Капітара ён зьвярнуў увагу на кароткую згадку пра нямецкага гісторыка XVII стагодзьдзя і біёграфа Лютэра Фэйта Людвіга фон Зэкендорфа, які «прытрымліваўся іншай думкі пра гэты інцыдэнт».

У біяграфіі Лютэра Зэкендорф пісаў, што «Лютэру самому даводзілася апасацца атруты, якой яго спрабаваў атруціць адзін габрэйскі лекар з Польшчы; яму заплацілі за гэта 2000 дука-

таў. Габрэй прыехаў у Вітэнбэрг і меў бы посьпех у сваім намеры, каб ня добры сябар Лютэра, які папярэдзіў яго».

Далей Зэкендорф пісаў, што зламысьніка схапілі, але Лютэр яму дараваў і адпусьціў. Усё гэта адбывалася ў 1525 годзе, імя «габрэйскага лекара» (у лацінскім арыгінале пададзенага як «доктар мэдыцыны») Зэкендорф не назваў.

Неміроўскі зьвярнуў увагу на тое, што пра доктара Францішка як пра сябра некалькі разоў вельмі цёпла згадваў у сваіх лістах сам Лютэр. Гэты Францішак, пісаў Неміроўскі, калі меркаваць па лістах Лютэра, знаходзіўся ў Вітэнбэргу прынамсі з 21 сьнежня 1524 году па 15 верасьня 1525 году. 17 верасьня 1525 году Лютэр ужо пісаў ліст з гораду Торгаў. У паказальніку імёнаў да




Гістарычны цэнтар Вітэнбэргу

акадэмічнага выданьня твораў Лютэра 1978 году каля імя Franzuskus, Dr. напісана «польскі габрэй у Вітэнбэргу».

Яўген Неміроўскі зрабіў выснову, што кім бы ні быў гэты польскі доктар Францішак, у азначаны пэрыяд 1524–1525 гадоў беларускага першадрукара Францішка Скарыны ў Вітэнбэргу не было — у гэтым часе ён знаходзіўся ў Вільні і займаўся друкаваньнем і распаўсюджваньнем свайго «Апостала». Згадваецца Скарына ў віленскіх дакумэнтах яшчэ і ў сакавіку 1526 году як прысутны пры зацьвярджэньні аднаго зь юрыдычных актаў.

Тым ня менш, знайшоўся ў гэтай сытуацыі і яшчэ адзін аспэкт.

## Два візыты, два Францішкі

У другой палове XX стагодзьдзя магчымасьцю сустрэчы Скарыны зь Лютэрам зацікавіўся беларускі эміграцыйны гісторык Сымон Брага (Вітаўт Тумаш).

Капітар у сваім артыкуле, як памятаем, не падаў дакладнай крыніцы інфармацыі пра сустрэчу ў Вітэнбэргу. Але Сымон Брага адшукаў у некалькіх раньніх біяграфіях Лютэра згадку пра прыезд польскага доктара Францішка ў Вітэнбэрг. Паводле Брагі, гэты сюжэт сустракаецца там у розных вэрсіях. Адны называлі госьця з Польшчы доктарам мэдыцыны, іншыя астраномам, матэматыкам і г. д. Паводле адной зь біяграфій, вучоны чалавек прыяжджаў у Вітэнбэрг да



Працоўны кабінэт Марціна Лютэра ў Вітэнбэргу

Лютэра з намерам арганізаваць там друк Бібліі на нейкай чужой мове.

Паводле Сымона Брагі, Скарына як грамадзянін Вялікага Княства Літоўскага, з увагі на тагачасную пэрсанальную Унію ВКЛ і Польшчы, быў адначасова і падданым польскага караля Жыгімонта I Старога (ён жа Вялікі князь Літоўскі). Таму ў Нямеччыне Скарыну маглі назваць палякам.

Вывучыўшы старыя нямецкія хронікі і сьведчаньні самога Лютэра, Сымон Брага заўважыў, што дактароў з Польшчы, якія прыяжджалі да Лютэра было найменш два — адзін наведаў Вітэнбэрг у 1525 годзе, а другі, паводле словаў самога Лютэра, на 7–8 гадоў пазьней — у 1532–33 гадах.

Брага зьвярнуў увагу, што пачатак 30-х гадоў XVI стагодзьдзя — гэта той час, калі Скарына дакладна быў у Кракаве і Познані — вельмі недалёкіх ад Вітэнбэргу гарадоў. Таксама ён мог быць і яшчэ ў адным блізкім да Вітэнбэргу горадзе — Уроцлаве. Брага знайшоў сьведчаньне яшчэ аднаго блізкага сябра і паплечніка Лютэра — Ёгана Матэзіюса, які пісаў, што доктар чужынец прыехаў у Вітэнбэрг з Уроцлава.

Менавіта там у XIX стагодзьдзі былі знойдзеныя ў пераплётах кніг сярэдзіны XVI стагодзьдзя старонкі з праскай Бібліі Скарыны, і дагэтуль невядома, як яны туды трапілі. Мясцовы пераплётчык выкарыстоўваў іх для рамонту вокладак пашкоджаных кніг.

Выказвалася меркаваньне, што ня сшытыя ў пераплёты друкаваныя аркушы Скарыны маглі быць канфіскаваныя каталіцкімі ўладамі падчас падарожжа першадрукара з Прагі ў Вільню ў 1520 годзе. У Польшчы такое ўжо здаралася, у прыватнасьці, там у 1491 годзе былі канфіскаваныя і зьнішчаныя царкоўнаславянскія кнігі Швайпальта Фіёля. Але цяпер, як бачым, час і прычыны зьяўленьня непераплеценых аркушаў Скарыны ва Ўроцлаве могуць быць і іншыя.

## Новы выдавецкі праект ці заканчэньне старога

Вядома, што ў 1530 годзе Скарына нечакана зьехаў з Каралеўца (Кёнігсбэргу), дзе працаваў лекарам у прускага герцага Альбрэхта, і без дазволу ўладара Прусіі забраў з сабой ягонага друкара.



Люкас Кранах Старэйшы. Партрэт прускага герцага Альбрэхта

Герцаг пакрыўдзіўся і напісаў скаргу на Скарыну віленскаму ваяводу Гаштольду.

Усе гэтыя акалічнасьці далі падставу Сымону Брагу сьцьвярджаць, што гісторыкі дачасна абверглі магчымасьць сустрэчы Скарыны зь Лютэрам у Вітэнбэргу на той падставе, што беларускі першадрукар быў ў 1525 годзе заняты друкаваньнем «Апостала» ў Вільні.

Паводле Брагі, сустрэча магла адбыцца ў 1532–33 гадах, і для такой высновы ёсьць важкія дакумэнтальныя падставы.

## Скарына — платны забойца?

Ці мог Скарына быць агентам Каталіцкай царквы, які за плату зьбіраўся атруціць Марціна Лютэра? Практычна, няма шанцаў. Усё, што мы ведаем пра першадрукара, а таксама тэксты ягоных прадмоваў да кніг Бібліі, сьведчаць, што ён быў глыбока веруючым, прыстойным чалавекам, апантаным сваёй асьветніцкай і выдавецкай справай.

Ён сапраўды мог зьбірацца працягнуць друкаваньне беларускага перакладу Бібліі ў пачатку 30-х гадоў, для чаго езьдзіў да Лютэра па дапамогу ў арганізацыі такога выданьня. Сувязі Скарыны з памяркоўным дзеячамі чэскай Рэфармацыі — вядомыя. Зрэшты, мог Скарына пабываць у Вітэнбэргу і зь іншымі, невядомымі нам мэтамі.

Дакумэнтальных архіўных зьвестак пра ўсё гэта няма. Трэба весьці дадатковыя пошукі ў нямецкіх архівах і старых хроніках.

У чым нельга сумнявацца, дык гэта ў тым, што калі б сустрэча ў Вітэнбэргу адбылася, Францішак Скарына сапраўды мог бы ўразіць сваёй вучонасьцю і Марціна Лютэра, і Філіпа Мэлянхтона.




## ЦІ БЫЎ ЁН ГУМАНІСТАМ

Эпоха Рэнэсансу пачалася ў Італіі каля 1300 году. Рэнэсансная культура паводле свайго характару і зьместу была хрысьціянскай. Але ня толькі. Асаблівасьцю Рэнэсансу стаў гуманізм або ўвага і павага да чалавека, яго асобы і прыродных правоў. Цэнтар мастацкай увагі пачаў паступова перамяшчацца з Бога на чалавека.

Раньнія гуманісты ставілі сабе за мэту паляпшэньне прыроды чалавека шляхам вывучэньня спадчыны антычных аўтараў. Для гэтага іх спачатку пачалі перавыдаваць на лаціне, а пасьля і перакладаць на народныя мовы. Назва гэтай

---

Першы італьянскі гуманіст Францэска Пэтрарка (1304–1374) і яго каханая Лаўра. Сучасны малюнак

духоўнай зьявы паходзіла ад лацінскага слова *humanus* — чалавечы, але грунтавалася і на другім яго значэньні: з лацінскай мовы *humanus* можа перакладацца і як «высокаадукаваны».

## Два ўзроўні гуманізму

Паступова ў эпоху Рэнэсансу сфармаваліся два ўзроўні гуманізму — «элітны», які вызнавалі аб'яднаныя ў гурткі-акадэміі высокія інтэлектуалы: філёзафы, пісьменьнікі і мастакі, і «народны» — хрысьціянскі паводле формы, але са сьвецкімі задачамі свабоды думкі, адукацыі, індывідуалізму. Да гэтага другога тыпу належаў і Скарына.

Нашага Францішка Скарыну вывучаюць ужо больш за два стагодзьдзі, і спрэчкі вакол яго по-



Росьпіс баптыстэрыя царквы Сьвятога Урбана ў Падуі. XIV стагодзьдзе. У гэтай царкве 5 і 6 лістапада 1512 году прайшлі першыя два этапы доктарскага экзамэну Скарыны

глядаў і спадчыны не сьціхаюць. Спрачаюцца і наконт гуманізму Скарыны. Нядаўна чэскі гісторык Пэтр Войт заявіў, што Скарына ня быў гуманістам у клясычным сэнсе гэтага слова. Паводле Войта, Скарына не перакладаў Біблію з клясычных моваў Сьвятога Пісаньня — габрэйскай, арамейскай і грэцкай, не перакладаў іншых антычных аўтараў і г. д., а значыць — і ня быў гуманістам.

## Погляд беларускіх навукоўцаў

Беларускія навукоўцы, аднак, ня згодныя з такой інтэрпрэтацыяй. Пэтр Войт дае трактоўку гуманізму на стадыі яго нараджэньня ў Італіі ў XIV–XV стагодзьдзях. Тым ня менш паступова, па меры разьвіцьця і пашырэньня гуманізм пачаў дэмакратызавацца і набываць рысы другога тыпу — народнага, які абапіраўся ня столькі на антычную спадчыну, колькі на хрысьціянства.

Беларускі філёзаф, прафэсар Сямён Падокшын некалі пісаў пра гуманізм Скарыны так:

«Для Скарыны як мысьліцеля характэрная спроба гуманістычнай інтэрпрэтацыі Сьвятога Пісаньня. У прадмовах ён імкнуўся з дапамогай біблійных тэкстаў апраўдаць і абгрунтаваць гуманістычныя ідэі Рэнэсансу аб рэлігійнай і маральнай аўтаноміі чалавека, яго годнасьці, якая вызначаецца ня столькі паходжаньнем альбо сацыяльным становішчам, колькі інтэлектуальна-маральнымі дабрачыннасьцямі і асабістымі заслугамі».

Гэта вельмі дакладнае азначэньне.

## Стары Запавет як бэлетрыстыка XIV–XV стагодзьдзяў

Біблія ў часы Рэнэсансу была асноўнай (хоць і не адзінай) крыніцай натхненьня мастакоў і пісьменьнікаў. Можна нават сказаць, што Стары Запавет ва ўмовах няразьвітасьці літаратуры быў бэлетрыстыкай XIV–XV стагодзьдзяў.

У часы Скарыны простыя вернікі Біблію не чыталі, бо добра ня ведалі ні царкоўнаславянскай, ні лацінскай моваў. А нярэдка гэтых моваў ня ведалі і сьвятары. Гуманістычны подзьвіг Скарыны заключаецца ў тым, што ён першы ў нашым народзе зразумеў патрэбу шырокай народнай асьветы і пераклаў Біблію на зразумелую мову, прычым ня толькі для царкоўных патрэбаў, але і для сьвецкіх людзей. Пра гэта ён напісаў так: «Богу ко чти и людем посполитым к доброму научению».

У сваіх прадмовах і пасьляслоўях Скарына выявіў глыбокія гістарычныя веды, прыгожыя і цьвёрдыя маральныя прынцыпы. А да таго ж у поўнай адпаведнасьці з гуманістычнымі стандартамі таго часу і рэнэсанснай самапавагай уставіў у Біблію свой партрэт!

Так што мы з поўным правам можам называць Скарыну беларускім гуманістам эпохі Адраджэньня.



## ЯК ЁН ЗНАЙШОЎ БЕЛАРУСАМ АНТЫЧНАСЬЦЬ

Усе Скарынавы выданьні маюць рэлігійны характар і прызначаныя або для выкарыстаньня падчас царкоўнага набажэнства, або для прыватнай малітвы і чытаньня. У гэтым няма нічога дзіўнага, бо рэдка які тагачасны чалавек мысьліў сябе бязь веры і рэлігіі.

Думка і мастацтва Рэнэсансу спачатку былі пераважна хрысьціянскімі паводле формы і зьместу, і толькі паводле духу яны паступова рабіліся гуманістычнымі. Дух выданьняў Скарыны (найперш форма іх падачы), а таксама ягоныя прадмовы і пасьляслоўі не пакідаюць сумненьня ў іх рэнэсансна-гуманістычнай скіраванасьці.

---

Антычны Рымскі форум (зьлева) і абраз з выявай сьвятога Кірылы Тураўскага (справа), каляж

## Розныя спадчыны Беларусі і Італіі

Але тут ёсьць пэўная асаблівасьць. Аб’яднаныя ў гурткі-акадэміі італьянскія гуманісты пагарджалі сваёй барбарскай, як яны лічылі, сучаснасьцю і тужылі па часах росквіту Рыму, па рымскай клясыцы.

Архітэктарам, напрыклад, не падабалася цесната гарадоў, вузкасьць вуліц. Яны езьдзілі ў Рым, раскопвалі руіны, апісвалі і абмяралі іх, каб пасьля паўтарыць у новых праектах. І раманскі стыль, і стыль рэнэсанс, і клясыцызм былі вяртаньнем да архітэктуры антычнага Рыму. Тое самае рабілася і ў іншых галінах мастацтва. Мастакі вярталі антычную пэрспэктыву і аб’ёмы,



Выстава антычных скульптур Грэцыі і Рыму ў Новай гліпатэцы Карлсбэрга ў Капэнгагене



Выява сьвятой на сьцяне ў Спаса-Эўфрасіньнеўскай царкве ў Полацку

скульптары — антычную дасканаласьць формаў і прапорцый, замілаваньне чалавекам і г. д.

Сапраўдныя жарсьці віравалі вакол артэфактаў старажытных Грэцыі і Рыму, іх калекцыянавалі, кралі, куплялі і прадавалі, каб іх здабыць, арганізоўваліся цэлыя экспэдыцыі на грэцкія астравы.

У італьянцаў была свая клясыка — часы антычнасьці, калі разьвівалася як рэлігійнае, так і сьвецкае мастацтва. У беларусаў сьвецкай клясыкі не было. Уся наша клясыка пачалася пасьля прыняцьця хрысьціянства ў X стагодзьдзі і насіла амаль выключна рэлігійны характар.

Цяпер гісторыкі дакладна ня ведаюць, ці была ў канцы XV – пачатку XVI стагодзьдзяў у Бела-

русі хоць адна школа апрача школы пры каталіцкай катэдры ў Вільні. Некаторыя мяркуюць, што школа магла быць і пры полацкім Сафійскім саборы.

З пункту гледжаньня ўнівэрсытэцкіх гарадоў Эўропы, з пункту гледжаньня Вэнэцыі, дзе Скарына на той час ужо пабываў, беларускі народ інтэлектуальна яшчэ спаў. І абудзіць яго магла толькі самая важная і самая распаўсюджаная кніга таго часу — Біблія. Таму Скарына і ўзяўся за яе пераклад і выданьне.

## Што менавіта ён выдаў

Пачаў ён 6 жніўня 1517 году з выданьня Псалтыра. Гэта кніга Старога Запавету, якая складаецца са 150 старажытных гімнаў. Скарына сам гэтыя тэксты ўклаў і пракамэнтаваў.

Пасьля ён выдаў у Празе 22 кнігі Старога Запавету, першай зь якіх стала Кніга Ёва на 52 аркушах. Яна ўбачыла сьвет 10 верасьня 1517 году.

У 1522 годзе ў Вільні Скарына выдаў «Малую падарожную кніжку» — гэта зборнік рэлігійных тэкстаў, у які ўваходзяць Псалтыр, Часаслоў, а таксама восем акафістаў (кароткіх набажэнстваў у гонар Багародзіцы, апосталаў і розных сьвятых, па адным на кожны дзень і два на чацьвер) і зьвязаныя зь імі каноны (або кандакі).

У 1525 годзе сьвет пабачыў «Апостал», у які ўвайшлі «Дзеі апосталаў», саборныя пасланьні апосталаў Якуба, Пятра, Яна і Юды, а таксама пасланьні апостала Паўла.

Але выдаваў Скарына свае рэлігійныя кнігі зь вельмі важнай асаблівасьцю, якая хаваецца ў шрыфтах.

## «Славянская антыква» Скарыны

Ужо згаданы тут вялікі італьянскі матэматык Люка Пачолі ў 1509 годзе надрукаваў у Вэнэцыі сваю славутую працу пад назвай «Боская прапорцыя». Яна прызначалася для ўсіх, хто займаўся жывапісам, графікай, скульптурай, архітэктурай, музыкай і філязофіяй — усе гэтыя мастацтвы Пачолі лічыў матэматычнымі. У «Боскай прапор-




Антыква Мануцыя




Прыклад «славянскай антыквы» Скарыны

цыі» быў разьдзел і пра пабудову гарманічнага друкарскага шрыфта, вельмі папулярны сярод тагачасных друкароў.

Скарына ў Вэнэцыі мог пазнаёміцца з гэтай кнігай, якая выйшла ўсяго за тры гады перад яго прыездам туды. На жаль, прапорцыі шрыфтоў Скарыны добра ня вывучаныя, асабліва калі мова ідзе пра іх адпаведнасьць і сувязь з ідэямі Леанарда да Вінчы, якія ў «Боскай прапорцыі» разьвіваў яго сябар Люка Пачолі.

Затое дакладна вядома, што шрыфты Скарыны зазналі вялікі заходні ўплыў. Паводле Віктара

Шматава, на іх адчуваецца моцнае ўзьдзеяньне лацінскай антыквы, у прыватнасьці італьянскай і нямецкай. Антыквай называецца тып шрыфтоў акруглай формы з характэрнымі засечкамі, прыдуманы ў Вэнэцыі ў 1470 годзе гравёрам Нікаля Жансонам.

У часы Рэнэсансу ў выкарыстаньні тых або іншых шрыфтоў існаваў жорсткі падзел. Эўрапейскія друкары часоў Скарыны ўжывалі антыкву для выданьня толькі антычных тэкстаў і твораў сучасных гуманістаў, а для царкоўных, рэлігійных кніг ужывалі гатычныя шрыфты. Гэты падзел быў вельмі важны — для велічнай антычнай спадчыны і яе сучасных адэптаў быў патрэбны асобны шрыфт.

Скарына ня мог пра гэта ня ведаць і, тым ня менш, зьвярнуўся да антыквы і выкарыстаў яе элемэнты (у прыватнасьці, засечкі) пры выданьні менавіта рэлігійных тэкстаў — мы бачым іх усюды, дзе першадрукар выкарыстоўвае загалоўныя літары: на тытульных лістах, на подпісах да гравюраў і г. д. Цяжка сумнявацца, што зрабіў ён гэта сьвядома. Гэта дадатковы доказ рэнэсансных матываў і гуманістычнай скіраванасьці яго творчасьці.

## Беларуская клясыка

Гісторыю і сюжэты антычнасьці для беларусаў, якія сваёй антычнасьці ня мелі, Скарына вырашыў замяніць сюжэтамі і гісторыяй біблійнымі. Гэта быў адзіна магчымы шлях, бо пасьля прыняцьця хрысьціянства ў X стагодзьдзі духоўнае

жыцьцё нашага народу канцэнтравалася вакол хрысьціянскай царквы. Творы і дзейнасьць Эўфрасіньні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Аўраамія Смаленскага або Клімэнта Смаляціча з вышыні XVI стагодзьдзя выглядалі беларускай клясыкай — чытай, антычнасьцю.

Вось чаму, расказваючы беларусам пра герояў Старога Запавету або зьмяшчаючы ў «Малой падарожнай кніжцы» акафісты, напісаныя Кірылам Тураўскім, Скарына вяртаў беларусам іх клясыку і адначасова абуджаў народ да новага інтэлектуальнага і культурнага жыцьця. І рабіў ён гэта, выкарыстоўваючы мэтады і сродкі італьянскага Рэнэсансу.

Таму мы і называем яго асьветнікам-гуманістам. Такога тытана ніхто з нашых суседзяў ня мае.



## ЧАМУ ЁН СТАЎ ТРУБАДУРАМ ЗАГІБЛАГА САСЛОЎЯ

Францішак Скарына ня толькі пераклаў і выдаў самыя практычныя і распаўсюджаныя тэксты свайго часу, ён іх пракамэнтаваў, каб зрабіць больш даступнымі для «людей посполитых».

Усяго ён апублікаваў 50 прадмоў і 62 пасьляслоўі на тагачаснай беларускай літаратурнай мове. Фразы накшталт «к пожитку посполитого доброго», «людем посполитым к научению», «ко всему собору людей», «для посполитого доброго» сустракаюцца ў тэкстах Скарыны рэгулярна. Менавіта «людем посполитым» прысьвячае ён свае кнігі.

---

Скульптуры анёлаў на Калядным кірмашы ў Нюрнбэргу

Але каго канкрэтна ён мае на ўвазе? Арыстакратаў, шляхту, сялян, гараджан? Адказ на гэтае пытаньне просты. Пад «людьми посполитыми» Скарына разумеў жыхароў гарадоў — мяшчанства, зь якога паходзіў сам.

## Новая гістарычная сіла

Час Скарыны — гэта час паўставаньня ў Беларусі новай сацыяльнай праслойкі эўрапейскага тыпу — мяшчанства, якое складалася найперш з купцоў і цэхавых майстроў. Гэта было вынікам эканамічнага разьвіцьця беларускіх гарадоў і наступнага наданьня ім Магдэбурскага права. Мяшчанства набывала пэўныя правы, у тым ліку гарадзкое самакіраваньне, свой суд і эканамічную незалежнасьць.

Усе Скарынавы кнігі выдадзены малым фарматам, каб імі было зручна карыстацца не ў царкве, але найперш у паўсядзённым жыцьці. А «Малая падарожная кніжка» і «Апостал» паводле памеру і зьместу наўпрост прызначаліся для купцоў, якія маглі браць іх з сабой ў падарожжы.

Гісторыкі назвалі мяшчанства «трэцім саслоўем», маючы на ўвазе, што яно выйшла на гістарычную арэну ў фэадальныя часы пасьля шляхты і сялянства.

Паўсюды ў Эўропе мяшчанства паўставала ў вострай барацьбе з арыстакратыяй, якая імкнулася захаваць кантроль над фэадальным горадам. У Заходняй Эўропе мяшчане праз сваю эканамічную моц здолелі дамагчыся палітычных правоў і

стаць часткай палітычнага народу той або іншай дзяржавы.

У Беларусі ж, якая ў 1569 годзе канчаткова трапіла ў склад шляхецкай Рэчы Паспалітай, мяшчанству так ніколі і не было наканавана выканаць сваю гістарычную функцыю — ажыцьцявіць буржуазную рэвалюцыю і стаць галоўным нацыя- і дзяржаватворчым чыньнікам.

У нас адзінай палітычнай клясай і палітычным народам была і да скону дзяржавы засталася польская і спольшчаная шляхта, якая не дала беларускаму мяшчанству палітычных правоў і не дапусьціла яго да кіраваньня дзяржавай, як гэта сталася ў Заходняй Эўропе.

## Трагічны лёс беларускага мяшчанства

Беларускае мяшчанства панесла непапраўныя страты падчас вайны з Масковіяй 1654–1667 гадоў, якую нашы продкі назвалі Патопам. Гарады апусьцелі і ўжо ніколі ня здолелі аднавіцца на поўную сілу. Яшчэ адзін удар ім нанесла Паўночная вайна 1700–1721 гадоў. Колькасьць насельніцтва, якую Беларусь мела да вайны з Масковіяй у сярэдзіне XVII стагодзьдзя, яна здолела аднавіць толькі праз 130 гадоў — у 90-я гады XVIII стагодзьдзя.

Закончаная справа задушэньня беларускіх гарадоў і мяшчанства была ў самым змрочным стагодзьдзі беларускай гісторыі — у XVIII-м. Пасьля дзьвюх згаданых страшных войнаў у часы шляхецкай анархіі зьбяднелыя магнаты праз новае ўмацаваньне сыстэмы юрыдыкаў (зямельных




Беларускі мужчынскі і жаночы гарадзкі строй XVI стагодзьдзя. Рэканструкцыя Ганны Барвенавай паводле гравюраў Скарыны. Музэй гісторыі Магілёва

уладаньняў у гарадах) пачалі зацягваць эканамічную пятлю на шыі беларускага мяшчанства.

А канчаткова яе зацягнулі расейскія ўлады пасьля далучэньня Беларусі да Расеі. Гарады былі пазбаўленыя Магдэбурскага права, мяшчан абмежавалі ў праве перамяшчацца, пашырылі на іх рэкруцкую павіннасьць і нават цялесныя пакараньні, якія захоўваліся аж да 1863 году. Цэхі заняпалі і амаль на сто працэнтаў зьмянілі этнічны склад, стаўшы габрэйскімі.

У гэтай драме беларускага мяшчанства быў і значны культурны аспэкт — страта беларускай мовы, вымушаны пераход на польскую мову ў XVIII стагодзьдзі і пачатак русыфікацыі ў XIX стагодзьдзі.

## Раньні росквіт

А ў часы Скарыны мяшчанства толькі ўбіралася ў сілу, толькі падыходзіла да свайго раньняга росквіту. Менавіта мяшчане ў тыя часы ўжо мелі раньнюю старабеларускую ідэнтычнасьць, гэта яны ўжо называлі сябе «русінам» і сярод усіх саслоўяў ВКЛ найбольш ганарыліся сваёй «рускасьцю».

Нават пасьля забароны ў Рэчы Паспалітай справаводзтва на старабеларускай мове ў 1696 годзе, Магілёўскі магістрат, напрыклад, яшчэ доўгія гады і ў XVIII стагодзьдзі вёў гарадзкія кнігі па-беларуску.

Беларускі горад у XVI – пачатку XVII стагодзьдзяў уяўляў сабой захапляльную карціну. Пачыналася паўсюднае мураванае будаўніцтва, паўставалі велічныя ратушы і храмы, зьявіліся першыя цалкам мураваныя вуліцы, ішоў бурлівы гандаль на гарадзкіх рынках, гасьцінныя дамы былі запоўненыя замежнымі купцамі, адбываліся ўрачыстыя цырымоніі ўступленьня ў мяшчанскае саслоўе або ў склад цэхаў з абавязковымі прысягамі, экзамэнамі на выраб «штукаў», грамадзкімі вячэрамі, цэхавымі шэсьцямі з харугвамі і «скрынкамі», у якіх захоўваліся гарадзкія і дзяржаўныя прывілеі.

Арганізоўваліся велічныя рэлігійныя і прыватныя цырымоніі — парафіяльныя фэсты, вясельлі, хрэсьбіны.

Сёньня ў гэта цяжка паверыць, але спрэчкі ў беларускіх гарадах ў XVI–XVII стагодзьдзях вырашаліся ў судах некалькіх інстанцый на падс-

таве Статуту ВКЛ і Саксонскага права з удзелам сьведак, абвінавайцаў і абаронцаў. Асабліва калі ведаеш, што ў некаторых суседніх дзяржавах судоў не было зусім.

## Аснова беларускай нацыянальнасьці

Разбагацелыя купцы і цэхавыя майстры патрабавалі ня толькі юрыдычных і эканамічных правоў — яны адстойвалі свае нацыянальныя і рэлігійныя правы.

Выказьнікам культурных інтарэсаў новапаўсталага беларускага мяшчанства, «людей посполитых» і быў Францішак Скарына.

Яго дзейнасьць стала, на жаль, вельмі раньняй ідэалягічнай і культурнай кульмінацыяй гістарычнага быцьця мяшчанства, якое ў Беларусі ў выніку неспрыяльных палітычных умоваў загінула, так і ня здолеўшы выканаць сваю гістарычную ролю.

Зрэшты, калі паглядзець на месца, якое ў нашым нацыянальным міце займае Скарына, то трэба ў ногі пакланіцца беларускім месьцічам. Хоць яны і не патрапілі стварыць мадэрнай беларускай дзяржавы, затое ў асобе і плёне свайго выбітнага вылучэнца заклалі трывалыя асновы беларускай нацыянальнасьці.



## ЦІ МОЖНА ЯГО НАЗВАЦЬ ПЕРШЫМ БЕЛАРУСКІМ ПІЯР-МЭНЭДЖЭРАМ

### Нарцысізм або самапавага

Францішак Скарына стаў першым у сьвеце чалавекам, які зьмясьціў свой партрэт у сакральнай кнізе.

Дакладнага тлумачэньня гэтаму факту навука ня мае. Чэскі гісторык Пэтр Войт, які захапляецца Скарынам і называе яго тытанам, які ня мае сабе роўных у Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе таго часу, нават дапускае магчымасьць пошуку «нэўрастэнічнай праблематыкі» ў факце зьмяшчэньня партрэта чалавека ў Бібліі.

---

Фрагмэнт партрэту Скарыны з Кнігі Ісуса Сірахава

Зразумела, што партрэт у Бібліі ў XVI стагодзьдзі стаў нечым накшталт тагачаснага сэлфі ў сакральнай кнізе. Таму Пэтр Войт і кажа пра «нэўрастэнічную праблематыку», маючы на ўвазе нарцысізм.

Мне здаецца, што гэтаму факту можна даць і іншае тлумачэньне.

Улічваючы шматлікія дэталі партрэта і рэчы, выяўленыя на ім, трэба гаварыць не пра «нэўрастэнію», але пра рэнэсансную самапавагу. Гэта — нечуваны акт дэманстрацыі ўласнай годнасьці, які мог адбыцца толькі ў эпоху Адраджэньня. І пайсьці на яго мог толькі той чалавек, які вызнаваў ідэі італьянскага Рэнэсансу і гуманізму таго часу.

## Стратэгія піяру

Выглядае таксама, што ў выпадку Скарыны можна гаварыць ня толькі пра рэнэсансную самапавагу, але і пра самарэкляму, самапіяр, выкліканы ўсьведамленьнем значнасьці сваёй працы.

Аднойчы, пішучы пра свае кнігі, Скарына ўсклікнуў: «Не можем ли во великих послужити посполитому люду...» Няма сумневу, што ён дакладна разумеў маштаб таго, што робіць, і наколькі гэта важна для яго народу.

Самапіярам можна назваць і частае нагадваньне Скарынам пра яго тытул доктара мэдыцыны. Асьветнік меў доктарскую ступень і ў свабодных навуках, але, памятаючы пра спрадвечную павагу людзей да лекараў, наперад выстаўляў



Скончалася книга сия, стго Иова. Спо
мощию бога в тройци единаго. Повелениемъ
працею и выкладомъ. Избранного мужа в лекар
скыхъ наукахъ доктора франциска, Скорини
на сына с Полоцка. У старомъ месте Празском
лета по нарожению Гда нашего Іс Хрта сына бо
жия, из пречистыя девици матери божии Марии

Тут Скарына называе сябе «избранным мужам»

менавіта доктарскую ступень у мэдыцыне. Ён згадвае яе ў прадмове да ўсёй Бібліі, у прадмовах і пасьляслоўях да біблійных кніг і іншых сваіх выданьняў.

Нярэдка перад сваім імем і тытулам Скарына падае і такія самахарактарыстыкі, як «избранного



Доконана есть книга рекомая Юдифъ. Спо
мощию бога в тройци единого. И матери его пречи
стое девици Марии. Людемъ посполитымъ ру
ского языка к пожитку. Повелением працею
и выкладомъ ученаго мужа в лекарскихъ наукахъ
доктора франциска Скорины. Из славнаго града
Полоцька. У великомъ месте празскомъ. Лета
по нарожении нашего спасителя. Тысеща пятсотъ
и девятого надесеть. Месеца февраля дня ѳ.

А тут ён піша пра сябе, як пра «ученага мужа»



Застаўка з Кнігі Прамудрасьці Божай

мужа» або «ученаго мужа». А часам яшчэ і канкрэтызуе: «сыном из славнаго града Полоцька».

Яшчэ адна дэталь — герб Скарыны ў выглядзе сонца і месяца, які ён зьмяшчае на многіх ілюстрацыях у сваёй Бібліі. Часам гэты герб зьяўляецца ў праскай Бібліі ў выглядзе ці то жартоўнай, ці то «хуліганскай» варыяцыі, як, напрыклад, у некананічнай Кнізе Прамудрасьці Божай.

Можа быць, некаму гэта і падаецца нарцысізмам. Але здаецца ўсё ж, што мы маем справу зь піяр-стратэгіяй, пакліканай да жыцьця рэнэсанснай самапавагай, якая ў Скарыны сфармавалася не на пустым месцы, але вырасла з традыцый яго сям’і і роднага Полацку.

## Крыніцы самапавагі

Час Скарыны (пра што тут ужо была гаворка) — гэта час фармаваньня і эмансыпацыі мяшчан як новай сацыяльнай праслойкі грамадзтва Вялікага Княства Літоўскага. Як напісаў некалі Генадзь

Кісялёў, «Скарына — месьціч-гараджанін па нараджэньні, па паходжаньні, па духу».

А вось і крыніца, адкуль той Скарынаў дух браўся. У 1464 годзе палачане, сярод якіх мог быць і Скарынаў дзед, накіравалі ў Рыгу пасланьне з такімі словамі: «А Полтеск теж есть хвалячи бога место словутное, как и которое, а не есть нижшое во чести и во всем ни Вильни, а ни Мариборка, а ни Кданьска».

Такой самапавагай поўняцца многія тагачасныя граматы беларускіх гарадоў. Людзі, якія самі зараблялі на жыцьцё, — цанілі і паважалі сябе, сваю працу і яе вынікі.

Праз 50 гадоў Скарына шмат разоў напіша ў сваіх кнігах, што паходзіць зь «места славутнага» — «из славнаго града Полоцька».

## Сусьветнае першынство

Вяртаючыся ж да партрэта, варта сказаць вось што.

У XV стагодзьдзі ў Эўропе выйшла 126 друкаваных Бібліяў. У першай чвэрці XVI стагодзьдзя гэтая лічба павялічылася яшчэ на некалькі дзясяткаў. Аднак у ніводным з гэтых выданьняў ня зьмешчаны партрэт перакладчыка або выдаўца.

Толькі аднойчы, у 1490 годзе, у Бібліі вэнэцыянскага друкара Нікалё Малермі зьявілася невялічкая застаўка з выявай чалавека за пісьмовым сталом, але бяз подпісу і падачы імя.

У Скарыны ж яго ўласны партрэт — не застаўка. Ён займае цэлую старонку і падаецца ў

дзьвюх кнігах Бібліі — Кнізе Ісуса Сірахава і Чацьвёртай Кнізе Царстваў.

Партрэт Скарыны быў створаны з натуры, ён дакладна датаваны, мае герб асьветніка і ягонае імя, пададзенае славянскай вязьзю.

Наступны раз партрэт рэальнага чалавека ў Бібліі зьявіўся ў Эўропе толькі ў 1641 годзе — праз 124 гады пасьля Скарыны.

Таму мы з поўным правам можам назваць нашага асьветніка першым беларускім піяр-мэнэджэрам.




## КУДЫ ВЯДЗЕ СЫМБОЛІКА ЯГОНАГА ПАРТРЭТА

Скарыну пашанцавала. Ён стаў славутым у Эўропе ўжо ў XIX стагодзьдзі, а кнігі ягоныя ў тым самым стагодзьдзі зрабіліся бібліяграфічнай рэдкасьцю. Іх прадавалі і дарылі ў вельмі важных выпадках. Напрыклад, у 1867 годзе маскоўскі навуковец-славіст Пятро Бяссонаў падараваў Кнігу Ісуса Сірахава чэскаму Нацыянальнаму музэю ў Празе.

Сёньня Скарына настолькі вядомы навуковай сусьветнай супольнасьці, што калі ў пачатку

---

Фрагмэнт гравюры «Мэлянхолія» Альбрэхта Дзюрэра

1990-х гадоў выходзіла цэлая сэрыя кніг пра нашага асьветніка, адна зь іх на некалькіх сотнях старонак зьмяшчала толькі сьпіс публікацыяў пра Скарыну. Бібліяграфія скарыніяны заняла цэлы том!

## Хто і навошта падрабляў яго партрэт

Як і ўсе іншыя славутасьці, ужо ў XIX стагодзьдзі некаторыя кнігі Скарыны пачалі падрабляць і фальсыфікаваць, у прыватнасьці так сталася зь ягоным партрэтам. Арыгінальны варыянт Скарына зьмясьціў толькі ў дзьвюх кнігах Бібліі — Кнізе Ісуса Сірахава і Чацьвёртай Кнізе Царстваў.

Першую копію выканаў расейскі гравёр Аляксандар Флароў у 1830 годзе. Яна ўклееная ў Кнігу



Падробка Аляксандра Фларова. 1830 год

Другазаконьня. Віктар Шматаў лічыў копію няўдалай. Вобраз Скарыны, паводле мастацтвазнаўцы, пазбаўлены цеплыні і дабрыні, але набыў самазадаволены выгляд. Да таго ж першадрукар там выглядае нашмат маладзейшым.

Пасьля Фларова за падробку партрэта Скарыны ўзяліся і іншыя ўмельцы. Зробленыя ў XIX стагодзьдзі копіі зьмешчаныя ў многіх кнігах скарынаўскай Бібліі, дзе іх пры выданьні не было. Падробкі набылі вялікае распаўсюджаньне, а копія Фларова нават стала лічыцца некаторымі мастацтвазнаўцамі трэцім арыгінальным варыянтам партрэта.

Дайшло да таго, што копія Фларова трапіла ў кнігу «Прадмовы і пасьляслоўі» Скарыны (1969) і ў славутую «Зямлю пад белымі крыламі» Уладзімера Караткевіча (1977).

## Падказкі Скарыны

Але сам арыгінальны партрэт зьяўляецца вельмі інфармацыйнай і адначасова загадкавай часткай Скарынавай спадчыны. Там шмат загадак і падказак. Вось некаторыя зь іх.

Зьлева ад асьветніка стаіць кніжная шафа. На ніжняй паліцы стаяць кнігі вялікага фармату. А на верхняй, якая найбольш кідаецца ў вочы і якой, мяркуючы па ўсім, Скарына часьцей карыстаўся, стаяць кнігі малога фармату — так званыя «альдыны». Гэтую назву яны атрымалі ад імя чалавека, які малы фармат і прыдумаў — вялікага італьянскага гуманіста і выдаўца Альда Пія Мануцыя. Няма сумневу, што гэтым Скарына

паказвае, каго ён лічыць сваім настаўнікам. Гэта таксама ўскосны доказ сувязі Скарыны з Вэнэцыяй, прычым тут не адзіны!

Наагул, партрэт Скарыны — неверагодны! Найперш таму, што Скарына на ім выяўлены ў фас! Вядома, што людзей ў часы раньняга і высокага Рэнэсансу выяўлялі толькі ў профіль. Мастацтвазнаўцы называюць гэта «прыкметай другаснасьці вобразу чалавека». У фас тады пісалі толькі Хрыста, Багародзіцу, апосталаў і сьвятых!

Падумаўшы, мы адразу ўспомнім славутыя партрэты герцагаў і герцагінь Мэдычы XV стагодзьдзя, выкананыя ў профіль. Як пісаў Віктар Шматаў, «выхад з профілю» ішоў паступова, спачатку праз паварот у тры чвэрці і толькі пасьля — у фас. У Італіі профіль у партрэце панаваў да канца XV стагодзьдзя, у Нямеччыне — нават і ў пачатку XVI стагодзьдзя.

А на партрэце Скарыны вобраз чалавека ўжо ня другасны — гэта сапраўды рэнэсансны гуманізм!

## Нюрнбэрскі і вэнэцыянскі сьляды

На партрэце мы бачым мноства прадметаў, сярод якіх вылучаюцца пясочны гадзіньнік і «глёбус сусьвету» (армілярная сфэра). У тагачаснай Эўропе гэтыя прадметы на карцінах толькі пачалі зьяўляцца. Гісторыкам мастацтва вядомыя толькі адзінкавыя выпадкі. Але якія!

Пясочны гадзіньнік мы бачым на трох карцінах Дзюрэра — «Рыцар, сьмерць і д’ябал» (1513), «Сьвяты Геранім» (1514) і «Мэлянхолія» (1514).



Альбрэхт Дзюрэр. «Сьвяты Геранім» (1514)

Мастацтвазнаўцы сьцьвярджаюць, што палова гравюраў Скарынавых выданьняў паходзіць зь Нюрнбэргу, дзе жыў славуты тагачасны мастак і гравёр Альбрэхт Дзюрэр і мастакі ягонай школы! Паралель відавочная.

А «Глёбус сусьвету» да партрэта Скарыны быў выяўлены на адной з ілюстрацый «Сусьветнай хронікі» Шэдэля (1493) і на карціне славутага вэ-

нэцыянскага мастака Віторэ Карпача «Сьвяты Геранім у кельлі» (1502–1507). І зноў мы натыкаемся на Вэнэцыю. Прычым і ў Карпача, і на партрэце Скарыны — глёбус зьмешчаны ў верхнім правым куце! Зноў паралель відавочная.

Мы ня ведаем, ці выразалі партрэт Скарыны адразу на ксылягрaфічнай дошцы або існаваў яго жывапісны прататып. Калі існаваў жывапісны аналяг, то можна было б прыпусьціць, што ён згарэў падчас Віленскага пажару 1530 году або Праскага 1541 году. Але яшчэ больш цікава было б паразважаць пра яго аўтарства, чаго мы тут рабіць ня будзем...

У кожным выпадку сувязь партрэта Скарыны з Карпача і Дзюрэрам відавочная, а сымболіка гэтага твору вельмі багатая і дагэтуль да канца не расшыфраваная.

Напрыклад, ніхто так і не зразумеў, што азначае сонца і месяц на геральдычным шчыце. Нехта мяркуе, што як уладальнік дзьвюх доктарскіх ступеняў Скарына мог атрымаць на Захадзе шляхецтва, і гэта — герб першадрукара. Ну і ніхто пакуль не здагадаўся, чаму на партрэце выяўлена пчала.

## Дацкія і галяндзкія адкрыцьці

Толькі ў апошнія гады зьявіліся публікацыі, якія зрабілі вытокі некаторых сымбаляў Скарыны менш загадкавымі.

У выніку пошукаў Вольгі Шутавай больш зразумелым стаў генэзіс некаторых знакаў, у прыватнасьці сонца і месяца з чалавечым тварам, а



Говарт ван Гемэн.
«Расьпяцьце Хрыста»

таксама прысутнасьць на партрэце армілярнай сфэры і трохкутніка з крыжам.

Выявілася што ў Капэнгагене, дзе хутчэй за ўсё вучыўся і працаваў Скарына, у канцы XV і пачатку XVI стагодзьдзяў выдаваў кнігі галяндзкі друкар Говарт ван Гемэн. На яго фірменным знаку прысутнічалі асобна сонца і месяц, а ў адным зь яго выданьняў, малітоўніку 1509 году, ёсьць гравюра «Расьпяцьце Хрыста», на якой уверсе зьлева намаляванае сонца з чалавечым тварам, а справа — месяц таксама з чалавечым тварам.



Выдавецкі знак Яна Вэлдэнэра. Ілюстрацыя Вольгі Шутавай




Выдавецкі знак П'етра Ліхтэнштайна. Ілюстрацыя Вольгі Шутавай

Больш за тое, аказалася, што ван Гемэн у 1480-я гады вучыўся друкарскай справе ў горадзе Кулемборг у славутага друкара Яна Вэлдэнэра, выдавецкім знакам якога быў трохкутнік з крыжам.

І нарэшце, выдаўцом чэскай вэнэцыянскай Бібліі 1506 году, якая, паводле многіх навукоўцаў, была адным з узораў для перакладу Скарыны, быў Пэтрус (П'етра) Ліхтэнштайн, выдавецкім знакам якога была армілярная сфэра.

У 1515 годзе Ліхтэнштайн выдаў у Вэнэцыі клясычную астранамічную працу Пталемэя «Альмагест», дзе сярод ілюстрацый быў зьмешчаны і гэты «глёбус сусьвету».

Хоць мы й ня можам сказаць напэўна, але вытокі гэтай часткі скарынаўскай сымболікі вядуць, хутчэй за ўсё, у Данію, Галяндыю і зноў жа ў Вэнэцыю.



## НАВОШТА НА ПАРТРЭЦЕ ВЫШЫВАНЫ РУЧНІК

### Вобраз асьветніка

Як заўважыў прафэсар Віктар Шматаў, Скарына на партрэце падае сябе менавіта як пісьменьнік і перакладчык. Асьветнік сядзіць за невялікім пісьмовым сталом, перад ім — адкрыты сшытак, у руцэ пяро. Ён глядзіць направа, на невялікі пюпітар, на якім ляжыць Біблія. Гэтак зафіксаваны момант працы перакладчыка — ён глядзіць на першакрыніцу і стварае свой тэкст «Бібліі Рускай».

Гэта, на думку Шматава — галоўная ідэя партрэта. Скарына не друкар, не бізнэсмэн — ён гуманіст, асьветнік і нацыянальны дзяяч. Пра тое сьведчаць і ягоныя прадмовы і пасьляслоўі. Партрэт дае для такой высновы дадатковае і вельмі красамоўнае пацьверджаньне.

---

Фрагмэнт партрэту Скарыны з Кнігі Ісуса Сірахава



Партрэт Скарыны з Кнігі Ісуса Сірахава

Але пакінуў Скарына ў сваім партрэце і дадатковую інфармацыю для нашчадкаў. Усё зробленае ім праменіцца сымбалічным сэнсам, на малюнку няма нічога выпадковага.

## Этнаграфічная прывязка

Стол, за якім працуе асьветнік, накрыты не абрусам, як пра гэта пісаў Віктар Шматаў. Стол накрыты беларускім ручніком з вышываным геамэтрычным арнамэнтам. Гэта менавіта полацкі ручнік, і, на маю думку, Скарына зьмясьціў там яго не выпадкова, але каб паказаць, хто ён і адкуль. Ручнікі менавіта паўночнай Беларусі мелі кутасікі — не распушчаныя ніткі, але менавіта прывязаныя да палатна кутасікі.

У гэтым няцяжка пераканацца, зазірнуўшы ў спэцыяльныя выданьні, напрыклад, кнігу Вольгі Фадзеевай «Беларускі ручнік». Чвэрць стагодзь-



Полацка-віцебскі ручнік пачатку XX стагодзьдзя

дзя таму гэтая дасьледчыца падумала і пра ручнік на партрэце Скарыны:

«Наяўнасьць ручніка, ды яшчэ ў цэнтральнай частцы гравюры, наўрад ці выпадковая. Трэба думаць, што наш славуты першадрукар быў добра знаёмы з культурнымі помнікамі сваёй зямлі, неаднаразова сутыкаўся і з ручнікам — найхарактэрнейшым прадметам побытавага мастацтва.

Таму тканіна на гравюры сканцэнтравана перадае выразныя рысы беларускага ручніка: ромба-геамэтрычны арнамэнт, скампанаванасьць яго ў папярочныя палосы, разьбеленасьць фонам, доўгія махры на канцах...

Тут угадваецца стылістыка вырабаў паўночнаўсходняй Беларусі, мастацкі канон якіх, устойлівы і яркі, яшчэ сустракаецца на тканінах XIX стагодзьдзя».

Няма сумневу, што зьмяшчаючы на партрэце полацка-віцебскі ручнік Скарына дадатковы раз падкрэсьлівае сваё нацыянальнае паходжаньне з Полацку.

## Як вёска захавала гарадзкую культуру

Тут прысутнічае нюанс, пра які ведае толькі вузкае кола навукоўцаў. У наш час ужо ня ўсе разумеюць, што матэрыяльныя і духоўныя артэфакты этнічнай культуры, выгнаныя з гарадоў чужынскімі ўплывамі, захаваліся да нашых дзён у беларускіх вёсках.

У XVI–XVIII стагодзьдзях беларуская народная культура была больш маналітнай, адрозьненьні паміж вёскай і горадам былі мінімальныя.

Падчас экспэдыцый у беларускія вёскі навукоўцы знаходзяць і зьбіраюць артэфакты не вясковай культуры, а менавіта нацыянальнай, якая была ўласьцівая і беларускім гарадам да іх поўнай дэнацыяналізацыі ў XIX стагодзьдзі.

Тое, што мы сёньня называем вясковай традыцыяй (напрыклад, Каляды або валачобніцтва), раней было і гарадзкой традыцыяй. У XVII стагодзьдзі кароль сваімі ўказамі рэгуляваў дачыненьні паміж гарадзкімі магістратамі або мясцовымі біскупамі з аднаго боку, і валачобнікамі або калядоўшчыкамі — з другога.

Гісторык музыкі, прафэсар Вольга Дадзіёмава сьцьвярджае, што яе студэнты ў нашы дні шырока запісваюць падчас экспэдыцый у вёсках музычныя канты з «Полацкага сшытку», які, як вядома, зьяўляецца зборнікам беларускай гарадзкой музыкі XVI–XVII стагодзьдзяў.

З прычыны няведаньня такіх простых этнаграфічных заканамернасьцяў сёньня ў Беларусі можна пачуць пратэсты супраць выкарыстаньня нацыянальных строяў і іншых элемэнтаў народнай культуры нават з вуснаў інтэлектуалаў.

Вышываны ручнік на партрэце Скарыны, як і гліняны збанок разам з кумпяком і плеценымі корабамі, паказваюць, што раней «вёскамі» былі і беларускія гарады.

Дзякуй, Францішак, за гэта!



## ЧЫЕ ЯШЧЭ ПАРТРЭТЫ ЁН ЗАШЫФРАВАЎ У БІБЛІІ

### Другі партрэт Скарыны

Раней некаторыя навукоўцы лічылі, што Скарына сам ствараў гравюры для сваіх кніг. Сёньня ўжо вядома, што гравюры да Бібліі Скарыны рабілі чэскія і нямецкія майстры, якіх ён наймаў і якім даваў непасрэдныя заданьні.

Навукоўцы даўно падазравалі, што ў Бібліі ёсьць не адзін партрэт Скарыны. Яшчэ ў XIX стагодзьдзі прафэсар Кіеўскага ўнівэрсытэту Пятро Ўладзіміраў пісаў, што на ілюстрацыі ў

Фрагмэнт гравюры «Памазаньне Давіда» зь Першай Кнігі Царстваў



Гравюра да Кнігі Прамудрасьці Божай «Бласлаўленьне»

Кнізе Прамудрасьці Божай пад назвай «Бласлаўленьне» ў вобразе апостала Яна, які моліцца да Хрыста, можа быць выяўлены сам Скарына.

Беларускі мастацтвазнавец Мікола Шчакаціхін лічыў, што на гравюры «Бласлаўленьне» выяўлены цар Салямон. Але гэты біблійны пэрсанаж заўсёды маляваўся ў царскім аблачэньні. А малады чалавек на гравюры апрануты ў чырвоную доктарскую мантыю часоў Скарыны — чырвоны колер у тыя часы быў адзнакай вучонасьці. Пра тое, што мантыя чырвоная, мы ведаем таму, што частка накладу праскіх выданьняў Скарыны

дайшла да нас з гравюрамі, размаляванымі ў колеры.

Ідэю Ўладзімірава, што на гравюры «Бласлаўленьне» выяўлены малады Скарына ў доктарскай мантыі, падтрымлівалі і беларускія мастацтвазнаўцы Лявон Баразна і Віктар Шматаў.

Да іх думкі ў апошнія гады далучыўся чэскі гісторык-скарыназнавец Пэтр Войт. І вось якраз з працамі Пэтра Войта і зьвязаныя новыя адкрыцьці ў вывучэньні скарынаўскіх ілюстрацый. Як аказалася, Скарына зьмясьціў у Бібліі ня толькі два свае партрэты.

Беларускі асьветнік стаў другім чалавекам у сьвеце пасьля нямецкага мастака Альбрэхта Дзюрэра, хто за выявамі кніжных пэрсанажаў схаваў партрэты рэальных гістарычных асобаў.

## Крыптапартрэты ў «Бібліі Рускай»

Выявы людзей на кніжных ілюстрацыях у часы Скарыны былі тыпізаваныя, ня мелі пэрсанальных адрозьненьняў і былі ўсе падобныя паміж сабой. А ў Скарыны, як заўважылі навукоўцы, выявы маюць рэзка індывідуальныя рысы — яны ўсе адрозьніваюцца адна ад адной.

У Пэтра Войта зьявілася падазрэньне, што за выявамі біблійных пэрсанажаў у кнігах Скарыны стаяць рэальныя гістарычныя асобы. Такія выявы называюць крыптапартрэтамі, бо яны не падпісаныя. Войт узяўся больш пільна вывучаць некаторыя скарынаўскія ілюстрацыі і сапраўды здолеў ідэнтыфікаваць каля дзесяці тагачасных гістарычных дзеячоў.




Чэскія каралі Людвік Ягайлавіч (зьлева) і Іржы з Подзебрад (справа) пад сваімі біблейнымі крыптапартрэтамі. Каляж Пэтра Войта

Сярод іх чэскі кароль XV стагодзьдзя Іржы з Подзебрад, кароль і вялікі князь літоўскі Жыгімонт I Стары, чэскія каралі з дынастыі Ягайлавічаў Людвік і Ўладзіслаў II, папа рымскі Юлій II, імпэратар Максыміліян I, чэская каралева Ганна дэ Фуа — жонка Ўладзіслава II Ягайлавіча і г. д. На думку гісторыка, Скарына мог рабіць гэта на знак падзякі за дапамогу або апекаваньне.

Пэтр Войт лічыць, што ў будучым трэба стварыць міжнародны калектыў гісторыкаў і мастацтвазнаўцаў, які зрабіў бы параўнаньне герояў усіх скарынаўскіх ілюстрацый зь вядомымі выявамі тагачасных гістарычных асобаў.

## Патэнцыйныя беларускія прататыпы

У справе ідэнтыфікацыі прататыпаў на гравюрах нашай першай друкаванай Бібліі ёсьць і чыста беларускі аспэкт. Навукоўцы ўжо даўно заўважылі, што на некаторых малюнках у Бібліі Скарыны можна бачыць гербы тагачасных беларускіх дзяржаўных і вайсковых дзеячоў.

У прыватнасьці на гравюры «Людзі Ізраілевы з палкамі каля Храму Божага» з тытульнага ліста Кнігі Лікаў (1519) гісторык Генадзь Лебедзеў ідэнтыфікаваў гербы Радзівілаў, Гаштольдаў і Астроскіх.

І тут паўстае пытаньне: а ці не схаваў Скарына за вобразамі біблійных пэрсанажаў партрэты некага зь беларускіх дзяржаўных, вайсковых і рэлігійных дзеячоў таго часу, сваіх мэцэнатаў, а можа і сваякоў?



Фрагмэнт гравюры «Людзі Ізраілевы з палкамі каля Храму Божага». Справа ўверсе герб Астроскіх са стралой, зьлева ў цэнтры герб Радзівілаў «Трубы»

Партрэты ня ўсіх з гэтых людзей захаваліся. Але, напрыклад, сваякоў першадрукара можна было б ідэнтыфікаваць паводле ўскосных прыкметаў — напрыклад, тагачаснага мяшчанскага адзеньня. Можа быць, у нейкай партрэтнай групе знойдзецца і яшчэ адна выява самога Скарыны.

Асьветнік вельмі любіў і паважаў свайго бацьку Луку Скарыну, меў блізкія дачыненьні зь сям'ёй брата Івана. Ці няма ў «Бібліі Рускай» і іх партрэтаў або партрэтаў іншых сваякоў?



## АДКУЛЬ У БІБЛІІ ВЫЯВЫ МАЛЕНЬКАГА ФРАНЦІШКА І ЯГО БАЦЬКІ ЛУКІ

### Новая оптыка і новы прынцып пошуку

Адкрыцьцё Пэтрам Войтам прынцыпу схаваных (непадпісаных) партрэтаў у Бібліі Скарыны дапамагло нам лепш зразумець асобу і сьветаадчуваньне першадрукара. Апрача іншых яго іпастасяў і талентаў, цяпер мы можам разважаць пра рэнэсанснае разуменьне Скарынам маркетынгу, піяру і самапіяру.

Але ня толькі. Гэтая знаходка адкрыла магчымасьць ідэнтыфікацыі іншых прататыпаў Скарынавых гравюр. Мы як бы атрымалі для гэтага новую оптыку і новы прынцып пошуку.

---

Гравюра «Ісус Навін вядзе людзей Ізраілевых празь Ярдан» з Кнігі Ісуса Навіна

Цяпер, напрыклад, можна гаварыць не пра два партрэты Скарыны ў Бібліі, але прынамсі пра шэсьць яго выяваў, зьмешчаных у праскіх выданьнях.

Да падпісанага і ўсім вядомага партрэта ў Кнізе Ісуса Сірахава і Чацьвёртай Кнізе Царстваў, і непадпісанага ў вобразе Яна Багаслова ў Кнізе Прамудрасьці Божай дадаюцца адразу чатыры новыя.

## Твар Скарыны на гербе-сыгнэце

Ужо на падпісаным партрэце сярод мноства іншых рэчаў і дэталяў на фоне вышыванага ручніка зьмешчаны геральдычны шчыт з выявай сонца і паўмесяца. Гісторыкі дагэтуль ня вырашылі, што менавіта азначае гэты сымбаль.

Адны пісалі, што як двойчы доктар Скарына мог атрымаць пэрсанальнае шляхецтва ў адной з эўрапейскіх краін і выбраў сабе гэты сымбаль як герб. Іншыя сьцьвярджалі, што ў другой палове 1480-х гадоў адбыліся тры сонечныя зацьменьні, і Скарына абраў гэты сымбаль сваім знакам-сыгнэтам як напамін пра сонечнае зацьменьне ў год свайго нараджэньня. Таксама выказвалася вэрсія, што гэта алегорыя сьветлага і цёмнага бакоў чалавечай прыроды або перамогі сьвятла над цемрай.

Дакладна мы можам сказаць толькі адно — гэта сапраўды пэрсанальны герб-сыгнэт Скарыны, які ён шмат разоў зьмясьціў на гравюрах сваіх выданьняў.

Твары сонца і месяца на гэтым сыгнэце, раскіданым па многіх гравюрах Скарынавай Бібліі,



вельмі розьняцца. Часта яны рэзаліся гравёрам вельмі схематычна і абыякава, без усялякай індывідуалізацыі.

Але ў выпадку сыгнэта на партрэце Скарыны — сытуацыя адваротная. Твары і сонца і месяца на геральдычным шчыце вельмі індывідуалізаваныя і пэрсаналізаваныя. І тут нас, узброеных





Варыянты заставак

прынцыпам крыптапартрэтыстыкі, чакае першы сюрпрыз. Параўнаньне твару першадрукара з тварамі сонца і месяца на геральдычным шчыце не пакідае сумненьня — гэта сам Скарына, гэта ягоны твар!

У наш час мастакі і скульптары выяўляюць Скарыну, так бы мовіць, у прыхарошаным выглядзе — з адкрытым тварам, прамым носам і г. д. Партрэт першадрукара, аднак, паказвае, што сучасныя выявы далёкія ад рэальнасьці.

Скарына меў шырокі круглы твар, вялікія, магчыма лупатыя вочы, двайное падбародзьдзе і, галоўнае, вельмі спэцыфічны нос. Нос у першадрукара быў доўгі, тонкі, зь вялікай гарбінкай і глядзеў уніз. Менавіта такі нос маюць і сонца, і месяц. Гэтая дэталь не пакідае сумненьня, што Скарына выявіў на сыгнэце самога сябе, каб у нас не засталося ніякіх сумненьняў, што гэта менавіта ягоны герб і ягоны фірменны знак.

Можна пашукаць індывідуальныя рысы ў тварах сонца і месяца на некаторых сыгнэтах, зьмешчаных на застаўках.

Ёсьць нават выпадкі, калі Скарына або ягоны гравёр відавочна забаўляецца, малюючы перакрыўлены штуршком месяца твар сонца і надаючы «нападніку» гарэзьлівы выгляд. Але гэтыя выявы даволі істотна розьняцца ад сыгнэта на партрэце.

Галоўная выснова з усяго сказанага такая. Да дзьвюх вядомых выяваў першадрукара — на партрэце і ў вобразе Яна Багаслова ў Кнізе Прамудрасьці Божай — можна дадаць адразу дзьве на геральдычным шчыце з падпісанага партрэту.

## Скарына — на чале войска

У 1519 годзе ў Празе выйшла Кніга Лікаў, на тытульным аркушы якой зьмешчана гравюра «Людзі Ізраілевы з палкамі сваімі каля Храму Божага». Паводле старазапаветнага паданьня, калі габрэі сышлі з Эгіпту, яны пабудавалі пераносны храм — скінію. Кожны род меўся выставіць вайсковы аддзел для аховы скініі. Быў вызначаны дакладны рэглямэнт разьмяшчэньня асобных родавых «станаў» і іх руху. Нават падчас прыпынку разьмяшчэньне «станаў» не мянялася. Усе яны мелі свае сьцягі і іншыя знакі адрозьненьня.

На гравюры «Людзі Ізраілевы з палкамі сваімі каля Храму Божага» якраз і выяўлены момант такога руху вайсковай калёны са скініяй.

Аднак рэаліі малюнка, напрыклад, аблачэньне рыцараў або ўзбраеньне — сучасныя Скарыну эўрапейскія, беларуска-польскія. На сьцягах —



«Людзі Ізраілевы з палкамі сваімі каля Храму Божага»

шмат гербаў, сярод якіх пазнаюцца герб Радзівілаў «Трубы», герб Астроскіх з паўмесяцам, шасьціканцовай зоркай і стрэлкай, герб Гаштольдаў з лацінскай літарай W, а таксама герб Сьвятой Рымскай імпэрыі ў выглядзе чорнага двухгаловага арла.

Выклікае цікавасьць ужо сам парадак разьмяшчэньня Скарынам беларуска-літоўскіх «станаў». Напрыклад, Гаштольды пастаўленыя ім у самы ніжні левы кут, Радзівілы ззаду скініі, Астроскія ўверсе бліжэй да авангарду войска.

Але самае галоўнае нас чакае наперадзе калёны. На чале войска ідзе малады чалавек са сьця-

гам, на якім... сыгнэт Скарыны! Вось хто ўзначальвае «палкі Ізраілевы» падчас падарожжа з Эгіпту! (А каб не заставалася сумненьняў, побач, троху ніжэй, яшчэ і нясуць сьцяг з трохкутнікам з падпісанага партрэта першадрукара.)

Аблічча маладога чалавека на першы погляд адрозьніваецца ад вядомага аблічча Скарыны. Але прыгледзеўшыся, мы заўважым тыя самыя вялікія вочы, той самы масіўны круглы твар, падкрэсьлены штрыхамі, двайное падбародзьдзе і г. д. Адрозьніваецца, здаецца, толькі нос. Але і гэта лёгка патлумачыць. З увагі на невялікі памер малюнка (105×105 мм) гравёр мог быць не зусім дакладны.

На гравюры з Кнігі Прамудрасьці Божай у Яна Багаслова, у вобразе якога мы цяпер бачым Скарыну, наадварот выяўлена занадта вялікая гарбатасьць носа. Іншымі словамі, і тут, і там — пэўная недакладнасьць разца, выкліканая малымі памерамі малюнка. Зрэшты, у юнака са сьцягам Скарыны нос таксама глядзіць уніз, толькі ён меншы.

У кожным выпадку, дакладная гэта выява або сымбалічная, сыгнэт Скарыны не пакідае сумненьняў, хто ідзе на чале экзатычнага войска, складзенага зь беларуска-літоўскіх магнатаў і эўрапейскіх манархаў.

Гэта яшчэ адзін цікавы факт для разважаньняў пра самаадчуваньне Скарыны, пра яго сьветапогляд, мэты, намеры, пачуцьці, разуменьне сваёй місіі, ролі ў гісторыі і нават пра ягоны гумар.

Такім чынам, вядомых выяваў першадрукара стаецца ўжо пяць.

## Маленькі Францішак з Луком Скарынам побач з Ісусам Навінам

Яшчэ больш таго, хто ведае пра прынцып непадпісаных партрэтаў, закладзены Скарынам у Біблію, можа ўразіць гравюра «Ісус Навін вядзе людзей Ізраілевых празь Ярдан» з Кнігі Ісуса Навіна, выдадзенай у Празе ў 1517 годзе.

Сюжэт гравюры вядомы. Наступнік Майсея правадыр-заваёўнік Ісус Навін у II тысячагодзьдзі да н. э. вядзе свае палкі на горад Ерыхон. Паводле біблійнага паданьня, бог Ягвэ пакляўся праславіць Ісуса Навіна ў паходах. І вось калі войска рушыла наперад, а сьвятары панесьлі каўчэг, рака раптам расступілася і прапусьціла іх на другі бераг. Матыў такога воднага цуду быў у часы Скарыны вельмі распаўсюджаны ў эўрапейскім, у тым ліку і ў беларускім, фальклёры.

Гэтая гравюра лічыцца адной з самых самабытных ілюстрацый у выданьнях Скарыны. Яшчэ прафэсары Ўладзімер Конан і Віктар Шматаў у супольным артыкуле пра яе пісалі:

«Малюнак большасьці фігур вылучаецца дакладнасьцю прапорцый, хоць галовы асобных фігур крыху велікаватыя. Тыпаж вобразаў выразна славянскі. Адзеньне мужчын і жанчын нагадвае вопратку тагачасных беларускіх рамесьнікаў і сялян».

Павелічэньне галоў тлумачыцца вельмі проста. З прычыны маленькага памеру гравюры (105×104 мм) выявіць індывідуальныя рысы пэрсанажаў разьбой было вельмі цяжка. Павелічэньнем галоў мастак здабыў дадатковую прастору.



«Ісус Навін вядзе людзей Ізраілевых празь Ярдан»

Конан і Шматаў падкрэсьлівалі, што паводле стылю і манеры выкананьня гэтая гравюра, хутчэй за ўсё, належыць таму майстру, які выканаў і падпісаны партрэт Скарыны. Але на гэтым прафэсары і спыніліся.

## Першы варыянт апазнаньня

Паглядзім на «Пераход празь Ярдан» (другая назва малюнка) больш уважліва. Твары пэрсанажаў індывідуалізаваныя ў рознай ступені. Адзеньне жанчын — паўсядзённае гарадзкое, але

можа быць і вясковым, паколькі тады матэрыяльная народная культура была больш маналітнай, пра што гаворка ўжо была. А вось адзеньне мужчын за сьпінай Ісуса Навіна — хутчэй купецкае, чым рамесьніцкае. Гэта — наша ключавая выснова, бо з купецкага асяродзьдзя паходзіў і сам Скарына.

А калі так, то скіроўваем свой погляд на хлопчыка за сьпінай габрэйскага правадыра. І што мы бачым! Той самы шырокі круглы твар, тыя самыя вялікія вочы... І нос, нос! Той самы вялікі тонкі нос з гарбінкай! Ці не маленькі Скарына перад намі?

Зьлева ад хлопчыка стаіць купец у нябедным адзеньні. Ён трымае руку на галаве малога, што не пакідае сумненьня ў іх роднасных дачыненьнях. Твар купца намаляваны вельмі дакладна, пазнаецца нават поўны годнасьці і спакою погляд ягоных вачэй. Цяжка пярэчыць здагадцы, што перад намі Лука Скарына, які зь пяшчотай паклаў руку на галаву малодшага сына!

Тады перад намі — кранальны партрэт сына і бацькі, якога Скарына вельмі любіў і пра якога шмат разоў успамінаў у пасьляслоўях да праскіх выданьняў («доктора Франциска, Скоринина сына с Полоцька»).

Лягічна было б знайсьці і маці будучага першадрукара. Шукаем жанчын з партрэтным падабенствам і рысамі самога Францішка. Ззаду Лукі стаіць маладая жанчына зь дзіцем на руках. Гэта можа быць ягоная маці з маленькай сястрой будучага першадрукара. Але побач зь ёй больш старая жанчына з дакладна Скарынавым носам —

тонкім, з гарбінкай, апушчаным уніз. Гэта можа быць ягоная бабуля па маці.

Зрэшты, трактоўка сваяцкіх сувязяў усёй гэтай кампаніі можа быць і іншай.

## Другі варыянт апазнаньня

Апрача маленькага Францішка на гравюры выяўлены індывідуалізаваныя вобразы чатырох мужчын, чатырох жанчын і яшчэ аднаго дзіцяці. Гэта можа быць уся сям'я Скарынаў. Два дзяды, дзьве бабулі, бацька, маці і брат Іван з жонкай і маленькім сынам Раманам. Вядома, што ў Івана і Францішка была вялікая розьніца ва ўзросьце.

Да такога варыянту апазнаньня пэрсанажаў на гравюры нас падштурхоўвае немалаважная дэталь, якую можна лічыць падказкай ад Скарыны. Гаворка ідзе пра тоўсты канец бязьмена, які тырчыць са складак адзеньня барадатага чалавека справа ад Ісуса Навіна.

Бязьмен — атрыбут купца. Можна меркаваць, што немалады мужчына з доўгай барадой каля Ісуса Навіна — Лука Скарына. Тады ззаду біблійнага цара стаяць два дзяды Францішка, а маладзейшы купец з кароткай барадой, які трымае руку на галаве маленькага Францішка — ягоны брат Іван (магчымы сымбаль удзячнасьці старэйшаму брату за апякунства падчас школьнай навукі).

Жанчына ў цэнтры з тонкім носам з гарбінкай — маці будучага першадрукара. Жанчына з дзіцем на руках — жонка Івана з сынам Раманам, пляменьнікам Францішка.

У верхнім правым куце гравюры, ззаду — дзьве жанчыны, надзеленыя яснымі індывідуальнымі рысамі. Лёгка пазнаецца нават тая зь іх, твар якой ледзьве відаць. Яе індывідуальнасьць праяўляецца паводле лініі брыва і позірку толькі аднаго вока, пры тым што памер усёй гравюры 105×104 мм! Гэтая жанчына выглядае маладзейшай, яна можа быць і сястрой Францішка, і яго бабуляй. Побач зь ёй — другая бабуля.

Як бы там ні было, гравюра «Ісус Навін вядзе людзей Ізраілевых празь Ярдан» без сумненьня зьяўляецца калектыўным партрэтам найбліжэйшай радні беларускага асьветніка і можа з поўным правам называцца «Сям'я».

Варыянты далейшай ідэнтыфікацыі пэрсанажаў гэтай гравюры магчымыя, але партрэтнае падабенства малога хлопчыка з Францішкам Скарынам выглядае бясспрэчным.

Адпаведна ў нас зьяўляецца шостая выява першадрукара і ў дадатак — добры партрэт ягонага бацькі Лукі Скарыны.

## Вытокі Скарынавых крыптапартрэтаў

Пэтр Войт лічыць, што Скарына ў рамках падрыхтоўкі да друкаваньня Бібліі ў 1515–16 гадах мог езьдзіць у Нюрнбэрг і нават асабіста пазнаёміцца з Альбрэхтам Дзюрэрам. Або і проста мог добра ведаць ягоныя гравюры, тую самую сэрыю «Апакаліпсіс» (1498), у якой Дзюрэр надаў твары тагачасных курфюрстаў нябесным анёлам.

Працы Дзюрэра шырока капіявалі і падраблялі ва ўсёй тагачаснай Эўропе.

Дзюрэр, дарэчы, у 1506 годзе намаляваў карціну «Сьвята ружанцаў», дзе выявіў сябе ў кампаніі Хрыста, Багародзіцы, папы Юлія II, імпэратара Максымільяна I. Але ў гэтым баварскі мастак быў далёка ня першы.

Эпоха Рэнэсансу апэлявала да антычнасьці і была моцна зьвязаная духоўнымі ніцямі са старажытнымі Грэцыяй і Рымам. Прынцып крыптапартрэтыстыкі і традыцыя выяўленьня мастакамі саміх сябе паходзіць адтуль.

Менавіта з гэтым зьвязаная гісторыя жыцьця і сьмерці найлепшага, як лічаць мастацтвазнаўцы, скульптара ўсіх часоў Фідыя. Гэты старажытнагрэцкі скульптар і архітэктар жыў у V стагодзьдзі да нашай эры ў Атэнах. Ён быў галоўным дарадцам славутага дзяржаўнага дзеяча, ваяра і прамоўцы Пэрыкла падчас рэканструкцыі Акрапалю і выявіў на шчыце багіні Атэны свой і Пэрыклаў профілі. Зайздросьнікі абвінавацілі Фідыя ў абразе боства. Сяброўства з Пэрыклам не дапамагло, скульптара кінулі ў турму, дзе ён і памёр.

А для італьянскага Кватрачэнта (XV ст.) крыптапартрэтыстыка была ўжо ня рэдкасьцю. Многія мастакі ў тую эпоху на вялікіх сюжэтных карцінах або на фрэсках сабораў малявалі сябе ў кампаніі сьвятых і валадароў. Гэта быў своеасаблівы аўтограф. Некаторыя рабілі гэта калі не з нахабствам, дык прынамсі з гонарам, пыхай або выклікам.

Напрыклад, славуты флярэнтыйскі мастак Філіпа Ліпі, манах-кармэліт, вядомы яшчэ тым,



Філіпа Ліпі. «Мадонна зь немаўлём і двума анёламі»

што ў 50 гадоў скраў з кляштара 17-гадовую манашку і ажаніўся зь ёй, выявіў на адной з фрэсак самога сябе ў аблачэньні біскупа, хаця ў рэальным жыцьці быў простым парафіяльным сьвятаром.

Філіпа Ліпі, дарэчы, выкарыстоўваў і мэтад крыптапартрэтаў. Адна з самых вядомых яго карцін — «Мадонна зь немаўлём і двума анёламі» (1465). У твары Мадонны сучасьнікі беспамылкова пазналі скрадзеную з кляштара жонку мастака Люкрэцыю Буці, а ў тварах анёлаў — яго сына і дачку.

Той самы мэтад выкарыстоўваў і вучань Філіпа Ліпі — Сандра Батычэлі. Ён таксама пісаў вобразы Мадоннаў з абліччам сваёй каханай Сыманэты Вэспучы.

Батычэлі, усьлед за Ліпі, маляваў на сваіх палотнах і сябе самога ў атачэньні рэлігійных герояў і тагачасных уладароў. Напрыклад, на славутай карціне «Пакланеньне вешчуноў» (1475 г.) побач зь Дзевай Марыяй і немаўляткам Ісусам ён выявіў пяць прадстаўнікоў роду Мэдычы, а таксама іншых багатых жыхароў Флярэнцыі і сябе самога ў вобразе бялявага юнака ў жоўтай туніцы.

Пазьней тое самае рабілі Леанарда да Вінчы, Рафаэль, Мікельанджэлё, Эль Грэка і іншыя мастакі. Часам малявалі ня толькі сябе, але і сваіх калегаў. Гэтак зрабіў Рафаэль на славутай фрэсцы «Атэнская школа» ў папскім палацы Ватыкану. Сярод знакамітых філёзафаў ён выявіў ня толькі сябе і сваю каханую Маргерыту ў вобразе Гіпатыі, але і Леанарда да Вінчы зь Мікельанджэлё — першага ў вобразе Плятона, другога — у вобразе Геракліта.

Так што ідэя зьмясьціць у Бібліі свой партрэт і непадпісаныя партрэты тагачасных каралёў і сваякоў магла паходзіць у Скарыны ня толькі ад Дзюрэра, але і наўпрост з Італіі.

Партрэты першадрукара і яго сямейнікаў у Бібліі — не былі блюзьнерствам, гэта быў Рэнэсанс. Скарына, такім чынам, стаў у сваёй справе рэнэсансным мастаком (інтэлектуалам-гуманістам), які, вобразна кажучы, «намаляваў сябе на сваёй карціне», паставіў подпіс.

Гэта, дарэчы, можа служыць дадатковым доказам таго, што ён, калі ня сам выразаў ксыляг-



Рафаэль Санці. «Атэнская школа». У цэнтры Плятон (зьлева) і Арыстотэль (справа). У Плятона рысы Леанарда да Вінчы. Сядзіць наперадзе, падпёршы рукой галаву – Геракліт з рысамі Мікельанджэлё. Сам Рафаэль стаіць справа ў чорным барэце

рафічныя дошкі для сваіх гравюр, то, прынамсі, маляваў для іх эскізы. Такой думкі прытрымліваўся і Мікола Шчакаціхін.

Усё, што мы ведаем пра Скарыну і яго гравюры на гэты момант, сьведчыць пра тое, што ён сапраўды маляваў эскізы сам. Інакш бы мы не даведаліся, як выглядалі члены яго сям’і.

Гэтак Рэнэсанс прыйшоў у Беларусь.




## ЦІ ЗДРАДЗІЎ ЁН РАДЗІМЕ, ЗЬЕХАЎШЫ

Калі мы называем Скарыну адным з найвялікшых гістарычных дзеячоў і ганарымся выданьнем 500 гадоў таму першай сярод усходніх славян друкаванай кнігі, мы не надаём асаблівай увагі таму факту, што гэта адбылося ня ў Полацку, Менску або Вільні, але ў сталіцы Чэскага каралеўства Празе.

Некаторых этапаў жыцьцёвага шляху Скарыны мы ня ведаем, але ня будзе памылкай сказаць, што ня менш за палову жыцьця ён правёў за мяжой. А хутчэй за ўсё — большую яго частку.

### Першы культурны дзяяч эміграцыі

Няма сумневу, што людзі зь Беларусі зьяжджалі і да Скарыны. Але ён стаў першым на-

---

Партрэт Скарыны на сучаснай карце з дазволам на жыхарства ў Чэхіі, каляж



Галоўны будынак Падуанскага ўнівэрсытэту. XIV ст.

цыянальным эмігрантам у тым сэнсе, які мы ўкладаем у гэтае слова, сыходзячы зь беларускіх рэалій XX стагодзьдзя. Гэта значыць, Скарына быў тым дзеячом, які дбаў пра нацыянальную культуру і асьвету беларусаў, жывучы за мяжой.

Да эмігрантаў раней ставіліся і цяпер яшчэ ставяцца па-рознаму, часта нават нэгатыўна. Некаторыя іх называюць здраднікамі або шукальнікамі лепшага жыцьця. Такая непрыязнасьць адчуваецца нават у культурным асяродзьдзі.

Эмігрантам нярэдка адмаўляюць у праве ўдзельнічаць у нацыянальным культурным і палітычным працэсе або стараюцца не заўважаць іх актыўнасьці і ўнёску ў нацыянальную культуру.

500-гадовы юбілей Бібліі Скарыны — добрая нагода задумацца пра гэта.

## Плён ад выправы ў далёкі сьвет

Прычыны ад'езду Скарыны зь Беларусі ў 30-я гады XVI стагодзьдзя дакладна не вядомыя. Ня выключана, што і ён часам адчуваў халодны прыём, зайздрасьць, рэўнасьць.

Можа быць яму, як і некаторым беларускім эмігрантам са Злучаных Штатаў і Канады, якія ў пачатку 1990-х гадоў хацелі вярнуцца ў Беларусь на палітычныя і эканамічныя пасады, часам даводзілася пачуць на свой адрас словы «дзякуй, мы тут бяз вас дамо рады».

А тым часам, пакладзем руку на сэрца, задумаемся і адкажам на пытаньне: ці выдаў бы Скарына Біблію і іншыя свае кнігі, калі б застаўся жыць у Полацку?

Могуць запярэчыць, што праз 50 гадоў пасьля Скарыны Васіль Цяпінскі пераклаў на белару-



Набярэжная Вэнэцыі — эканамічнага і культурнага цэнтру Эўропы часоў Скарыны



Бэдржых Гаўранэк. Млыны на беразе Новага Места ў Празе. XIX ст.

скую мову і выдаў Эвангельле, не выяжджаючы зь Беларусі. Але ці зьявіўся б Цяпінскі, каб не было Скарыны? І ці стаў бы Скарына культурным дзеячом, якога цяпер вывучаюць ва ўсім сьвеце, без сваёй заходняй адукацыі, бяз побыту ў Вэнэцыі, Падуі, Празе і іншых эўрапейскіх цэнтрах?

Беларусь раней не была і цяпер ня ёсьць культурным і эканамічным цэнтрам сьвету. Дый добрых людзей шмат не бывае. Калі чалавек жыве за мяжой, чуецца беларусам і хоча дапамагчы Бацькаўшчыне — алілуя! Прывітайце яго як брата!

Скарына стаў тым, кім стаў, толькі дзякуючы сваёй эміграцыі. У замежжа падаюцца энэргічныя і актыўныя людзі, схільныя на ўчынкі. Яны бачаць вялікі сьвет, шмат чаму там вучацца і маюць шырэйшы кругагляд.

Не забывайма пра гэта і мы.



## ХТО ЁН — РУСІН, ЛІЦЬВІН ЦІ БЕЛАРУС

### Скарына-русін

Было, было... Былі тры Русі — Русь Кіеўская, Русь Літоўская і Русь Маскоўская. Усе тры стварылі свае мовы і сфармавалі свае ідэнтычнасьці. Усе тры блізкія, але розныя.

Так мне думаецца кожны раз, калі я разважаю пра Францішка Скарыну і яго этнічнае самаўсьведамленьне. Гэта першая з трох філязофскіх формул беларускай гісторыі, якія я прапаную ў развагах пра нечаканага Скарыну.

Цяжка аспрэчыць факт, што гістарычна існавалі тры цэнтры зьбіраньня рускіх земляў — Кіеў, Вільня і Масква. Прычым, два апошнія дзейнічалі

Мэмарыяльная шыльда ў гонар Скарыны на сьцяне Падуанскага ўнівэрсытэту

храналягічна паралельна і супернічалі паміж сабой. Якраз у кантэксьце гэтага суперніцтва (хоць і ня толькі яго аднаго) ВКЛ з поўным правам можна назваць Русьсю Літоўскай.

Пра сваю нацыянальнасьць ня раз казаў сам першадрукар:

«...не можем ли... послужити посполитому люду рускаго языка...»

«...абы братия моя Русь...»

«... напред богу в троици единому ко чти и своему прироженому рускому языку к науце всего доброго поднялся праци тое...»

Зразумела, што Скарына лічыў сябе рускім, русінам.

Называлі сябе так і іншыя дзеячы беларускай культуры XVI стагодзьдзя. Пратэстант Сымон Будны зьвяртаўся «къ всем благоверным христианом языка руского», а пратэстант Васіль Цяпінскі пісаў пра сябе: «русин... своеи Руси услугуючий».

З гэтых прыкладаў добра відаць марнасьць спробаў некаторых публіцыстаў атаясаміць значэньне тэрмінаў «рускі» і «праваслаўны» адносна эпохі XIV–XVII стагодзьдзяў.

У 1588 годзе Статут Вялікага Княства Літоўскага пад рэдакцыяй Льва Сапегі пастанаўляў: «А писар земски маеть поруску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншим езыком и словы…»

У дакумэнтах Падуанскага ўнівэрсытэту нацыянальнасьць Францішка Скарыны вызначаецца лацінскім тэрмінам ruthenus. Звычайна іх перакладаюць як русін, русінскі і кажуць, што яны, нібыта, пайшлі ад лацінскай назвы



Фрагмэнт актавай кнігі Падуанскага ўнівэрсытэту. 1512 год. Зьлева ў другім радку зьверху фраза «Scorina de Poloczko Ruthenus» (Скарына з Полацку Русін)

кельцкага племені рутэнаў, перанесенай у сярэднія вякі на Русь.

Разам з тым нашы ўсходнія суседзі — расейцы, знаходзяць слова «русін» ужо ў «Аповесьці мінулых гадоў» XI–XII стагодзьдзяў і лічаць яго тагачаснай саманазвай усходніх славян.

Тым ня менш, у Вялікім Княстве Літоўскім рускімі або русінамі называлі пераважна беларусаў і ўкраінцаў, а ўсходніх суседзяў звалі маскавітамі.

Этнонім «русін» адносна беларусаў шырока ўжываўся ў Рэчы Паспалітай да самага яе скону. Вось цытаты са знойдзенай у Вільні «Прамовы русіна», напісанай у XVIII стагодзьдзі: «А потым настатку прыходзіць русін...», «Одкажэць русін...», «От незбежны русін выпрасіў талент...» Пры гэтым невядомы аўтар, пішучы па-беларуску, атаясамлівае сябе менавіта з русінамі: «Просімы ж нінейшого пражніка — святого Мікулы, штоб тот талент адняў ад нас...»

А да ўсяго яшчэ аўтар «Прамовы русіна» — не праваслаўны, бо піша пра «прэклятую веру схізматыцкую...»

## Скарына-ліцьвін

У дакумэнтах Кракаўскага ўнівэрсытэту ў запісе пра наданьне Скарыну ступені бакаляўра пазначана «Францішак з Полацку, ліцьвін». Гісторыкі лічаць, што ў гэтым выпадку быў выкарыстаны не этнонім, але палітонім.

У пазьнейшыя стагодзьдзі тэрмін «ліцьвін» быў прыняты часткай беларускага народу як этнонім.

Вось характэрны прыклад. Паводле «Słownika geograficznego Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich», падчас лякальнага перапісу ў 1860 годзе ў Пружанскім павеце Горадзенскай губэрні 30 000 чалавек назваліся праваслаўнымі русінамі, 22 103 — праваслаўнымі ліцьвінамі і яшчэ 5 507 чалавек — ліцьвінамі-каталікамі. Апрача іх у павеце жыло 307 праваслаўных расейцаў, 6447 палякаў-каталікаў і 6013 габрэяў.

Польскі гісторык Юліюш Бардах сьцьвярджаў, што і ліцьвіны-каталікі Пружанскага павету насамрэч былі звычайнымі беларускамоўнымі сялянамі. Ну а мы ў Беларусі да таго ж разумеем, што ёсьць нюансы і з самавызначэньнем касьцельных беларускіх палякаў.

Ідэя сучаснай беларушчыны, як вядома, нараджалася ў XIX стагодзьдзі ў асяродзьдзі польскамоўнай шляхты, якая захоўвала ліцьвінскі патрыятызм і самасьвядомасьць.

Беларускую мову ліцьвінскай, а яе носьбітаў, адпаведна, ліцьвінамі аж да другой паловы XX стагодзьдзя называлі жыхары Смаленшчыны,



Сьпіс студэнтаў Кракаўскага ўнівэрсытэту, якія атрымалі ступень бакаляўра. 1506 год

Браншчыны, Валыні і нават запрыпяцкай часткі Піншчыны.

Сёньня ліцьвінства ня можа быць альтэрнатывай беларускасьці, бо зьяўляецца яе неад'емнай складовай часткай. Проціпастаўляць іх — значыць дэструктыўна скажаць рэальную гісторыю і этнагенэз беларусаў. Таму другая філязофская формула беларускай гісторыі гучыць так:

Беларусы не павінны баяцца тэрміну «рускі» ў розных гістарычных прыкладаньнях і, адначасова, не павінны забывацца на этнонім (і палітонім) «ліцьвіны». Гэта дзьве складовыя часткі сучаснай беларускай ідэнтычнасьці, важныя гістарычныя маркёры этнічнага разьвіцьця нашага народу.

У гістарычным і этнічным сэнсе «Русь» і «Літва» — дзьве крыніцы, зь якіх выцякае паўнаводная рака сучаснай беларушчыны.

## Навуковая дакладнасьць або палітычны выбар

Заходнія навукоўцы цяпер трымаюцца за тэрмін «русін» вельмі моцна. Яны сьцьвярджаюць, што ў XV–XVII стагодзьдзях не існавала ніякіх беларусаў і ўкраінцаў, а былі толькі русіны. На Захадзе славісты, якія вывучаюць культуру Заходняй Русі, кажуць, што займаюцца «русіністыкай».

Старабеларускую мову, якая была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім, заходнія навукоўцы цяпер называюць спэцыяльным тэрмінам «простая мова».

Часам ужываецца гэты тэрмін і ў Літве, дзе раней старабеларускую мову называлі «канцылярскай мовай ВКЛ». Аднак цяпер літоўскія гісторыкі і лінгвісты амаль цалкам перайшлі да ўжываньня створанага ў 1990-я гады тэрміну «rusėnų kalba» (мова русінаў).

У Чэхіі ёсьць сур'ёзныя гісторыкі, якія гарачага патрыёта-русіна Сымона Буднага называюць «літоўцам, роднай мовай якога была рутэнская».

## Уласныя прынцып і рацыя

Але беларусаў гэта ўсё не павінна турбаваць. Беларуская навука і публіцыстыка маюць поўнае права адмовіцца ад тэрмінаў «русін» і «простая мова», замяняючы іх, за выключэньнем спэцыяльных выпадкаў, тэрмінамі «беларус» і «беларускі».

Зрэшты, так яно ўжо і рабілася ў другой палове XX стагодзьдзя беларускімі гісторыкамі, філёзафамі і этнографамі. І цяпер заходні вопыт тут пе-

раймаць ня варта. Нават дзіўна, што мы сёньня ўсё яшчэ пра гэта гаворым.

Выдатны беларускі этнограф, доктар гістарычных навук Ігар Чаквін у сваёй працы «Этнаграфія беларусаў эпохі Скарыны» ў 1990 годзе пісаў, што ў канцы XV – пачатку XVI стагодзьдзяў ужо існавала фэадальная этнічная супольнасьць беларусаў — народнасьць.

Сьведчаньні шматлікіх пісьмовых крыніц — Мэтрыкі і Статутаў ВКЛ, друкаваных і рукапісных кніг, татарскіх кітабаў — даюць падставы сьцьвярджаць, што асобная беларуская мова ў XVI стагодзьдзі ўжо існавала, як і ўкраінская. Прычым яе размоўны варыянт мала чым адрозьніваўся ад варыянту, напрыклад, XX стагодзьдзя.

Нішто нам сёньня не замінае перакладаць тэрміны «ruthenus», «русін», «рускі» як беларус і беларускі. Украінцы маюць такое самае права перакладаць іх як украінец і ўкраінскі адносна сваіх дзеячоў і сваёй тэрыторыі.

Тыя замежныя гісторыкі, якія жорстка трымаюцца тэрмінаў «русін» і «русінскі», спасылаючыся пры гэтым на чыста навуковую дакладнасьць, нярэдка прыходзяць да нявыгадных нашаму народу палітычных высноваў — у прыватнасьці сьцьвярджаюць, што ў XVI стагодзьдзі ніякіх беларусаў і ўкраінцаў не існавала.

Таму беларускі прынцып і рацыя тут такія:

калі нешта ўжо было, але так не называлася, яно ўжо было.

Гэта трэцяя філязофская формула беларускай гісторыі.

Наш Францішак Скарына быў беларусам.



## ЯК ЁН СТВАРЫЎ МАНІФЭСТ БЕЛАРУШЧЫНЫ РАНЬНЕМАДЭРНАГА ЧАСУ

І, нарэшце, узброеныя трэцяй формулай беларускай гісторыі, паглядзім на сілу і кшталт патрыятычнага пачуцьця Францішка Скарыны.

### Словы на ўсе часы

Некаторыя выказваньні Скарыны-патрыёта пра сваю радзіму, пра суайчыньнікаў і пра родную беларускую мову немагчыма чытаць без хваляваньня. Тут не патрэбныя ніякія камэнтары.

---

Партрэты Францішка Скарыны, Васіля Цяпінскага, Сымона Буднага, Льва Сапегі, каляж

Вось гэты скарынаўскі гімн роднай зямлі, роднаму народу і роднай мове:

«Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по воздуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих, — тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають».

«Наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил».


вали • Понеже ѿприрожениѧ звери ходѧщие въпу
стыни знають ꙗмы своѧ • Птици летающие повоз
духꙋ ведають гнезда своѧ • Рибы плывающие помо
рю иврекахъ чують виры своѧ • Пчелы итымъ подо
бнаѧ боронѧть ꙋльевъ своихъ • Такожъ илюди игде
зродилисѧ иꙋскормлены суть побозе ктомꙋ местꙋ ве
ликꙋю ласкꙋ имають • Протожъ исимъ вдовица Iꙋ


ꙗзыкомъ • Напре кочти икпохвале бгꙋ
вътрци единомꙋ, Ипрчтой его матери
Марии, Ивсемъ нбнымъ чиномъ истым
бжьимъ, Апотомъ кпожиткꙋ посполито
го доброго, Наболей стое причины ижемѧ
млтивый бгъ стого ꙗзыка насвет пꙋстил

Фрагмэнты прадмоваў Скарыны да Кнігі Юдыт і да Псалтыра

«Положил есми в сих книгах образци храму господня и сосудов его и дому царева, еже ставил ест Саломон-цар. А то для того, абы братия моя Русь, люди посполитые, чтучи могли лепей разумети».

«Тако ж и мы, братия, не можем ли во великих послужити посполитому люду рускаго языка, сие малые книжки праци нашее приносимо им».

Што тут дадаць? Хіба тое, што гэта напісана на тагачаснай літаратурнай беларускай мове высокага стылю.

Фраза «во великих послужити» не пакідае сумненьняў, што першадрукар цалкам усьведамляў вялікае значэньне таго, што ён робіць для свайго народу.

## Наступнікі

Цяжка сумнявацца і ў тым, што патрыятычны пасыл Скарыны ўспрыняў Васіль Цяпінскі, які праз 50 гадоў у прадмове да свайго беларускага Эвангельля пісаў:

«Зъ своее убогое маетности народу моему услугую... Бо а хто богобойный не задержить, на такую казнь Божию гледечи, хто бы не мусил плакати, видечи так великих княжат, таких панов значных, так много деток невинных, мужов з жонами в таком зацном руском, а злаща перед тым довстипном учоном народе, езыка своего славнаго занедбане, а просто взъгарду...»

Пасьля гэтай гаротнай канстатацыі Цяпінскі заяўляе, што гатовы памерці разам са сваёй Айчынай, калі яе ўсё ж чакае такі неміласэрны лёс:

«Которих я не одному которому, але всим и з тою потребою Отчизны вашое, богопоиной пильности, росторопности и верности поручаю и зоставую, просечи Пана, абых был готов, если она до конца згинет, з нею згинуть; або, если через вашь ретунок будет выдвигнена, з вами и з нею выбринуть».

У XXI стагодзьдзі мы ўжо дакладна ведаем, што Беларусь праз нягоды, ахвяры, страты і выпрабаваньні, усё ж «выбрынула». Як пра гэта і марыў «русін» Цяпінскі.

Няма сумневу, што і Леў Сапега чытаў тэксты Скарыны і памятаў пра іх, калі пісаў у прадмове да Статуту ВКЛ 1588 году:

«А если которому народу встыд прав своих не умети, поготовю нам, которые не обчым яким языком, але своим власным права списаные маем и кождого часу, чого нам потреба ку отпору всякое кривды, ведати можем».

Закладзеную Скарынам «рускую» патрыятычную традыцыю працягваў і верш Яна Казімера Пашкевіча, напісаны ў Вільні ў 1621 годзе:

Полска квитнет лациною  
Литва квитнет русчизною...  
Весели ж се ты, русине,  
Тва слава никгды не згине!

## Генэтычны код культуры

Гляньма яшчэ раз на прыведзеныя вышэй словы Скарыны.

Гэты маніфэст раньнемадэрнай беларушчыны быў сфармуляваны пяць стагодзьдзяў таму!

Перад намі — непераўзыдзены ўзор Скарынавага патрыятызму, запавет нашчадкам, генэтычны код культуры і нацыянальнага духу.

Вось што штурхала і штурхае наш народ наперад.

*Красавік–ліпень 2017 г.*
*Прага-Падуя-Вэнэцыя-Прага*




## ГЕОРГІ ГАЛЕНЧАНКА: можна напісаць кнігу пра тое, чаго мы ня ведаем пра Скарыну

Георгі Галенчанка нарадзіўся 28 лютага 1937 году ў Петразаводзку. Адзін з самых маладых дактароў гістарычных навук у СССР (1965). Адзін з аўтараў навукова-папулярнай кнігі «Францыск Скарына», выдадзенай UNESCO па-француску і па-ангельску (Парыж, 1979–1980). Укладальнік разьдзелу «Старадрукаваныя кірылічныя выданьні XVI–XVIII ст.» у каталёгу «Кніга Беларусі. 1517–1917 гг.» (1986), факсымільнага выданьня «Бібліі» Ф. Скарыны (1990–1991, у 3-х тамах). Аўтар кніг «Ідэйныя і культурныя сувязі ўсходнеславянскіх народаў у XVI – сярэдзіне XVII ст.»

(1989), «Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар» (1993). Ляўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1994). Галоўны навуковы супрацоўнік Інстытуту гісторыі НАН Беларусі.

**— Як вядома, менавіта вы вярнулі Скарыну сапраўднае імя Францішак, калі знайшлі дакумэнт, які сьведчыў, што насамрэч «Георгі» — не другое імя друкара, а прыкрая памылка, дапушчаная перапісчыкам аднаго з лацінскіх дакумэнтаў: замест «egregius» (выдатны) перапісчык напісаў «georgius».**

— Так. Некалі дасьледчык тэкстаў Скарыны, Апостальскі візытатар для беларусаў замежжа айцец Аляксандар Надсан востра выказаўся пра тое, што гэтага адкрыцьця тут не заўважылі і не адзначаюць. Заўважылі, таму і не адзначаюць...

**— Што, на вашу думку, самае загадкавае ў лёсе і постаці Скарыны?**

— Дакладных дакумэнтаў пра Скарыну існуе каля дваццаці. Усё астатняе — гіпотэзы, міты, меркаваньні.

**— Ну але ўсё ж, не маглі б вы назваць некалькі загадак Скарыны? Напрыклад, мы ня ведаем, дзе ён атрымаў мэдычную адукацыю. Што яшчэ?**

— Тут процьма ўсяго. Па-першае, мы ня ведаем сям'і, у якой ён нарадзіўся. Ну ведаем бацьку Луку. Але маскоўскі дасьледчык Полехаў знайшоў зьвесткі, што ў Рызе згадваецца нейкі Скарына яшчэ ў першай палове XIV стагодзьдзя. Полехаў нават выказвае меркаваньне, што гэта можа быць продак Лукі Скарыны.

Яшчэ адна загадка — вера Скарыны. Ці быў ён ад пачатку ахрышчаны ў праваслаўнай веры, ці з самага пачатку быў каталікам, будучы пахрышчаным у бэрнардынскім манастыры? Але той манастыр, нібыта, заснаваны троху пазьней. Таксама загадка. Мне думаецца, што пачынаў з праваслаўя, бо сям'я пераважна захавала праваслаўныя імёны. А імя «Францыск» няма ў праваслаўных сьвятцах. Гэтае імя азначае, што Скарына стаў каталікам.

Апрача таго, ня маючы каталіцкай адукацыі, яму не было б дзе вывучыць лацінскую мову. А бяз гэтай мовы нельга тады было паступіць у Кракаўскі і іншыя ўнівэрсытэты Эўропы. Яшчэ загадкі — хто фінансаваў ягоныя паездкі і дзе ён скончыў школу такога высокага рангу, якая магла падрыхтаваць яго да ўнівэрсытэту яшчэ ў Вільні. Віленскі пэрыяд ня вывучаны як сьлед. Па Вільні матэрыялаў шмат, але яны не дасьледаваныя.

Мне думаецца, што пачынаў ён у Полацку, але вельмі хутка атабарыўся ў Вільні. Калі гэта адбылося, дакладна не вядома — яшчэ адна загадка. Пазьней, у пачатку другога дзесяцігодзьдзя XVI стагодзьдзя згадваецца Іван Скарына, старэйшы брат Францішка, купец, які гандляваў з Масковіяй, з украінскімі землямі, з Польшчай. Паколькі Іван меў званьне віленскага мешчаніна, то, відаць, гэта ён і паспрыяў Францішку ў пераезьдзе ў Вільню.

Яшчэ адно буйное пытаньне не дасьледаванае — хто падтрымаў яго фінансава ў далейшым жыцьці, хто, напрыклад, фінансаваў яго паступленьне ў Кракаўскі ўнівэрсытэт? Калі ён па-

ступаў, ён заявіў, што небагаты, і прасіў скідку, якую яму далі.

**— Як вы асабіста як скарыніст адзначыце 500-годзьдзе першай беларускай друкаванай кнігі?**

— Гэта прыемная, незвычайная дата. Да наступнага 500-годзьдзя, як я жартую, ня ўсе дажывуць. Я цяпер займаюся падрыхтоўкай такой абагульняльнай кнігі пад працоўнай назвай «Францыск Скарына: жыцьцё, дзейнасьць, спадчына». Яна будзе шмат у чым новай у канцэптуальных пытаньнях, у ацэнцы Скарыны. На сёньняшні дзень новых дакумэнтаў амаль ня знойдзена, а тыя, што знойдзеныя — ускосныя і непасрэдна Скарыны ня тычацца. Я часам жартую, што прасьцей напісаць вялікую капітальную кнігу пра тое, чаго мы яшчэ ня ведаем пра Скарыну. Спадзяюся, што мая кніга будзе карыснаю, бо спэцыялістаў па гісторыі кнігадрукаваньня, скарыністаў засталося вельмі мала, іх можна лёгка пералічыць.

**— Гэта будзе нешта накшталт таго, што некалі напісаў Неміроўскі? Я маю на ўвазе кнігу «Франциск Скорина. Жизнь и деятельность белорусского просветителя» 1990 году выданьня?**

— Неміроўскі сваю кнігу перагрузіў фактурай, даведачным апаратам. Ён сапраўды чалавек адукаваны. Зь ім можна спрачацца па праблемах тэарэтычных, але як са знаўцам асобных экзэмпляраў, як бібліёграфам — зь ім цяжка некага параўнаць. У мяне зь ім ёсьць некаторыя разыходжаньні, але я стаўлюся да яго вельмі пазытыўна.

Праўда, у адным з дакладаў Неміроўскі сказаў, што ён займаецца Скарынам з канца 1960-х або з пачатку 1970-х гадоў. Ён забыў сказаць, што ў 1965 годзе ў Маскве адзін дасьледчык абараніў доктарскую дысэртацыю па Скарыне, і яна там у Маскве захоўвалася з таго часу ў трох тамах — два тамы тэксту і том ілюстрацыяў. І на гэтую дысэртацыю захаваўся пазытыўны водгук Улашчыка. Былі водгукі і іншых вядомых гісторыкаў. Гэта была мая праца, якая дагэтуль ня выдадзеная.

**— Ці дастаткова было нададзена ўвагі ў сучаснай Беларусі 500-годзьдзю беларускага кнігадрукаваньня?**

— Гэта юбілей беларускага і ўсходнеславянскага друку, з чым, дарэчы, не пагаджаецца Неміроўскі. Нейкая ўвага ёсьць, шмат што выдаецца, асабліва для дзетак, папулярная літаратура. Створаныя цэнтры, якія гэтым займаюцца, найперш Нацыянальная бібліятэка, якая выдае цяпер поўнае выданьне скарынаўскіх друкаў факсымільнага тыпу. Ну і Акадэмічная бібліятэка. Але дасьледчыкаў ужо мала. Займаюцца асобнымі напрамкамі — філялёгія, мова, мастацтва, але са зводнымі гістарычнымі працамі цяжка.

Вырашылі выдаць яшчэ адну энцыкляпэдыю пра Скарыну накшталт колішняй Скарыніяны, але я адразу сказаў, што папярэдняя Скарыніяна рыхтавалася гадоў дзесяць і задзейнічана было больш за 200 навукоўцаў з розных краін. А перавыдаць старую, без дадаткаў і паправак — таксама несалідна, гэта ня тое. Ну але Энцыкляпэдыя ўзялася, цяпер яна ўжо іншага ўзроўню.

Яшчэ будзе шэраг папулярных выданьняў накшталт тых, што выходзілі да ранейшых дат — «Мова Скарыны», «Спадчына Скарыны», «Эпоха Скарыны» і г. д. Такія выданьні таксама патрэбныя, але аўтараў ня так і шмат.

**— Нядаўна ў Літве па-літоўску выйшаў зборнік навуковых прац пра Скарыну. І ў іншых краінах патроху праца ідзе. Выглядае, што скарыназнаўства не памерла.**

— Гэта так. Літоўцы сапраўды цяпер сур'ёзна заняліся сваёй гісторыяй. Некаторыя крыніцазнаўчыя выданьні выходзяць на добрым узроўні, напрыклад, прысьвечаныя Статутам ВКЛ.

**— Ці будуць яшчэ, на вашу думку, знойдзеныя новыя дакумэнты пра Скарыну? І дзе іх трэба шукаць?**

— Думаю, што знойдзеныя будуць безумоўна з той простай прычыны, што нашы дасьледчыкі ў XX стагодзьдзі мала дзе працавалі за мяжой. А матэрыялы, зьвязаныя са Скарынам, я думаю, захоўваюцца ў дацкіх архівах, найперш сталіцы Даніі Капэнгагену. Мы ведаем, што, паводле аднаго з дакумэнтаў, Скарына быў сакратаром караля Дакіі. Дакіяй тады называлі і Данію, і Румынію, Валаскае княства.

Я думаю, што Скарына быў у Даніі, але ніводнага дакумэнту, які б падмацоўваў гэтую вэрсію, няма. Акрамя таго ніхто як сьлед не дасьледаваў праскія матэрыялы, ніхто не адказаў на пытаньне, чаму ў Празе не захавалася ніводнага асобніка кнігаў Скарыны або чаму старонкі ягоных кніжак знаходзяць у пераплётах іншых выданьняў.

Адзіны асобнік Бібліі — Кніга Ісуса Сірахава — быў падораны чэскаму музэю з Масквы. Я дасьледаваў той асобнік і заўважыў, што ім карысталіся прадстаўнікі Праваслаўнай царквы, якія пакінулі свае паметкі. Гэта сьведчыць пра тое, што Праваслаўная царква выкарыстоўвала кнігі Скарыны, хаця, як вядома, і яна, і іншыя кананічныя цэрквы ставіліся да выданьняў Скарыны, скажам так, па-рознаму. Гэта дайшло і да XX стагодзьдзя.

**— А якое выданьне пра Скарыну было б цяпер, на вашу думку, найбольш патрэбнае і карыснае?**

— Перавыдаваць трэба ня столькі энцыкляпэдыю, колькі зборнік дакумэнтаў пра Скарыну з разглядам вэрсій і камэнтарамі да вэрсій.

**— Як цяпер скарыназнаўства выглядае ў Беларусі? Ці ёсьць маладыя дасьледчыкі, якія працягваюць працу папярэднікаў?**

— Ёсьць. Хоць і мала, але ёсьць. Ёсьць маладыя хлапцы, якія нягледзячы на непрыбытковасьць гістарычных дасьледаваньняў працуюць. Ёсьць гісторыкі з кола пратэстанцкіх цэркваў, якія цікавяцца Скарынам, вытокамі ягонай Бібліі. Так што гісторыкі ёсьць, варта было б іх усяляк падтрымаць.



## АДАМ МАЛЬДЗІС:
## новыя дакумэнты пра Скарыну яшчэ будуць знаходзіць па ўсёй Эўропе

Адам Мальдзіс нарадзіўся ў 1932 годзе ў вёсцы Расолы Астравецкага раёну Гарадзенскай вобласьці. Беларускі літаратуразнавец, гісторык, пісьменьнік, журналіст. Доктар філялягічных навук, прафэсар. У 1991–1998 дырэктар Нацыянальнага навукова-асьветніцкага цэнтру імя Ф. Скарыны. Аўтар дзясяткаў манаграфій, навукова-папулярных і літаратурна-мастацкіх кніг, у тым ліку манаграфіі «Францыск Скарына як прыхільнік збліжэньня і ўзаемаразуменьня людзей і народаў» (1988), а таксама сотняў навуковых і навукова-папулярных артыкулаў.

**— У якіх краінах, на вашу думку, яшчэ могуць быць знойдзеныя невядомыя дакумэнты пра беларускага першадрукара?**

— Паводле маіх уяўленьняў, невядомыя дакумэнты пра Францішка Скарыну могуць яшчэ быць знойдзеныя ў архівах ўсіх краінаў Эўропы, дзе Скарына жыў, працаваў або вучыўся. Гэта Аўстрыя, Італія, Данія, Чэхія, Польшча і Літва.

**— Куды б вы паехалі найперш?**

— Я б найперш паехаў у Капэнгаген, сталіцу Даніі. Мяркуецца, што паміж 1507 і 1512 годам Скарына быў сакратаром караля Даніі. Тады Данія мела актыўныя палітычныя зносіны з Рэччу Паспалітай і ВКЛ, таму пры каралі быў патрэбны чалавек зь веданьнем старабеларускай мовы. Пры абароне доктарскай дысэртацыі па мэдыцыне ў 1512 годзе ў Падуі Скарына названы сакратаром караля Даніі.

**— Куды трэба ехаць пасьля Даніі?**

— Вядома, трэба пільна шукаць у чэскіх архівах, і ня толькі праскіх, а таксама ў архівах Аўстрыі, найперш Вены, бо менавіта там жыў кароль Чэхіі Фэрдынанд I Габсбург, у якога Скарына ў 30-я гады XVI стагодзьдзя працаваў садоўнікам у Празе.

**— Ці добра дасьледаваныя архівы Італіі?**

— Вядома, там шукалі, шмат чаго знойдзена з папераў Падуанскага ўнівэрсытэту, але гэта не азначае, што знойдзена ўсё. Трэба шукаць далей, у тым ліку і ў архівах Ватыкану.

**— А Польшча? Ці там усё ўжо дасьледавана?**

— О, я лічу, што польскія архівы дасьледаваны недастаткова, далёка не дастаткова. Думаю,

што і там навукоўцаў яшчэ чакаюць пэўныя адкрыцьці.

**— Відаць дасьледчыкам для такой працы патрэбнае добрае веданьне лацінскай мовы, што цяпер сустракаецца ня так часта?**

— Так, вядома. Без лацінскай мовы скарыназнаўцу няма куды... Напрыклад, венскія архівы пераважна на лацінскай мове, бо гэта ж цэнтар тагачаснай лацінскай імпэрыі, і кароль чэскі тады жыў там.

**— Вы — чалавек, які шмат што за сваё жыцьцё адкрыў і шмат чаго ў архівах адшукаў. Ці ёсьць прадчуваньне будучых знаходак пра Скарыну? Што гаворыць ваша дасьледчыцкая інтуіцыя?**

— Ёсьць. Нават у Варшаве нібыта шмат знойдзена, але каб сказаць, што там усё дасьледавана — нельга. Каб я меў сілы і магчымасьці (я цяпер моцна хварэю) то я паехаў бы найперш у Данію, Польшчу і Італію, паехаў бы ў Вэнэцыю, бо Падуя ўваходзіла ў Вэнэцыянскую рэспубліку. Ды нават паехаў бы ў Вільню. Скарына ж быў сакратаром віленскага біскупа Яна, а дакумэнты пра гэта ніхто пакуль не знайшоў. Так што можна сказаць і так: найбліжэйшы кірунак для дасьледчыкаў — Вільня.



## МІКОЛА НІКАЛАЕЎ: у Санкт-Пецярбургу ляжаць рукапісы Скарынавага перакладу тых кніг Бібліі, якія ў друкаваным выглядзе да нас не дайшлі

Мікола Нікалаеў нарадзіўся ў 1955 годзе ў горадзе Шчучын Гарадзенскай вобласьці. Беларускі гісторык, доктар філялягічных навук. Скончыў гістарычны факультэт БДУ. Працаваў у Ленінградзкім аддзяленьні Інстытуту археалёгіі АН СССР. Загадчык аддзелу рэдкай кнігі Расейскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу. Аўтар манаграфіі «Палата кнігапісная» (1993), «Гісторыі беларускай кнігі», т.1 (2009), кнігі «Беларускі Пецярбург» (2009) і іншых, а таксама шматлікіх артыкулаў.

**— Вядома, што ў Львове і Санкт-Пецярбургу захоўваюцца дзьве часткі аднаго рукапісу, які зьмяшчае ў сабе тэксты выдадзеных Скарынам кніг Бібліі, але таксама і некалькі кніг (Кніга Эздры, Кніга Тобіі, Кнігі Прарокаў, Першая кніга Макабэяў і іншыя), што друкам ня выйшлі або былі надрукаваныя, але да нас не дайшлі. У Энцыкляпэдыі «Францыск Скарына» ў біяграме расейскага навукоўца XIX стагодзьдзя Міхаіла Пагодзіна сьцьвярджаецца, што гэта пераклады Скарыны. Раскажыце, калі ласка, пра гісторыю гэтага рукапісу.**

— Рукапіс, пра які вы гаворыце, гэта таўшчэзная кніга — 741 старонка, і фармат яе — вялікі аркуш (для ўяўленьня — гэта больш, чым фармат кніг Беларускай Энцыкляпэдыі). Сапраўды, як вы сказалі, у XIX стагодзьдзі гэтая кніга была падзелена на дзьве часткі. Адна частка да сёньня знаходзіцца ў Львове, і гэта месца яе магчымага стварэньня. А другая частка — у Санкт-Пецярбургу, хаця раней яна была ў Маскве.

У сярэдзіне XIX стагодзьдзя маскоўскі прафэсар гісторыі Міхаіл Пятровіч Пагодзін завязаў дружбу зь львоўскімі аматарамі гісторыі. Міхаіл Пятровіч меў грошы, ён дапамагаў львоўскім сябрам грашыма, яны для яго шукалі кнігі, а ён за кнігі шчодра плаціў.

У Львове быў такі краязнавец Дзяніс Зубрыцкі, які пачаў перапіску з Пагодзіным і паведаміў, што ёсьць такая Біблія. Ён таксама напісаў, што можа паспрабаваць яе здабыць для Пагодзіна. Зубрыцкі ўзяў гэтую кнігу зь бібліятэкі Львоўскага базыльянскага манастыра сьвятога Ануфрыя,

але манастырскае начальства не дазволіла яе перапраўляць у Маскву і запатрабавала вярнуць кнігу. Зубрыцкі вярнуў толькі палову, а начальства не заўважыла. Або зрабіла выгляд, што не заўважыла, бо там удзельнічалі грошы.

Такім чынам, да Пагодзіна адправілася палова рукапісу. І вось у Львове засталося 356 старонак, а ў Маскву паехала 385. Гэта значыць, што кнігу падзялілі амаль напалам.

Пасьля сьмерці Міхаіла Пагодзіна, які быў прафэсарам Маскоўскага ўнівэрсытэту, яго калекцыю кніг і рукапісаў купіла Імпэратарская Публічная бібліятэка ў Санкт-Пецярбургу. Калі калекцыя Пагодзіна прыйшла ў Публічную бібліятэку, яе таксама падзялілі паміж двума аддзеламі: паміж Аддзелам рэдкіх кніг, куды пайшлі старадрукі, і аддзелам рукапісаў, куды пайшлі рукапісы. Вось такая гісторыя падарожжаў гэтай кнігі.

**— І якая была ўвага навукоўцаў да гэтага рукапісу?**

— Доўгі час гэты рукапіс быў як бы на пэрыфэрыі навуковай увагі. Навукоўцы ведалі пра яго, напрыклад, Афанасій Бычкоў ведаў, што гэта пераклады Скарыны. Але актыўна зьвяртаць на яго ўвагу пачалі толькі ў апошнія дзесяцігодзьдзі, пачынаючы з прац Яўгена Неміроўскага.

**— Да гісторыі вывучэньня мы яшчэ вернемся, а пакуль пытаньне да вас адносна самога рукапісу. Як ён датуецца, наколькі гэтае датаваньне дакладнае?**

— Калі я нядаўна трымаў гэтую кнігу ў руках, я адразу падумаў пра вас. Журналісты любяць

сэнсацыйныя павароты. І тут такі сэнсацыйны паварот якраз мог быць — кніга магла быць напісана самім Скарынам, гэта мог быць рукапіс ягоных перакладаў. Почырк XVI стагодзьдзя, папера XVI стагодзьдзя, пераклады Скарыны, прадмовы Скарыны... Але там ёсьць прыпіска перапісчыка, якая паведамляе яго імя — і гэта не Скарына. Калі б такой прыпіскі не было, мы б маглі думаць, што гэта аўтограф Скарыны. Але на кнізе ёсьць надпіс пра тое, што «Дзьмітро зь Зінкава пісарчык у 1575 годзе перапісаў гэтую кнігу ў Ануфрыеўскім манастыры ў Львове».

І вось той «Дзьмітро зь Зінкава пісарчык», які ў XVI стагодзьдзі стварыў рукапіс, успамінаецца ў некалькіх месцах гэтай кнігі. Таму мы дакладна ведаем, што гэта не асабістая рука Францішка Скарыны. Але параўнаньне тэкстаў з выданьнямі Скарыны паказвае абсалютную тоеснасьць. Нават тыя адрозьненьні, якія ёсьць, падкрэсьліваюць, што гэта Скарына. Бо пісарчук часам прапускаў галосныя, каб было хутчэй (у славянскай мове гэта магчыма), таксама там прысутнічаюць украінізмы, напрыклад, «що», і г. д. Але гэта і ўсё, астатняе цалкам скарынаўскае — і тэксты, і пераклады.

**— Якая гісторыя вывучэньня хаця б таго кавалка, што апынуўся ў Санкт-Пецярбургу? Ці нехта параўноўваў, напрыклад, мову, асаблівасьці перакладу, каб высьветліць, ці сапраўды гэтыя ненадрукаваныя пераклады належаць Скарыну?**

— Гісторыя вывучэньня рукапісу даволі багатая. Яна пачалася яшчэ ў пачатку XIX стаго-

дзьдзя, калі ўкраінскія дасьледчыкі заўважылі гэтую кнігу.

Напрыклад, Маркіян Шашкевіч, пачынальнік украінскай літаратуры, пісаў у сваім зборніку «Русалка Днестровая», што ёсьць такая цікавая кніга — Біблія Старога Запавету, без пачатку і без канца, якая захоўваецца ў Львове. А потым, калі рукапіс ужо быў падзелены, яго гісторыяй займаліся і львоўскі прафэсар Якаў Галавацкі, і маскоўскі славянафіл і выдавец Іван Аксакаў.

Але яны вывучалі гэтую кнігу, не папулярызуючы яе. Ім было цікава, яны хацелі пазнаёміцца зь ёй, але яны не сьпяшаліся нешта пра яе паведаміць шырокай навуковай грамадзкасьці. Таму можна сказаць, што кніга гэтая вывучана мала.

Першы сур'ёзны ўклад у вывучэньне гэтага рукапісу зрабіў Яўген Львовіч Неміроўскі, які да 500-гадовага юбілею Францішка Скарыны выдаў у Менску кнігу «Франциск Скорина. Жизнь и деятельность белорусского просветителя». Там ён апісаў і пагодзінскі, і львоўскі рукапісы, зьвёў іх гісторыю і паказаў яе разьвіцьцё. Больш за тое, ён нават апублікаваў тыя прадмовы Скарыны, якія з друкаваных кніг невядомыя, але ў тым рукапісе яны ёсьць.

**— Такім чынам, калі ёсьць прадмовы Скарыны, гэта адназначна даказвае, што і неапублікаваныя пераклады кніг Бібліі належаць яму, гэта яго пераклады?**

— Гэта зь вялікай верагоднасьцю пераклады Скарыны. Пакуль не знайшлі надрукаваных і падпісаных Скарынам кніг, напрыклад, Кніг Эздры або іншых, мы ня можам да канца быць

упэўненыя, але верагоднасьць гэтая набліжаецца да 100 працэнтаў.

**— Тут дапамог бы прафэсійны аналіз мовы, калі б лінгвісты і гісторыкі мовы гэтаму ахвяраваліся. Такога дасьледаваньня, відаць, не было?**

— Не было. Гэтаму перашкаджае разьдзеленасьць рукапісу паміж Львовам і Санкт-Пецярбургам, а таксама тое, што ён не апублікаваны.

**— Якой, на вашу думку, павінна быць будучыня гэтага рукапісу? Як ён павінен быць апублікаваны і пасьля якой падрыхтоўчай працы?**

— Безумоўна, патрэбны міжнародны праект, расейска-беларуска-ўкраінскі. Бо частка рукапісу знаходзіцца ў Расеі, частка ва Ўкраіне, а найбольш зацікаўленыя ў вывучэньні Скарыны — якраз беларусы. Зрэшты, у кожнай з гэтых краін ёсьць людзі, зацікаўленыя ў вывучэньні гісторыі кнігадрукаваньня, гісторыі культуры, гісторыі перакладаў Бібліі.

Кніга велізарная, гэта вялікі аб'ём тэкстаў, цяжка выдаць больш за 700 вялікіх старонак факсыміле з навуковымі камэнтарамі. А вось калі такое выданьне адбудзецца, тады трэба ўжо глядзець. Такая кніга шмат што дасьць і ня толькі для скарыназнаўства, але і для біблеістыкі, для гісторыі кнігі наагул.

**— Давайце яшчэ раз удакладнім. Усе гэтыя больш за 700 рукапісных старонак вялікага фармату — гэта пераклады Скарыны. Так?**

— Падобна, што так. Бо тыя кнігі, якія былі надрукаваныя і нам вядомыя, у тым рукапісе маюць абсалютнае падабенства. А ёсьць там яшчэ і

біблійныя кнігі, якіх як надрукаваных Скарынам мы ня ведаем. Або Скарына не пасьпеў іх надрукаваць, або надрукаваў, але яны не захаваліся.

**— Гэта, як пішуць Яўген Неміроўскі і энцыклапэдыя «Францыск Скарына», дзьве Кнігі Параліпамэнан (або Кнігі Летапісаў), чатыры Кнігі Эздры, Кніга Тобіі, 16 Кніг Прарокаў і Кніга Макабэяў?**

— Так. Гэта якраз той кавалак перакладу, які зрабіў бы Скарыну перакладчыкам поўнага тэксту Старога Запавету. Нядаўна ў Санкт-Пецярбургу прайшла канфэрэнцыя, прысьвечаная біблійнаму перакладу Мацея Дзясятага, які быў зроблены ў Вільні і ў Супрасьлі (скончаны ў 1507 годзе). Гэта таксама таўшчэзны рукапісны кодэкс, які захоўваецца ў Пецярбургу ў бібліятэцы Акадэміі навук. Там таксама амаль уся Біблія, больш за тое, і там ёсьць некананічныя кнігі. Гэты кодэкс таксама не надрукаваны.

І рукапіс зь перакладамі Скарыны, і Біблія Мацея Дзясятага — гэта два такія таўшчэзныя кодэксы прыблізна аднаго часу, калі ў Вялікім Княстве Літоўскім была вялікая зацікаўленасьць у біблійнай тэматыцы. Тады перакладаў і выдаваў Скарына, тады ж і перакладаў Мацей Іаанавіч (Мацей Дзясяты). Абедзьве гэтыя магутныя кнігі яшчэ чакаюць свайго выданьня і дасьледаваньня.

**— Уражвае, што да 500-годзьдзя праскай Бібліі ніхто гэтую працу не зрабіў...**

— Так. Гэтую працу ніхто не зрабіў, ніхто не падняў. Бо гэтае 500-годзьдзе не рыхтавалася як грунтоўная навуковая падзея. На жаль.

**— Сёньня ўжо мала хто ведае, што недзе існуюць рукапісныя копіі Скарынавых перакладаў і, асабліва, той факт, што сярод іх ёсьць невядомыя ў друкаваным выглядзе кнігі Старога Запавету і прадмовы Скарыны да іх.**

— Так. Яўген Няміроўскі ў сваёй кнізе нават апублікаваў прадмову да Кнігі Эздры, каб паказаць, што Францішак Скарына, напрыклад, ведаў творы італьянскага гуманіста Піка дэля Мірандаля, бо ў той рукапіснай прадмове ён згадваецца. Няміроўскі сыходзіць з таго факту, што гэта ўсё ж пераклады Скарыны.

Іншая тэма — ці сам Скарына рабіў пераклад. Толькі адначасова з выданьнем гэтае пытаньне можа быць вырашана.

**— На маю думку, мова Скарыны настолькі арыгінальная, што яе мусіў стварыць менавіта адзін чалавек. Гэта, відавочна, аўтарская мова, аўтарскі пераклад.**

— Я вас у гэтай думцы падтрымаю. Маё чытаньне Скарыны гэта пацьвярджае. Калі яго пачынаеш чытаць, адразу бачыш гэтую асаблівасьць.

Я думаю, што Скарына быў пад моцным уплывам чэскай мовы. Відаць, ён меў чэскую Біблію як узор, бо там яна прысутнічае і ў запазычаньнях, і нават у форме думаньня. Ён, вядома, часта піша і згадвае пра сваю радзіму, але відаць, што ён знаходзіўся пад магутным уплывам чэскай славяншчыны...

**— І польскай. А чэскіх словаў у яго перакладах мовазнаўцы налічылі аж 200 штук... Наступнае пытаньне да вас такое. Як бы вы ацанілі становішча скарыназнаўства ў наш час?**

**І як мы адзначылі юбілей 500-годзьдзя Скарынавай Бібліі?**

— Мне складана ацэньваць скарыназнаўства. Яшчэ жывуць магутныя скарыназнаўцы, якія шмат пра Скарыну пісалі, шмат што сказалі і шмат што ведаюць. Гэта Георгі Якаўлевіч Галенчанка і Яўген Львовіч Неміроўскі, але яны ўжо вельмі пажылыя людзі. Цяпер яны актыўна навукай не займаюцца, ім за 80 гадоў. А маладыя не нарасьлі. З маладых дасьледчыкаў у галіне скарыназнаўства пакуль ніхто не праявіўся.

Што праўда, 500-гадовы юбілей быў сустрэты пасьпяховым праектам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі факсымільнага выданьня кніг Скарыны. Яны падрыхтавалі, выдалі і ўвялі ў навуковы абыходак асобнік зь Нямеччыны.

Але і ў іх выданьні ёсьць вялікі навуковы недахоп, таму што бралі найлепш захаваныя кнігі і кампанавалі збор твораў Францішка Скарыны без уліку экзэмплярнасьці. Гэта зрабіла праект больш танным, больш рэнтабэльным, але для рэдкай старадаўняй кнігі важна гісторыя экзэмпляра і, прынамсі, яго расфарбоўка.

Арганізатары праекту Нацыянальнай бібліятэкі бралі тое, што ім давалі. Напрыклад, у нямецкім экзэмпляры ілюстрацыі не расфарбаваныя. А ў расейскай Нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу ёсьць экзэмпляры з расфарбаванымі ілюстрацыямі. Таксама і ілюстрацыі зь вельмі багатых маскоўскіх збораў пакуль ня ўведзеныя ў навуковы абыходак.

Цяпер стаіць пытаньне — ці сам Скарына зьяўляецца аўтарам расфарбаваных ілюстрацый.

Бо гравюры ён надрукаваў, гэта ўжо ўсе ведаюць. Але частка гравюр у ягоных выданьнях расфарбаваная. І вось пытаньне — калі гэтыя гравюры былі расфарбаваныя? На жаль, новае факсымільнае выданьне тут не дапамагае, бо яно створанае з выпадкова ўзятых асобнікаў. Але яно зьяўляецца безумоўным укладам ў юбілей.

Што датычыцца навуковай прадукцыі... На жаль, я ня браў удзелу ў навуковым Кангрэсе, прысьвечаным юбілею, і, адпаведна, ня чуў дакладаў, але ведаю, што шукаць нешта новае, зьвязанае са Скарынам, — гэта вывучаць і аналізаваць цэлую эпоху канца XV стагодзьдзя і першай паловы XVI стагодзьдзя. Тая эпоха пакінула шмат дакумэнтаў, над імі яшчэ можна і трэба працаваць. Магчыма, гэта зробяць наступныя пакаленьні.

**— Дзіўна, што ў выданьне спадчыны Скарыны (Францыск Скарына. Творы. Мн., 1990) прадмовы зь яго рукапісных кніг не ўвайшлі. Звычайна, у збор твораў у якасьці дадатку ўключаюцца нават тыя тэксты, якія прыпісваюцца аўтару. А тут практычна стопрацэнтная аўтэнтычнасьць тэкстаў, але іх не ўключылі ў выданьне творчай спадчыны асьветніка. Я пытаўся ў аднаго са складальнікаў той кнігі, чаму так сталася, але ён адказаў, маўляў, рукі не дайшлі.**

— Тая кніжка з прадмовамі, пра якую вы кажаце, была па-свойму рэвалюцыйная. Але гэтых тэкстаў Скарыны там сапраўды няма.



## ІРЫНА БУДЗЬКО:
## Скарына пераклаў Біблію на старабеларускую мову сваёй аўтарскай мадэлі

Ірына Будзько нарадзілася ў 1970 годзе ў Менску. Кандыдат філялягічных навук, дацэнт. З 1993 году працуе ў аддзеле гісторыі беларускай мовы Інстытуту мовазнаўства імя Якуба Коласа Цэнтру дасьледаваньняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Цяпер вядучы навуковы супрацоўнік гэтага аддзелу. Спэцыяліст у галіне гісторыі беларускай рэлігійнай тэрміналёгіі. Аўтар манаграфій «Полацкае Эвангельле канца XII – пачатку XIII ст.: асаблівасьці мовы

і тэксталёгіі» (2012), «Лексыка рэлігійнай пісьменнасьці» (2016), слоўніка «Рэлігійны слоўнік старабеларускай мовы» (2003) і іншых, а таксама некалькіх дзясяткаў навуковых артыкулаў.

**— Спачатку пра тэрміны. На захадзе сёньня шырока выкарыстоўваецца тэрмін «простая мова» ў дачыненьні да старабеларускай мовы. Літоўцы раней называлі дзяржаўную мову ВКЛ «канцылярскай», цяпер прыдумалі новы тэрмін «rusėnų kalba». Наогул, мову называюць размоўнай, народнай, усходнеславянскай, русінскай, рутэнскай, беларусізмы ў тым ці іншым помніку называюць «дэмакратычнымі» элемэнтамі і г. д. Як беларуская лінгвістыка ацэньвае гэты факт і чым абгрунтоўвае свой варыянт назвы — старабеларуская?**

— Наагул, у гісторыі славянскіх моваў існуе мала такіх заблытаных пытаньняў, як дзяржаўная мова Вялікага Княства Літоўскага. На сёньняшні дзень у навуковай літаратуры існуе каля 40 лінгвонімаў, якія ўжываюцца для назвы той мовы. Навуковая дыскусія пра гэта ідзе ўжо больш за 150 гадоў, і канца яе не прадбачыцца.

Я думаю, што спачатку трэба разьмежаваць пытаньне саманазвы — як грамадзяне ВКЛ самі называлі сваю мову, і як сёньня мы, навукоўцы, яе называем. Такіх саманазваў ня так шмат: гэта руска або руська мова, рускі або руські язык. Часам да гэтых прыметнікаў далучаецца слова «просты», «простая» або «паспаліты», «паспалітая». Менавіта так акрэсьлівалі мову сваіх твораў Францішак Скарына, Васіль Цяпінскі, Сымон

Будны, Лаўрэнці Зізані, так яна акрэсьлена і ў Статутах Вялікага Княства Літоўскага.

А вось сярод не саманазваў, а навуковых акрэсьленьняў гэтай мовы існуе значна больш тэрмінаў, якія спрабуюць далучыць сёньняшнюю гістарычную, этнічную сытуацыю ў Эўропе да таго часу. Напрыклад, украінска-беларускі язык або ўкраінска-беларуская мова, польска-славяна-руская мова, język polsko-białoruski, славяна-украінска-беларускі язык і шмат іншых.

Мы, беларускія дасьледчыкі, карыстаемся тэрмінам «старабеларуская мова», хаця ўсьведамляем, што вакол гэтай назвы ўзьнікаюць пытаньні.

Калі гаварыць пра мяне асабіста, то мае пазыцыі як навукоўца і як грамадзянкі троху розьняцца. Як навуковец я б аддала перавагу тэрміну «руская мова Вялікага Княства Літоўскага», бо ён падкрэсьлівае і нацыянальны, этнічны элемэнт — гэта была мова праваслаўнага насельніцтва ВКЛ, будучых беларусаў і ўкраінцаў, тут адразу ёсьць храналягічнае і тэрытарыяльнае акрэсьленьне.

Але і ў гэтай назьве будзе шмат спрэчнага. Таму я, як і іншыя мае калегі, карыстаюся тэрмінамі «старабеларуская мова», «старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова».

Тэрмін «старабеларуская мова», як, дарэчы, і «стараўкраінская», уведзены ў навуковы ўжытак пасьля Другой сусьветнай вайны, у другой палове XX стагодзьдзя. Цяпер ён выкарыстоўваецца ў нашых падручніках, энцыкляпэдыях, ён дазваляе прасачыць гісторыю разьвіцьця беларускай мовы, прасачыць сувязь сёньняшніх моўных працэсаў з

папярэднім часам, акрэсьліць кола літаратурных помнікаў, якія зьяўляюцца каштоўнай нацыянальнай спадчынай беларускага народу.

Таму, усьведамляючы, што гэтае пытаньне выходзіць за межы чыста навуковага ўжытку і мае яшчэ і ўтылітарнае прызначэньне, мы захоўваем сваю пазыцыю ў карыстаньні тэрмінам «старабеларуская мова».

**— Мне здаецца, што на выбар назвы для старабеларускай мовы ў Заходняй Эўропе або ў нашых суседзяў уплывае палітычны або і ўнутрыпалітычны аспэкты. Прыдумляецца мноства варыянтаў менавіта для таго, каб не карыстацца тэрмінам «старабеларуская мова». Вам так не здаецца? І ці не патрэбны нам у гэтай справе нейкі агульнанацыянальны кансэнсус?**

— Так, згодная, менавіта для таго, каб не называць дзяржаўную мову ВКЛ старабеларускаю. Кансэнсус сапраўды патрэбны. Тым больш, што нашы паўднёвыя суседзі вельмі актыўна ўжываюць тэрмін «стараўкраінская мова». На падставе гэтага тэрміну будуецца шмат навуковых канцэпцый. Мы таксама павінны ўлічваць гэтую акалічнасьць.

**— Сёньня вынікі дасьледаваньняў мовы выданьняў Францішка Скарыны, зробленыя прафэсарам Аркадзем Жураўскім і навукоўцамі яго кола, зьяўляюцца як бы агульнапрынятымі. Жураўскі лічыў, што ня толькі Біблія, але і прадмовы Скарыны напісаныя на царкоўнаславянскай мове беларускай рэдакцыі. Што такое наогул царкоўнаславянская мова беларускай рэдакцыі? Наколькі гэта навуковы**

**тэрмін і ці існуюць гістарычныя прыклады гэтай зьявы?**

— Такі тэрмін ёсьць. Ён дастаткова шырока ўжываецца ў дачыненьні да тых помнікаў беларускага пісьменства, якія напісаныя на царкоўнаславянскай мове — альбо на тэрыторыі сучаснай Беларусі, альбо асобамі, якія мелі беларускае паходжаньне, і ў гэтыя тэксты пранікалі асобныя рысы беларускага маўленьня.

Можна адзначыць такія помнікі, як шмат апракасных Эвангельляў, якія ўзьніклі ў XII–XIV стагодзьдзях на нашай тэрыторыі, дзе прысутнічаюць такія рысы, як аканьне, зацьвярдзеньне шыпячых і «р», цоканьне (у полацкіх дакумэнтах, напрыклад), але агульнай моўнай сыстэмы гэтыя рысы не парушаюць і не мяняюць. У гэтым выпадку ўсё ж перад намі тэксты, напісаныя на царкоўнаславянскай мове, іх моўныя элемэнты адпавядаюць царкоўнаславянскім.

Што тычыцца пісьмовай спадчыны Скарыны, то да такога тыпу мовы мы адносім Псалтыр і Апостал. Вось гэтыя тэксты, фактычна, паўтараюць царкоўнаславянскую пісьмовую традыцыю. Там ёсьць украпіны беларусізмаў, але, паўтараю, цэльнасьць моўнай сыстэмы гэтыя ўкрапіны не парушаюць.

**— Троху іншай думкі, чым прафэсар Аркадзь Жураўскі, прытрымліваўся прафэсар Леў Шакун. У чым палягалі іх разыходжаньні?**

— Асноўнае разыходжаньне паміж імі палягала ў тым, што прафэсар Шакун лічыў, што праскія выданьні Францішка Скарыны напісаны на старабеларускай мове. Іншымі словамі, ён лічыў,

што гэта была не рэдакцыя царкоўнаславянскай мовы, а што гэта быў ідыялект (аўтарскі варыянт), але ўсё ж старабеларускай мовы.

**— У 2017 годзе ў часопісе «Роднае слова» вы апублікавалі дасьледаваньне «Лінгвістычныя і тэксталягічныя асаблівасьці праскіх выданьняў Францішка Скарыны» і зрабілі адназначную выснову, што мова перакладу — старабеларуская. Вось фрагмэнт вашага падсумаваньня:**

**«Пры вялікай колькасьці запазычаньняў з царкоўнаславянскага тэксту і пры відавочнай прыхільнасьці беларускага першадрукара да кірыла-мяфодзіеўскай традыцыі няма падстаў лічыць мову яго праскіх выданьняў царкоўнаславянскай; беларускі першадрукар прапанаваў своеасаблівую моўную мадэль, абапіраючыся на кніжную традыцыю, закладзеную старажытнымі славянскімі асьветнікамі, і на народную традыцыю, узорам якой для яго паслужыла перакладчыцкая дзейнасьць чэскіх рэфарматараў».**

**Чым вы гэта абгрунтоўваеце і на падставе чаго прыйшлі да такой высновы?**

— Я вельмі доўга працавала поруч з Аркадзем Іосіфавічам Жураўскім. Калі ён праводзіў свае дасьледаваньні ў 80-я гады XX стагодзьдзя, то выкарыстаньне падлікованага квантытатыўнага мэтаду ў лінгвістыцы было вельмі распаўсюджана і давала добрыя вэрыфікацыйныя вынікі.

І вось, карыстаючыся гэтай мэтодыкай, Аркадзь Іосіфавіч узяў некалькі варыянтаў праяваў праславянскіх рэфлексаў, прасачыў іх па перакладах Бібліі Скарыны і зрабіў выснову, што

большасьць (я падкрэсьліваю — ня ўся колькасьць, а большасьць) выглядаюць як царкоўнаславянізмы. Прычым гэтыя падлікі вагаюцца ад 35–45 да 70–80 працэнтаў на карысьць царкоўнаславянскай мовы.

Тут я хацела б зьвярнуць увагу на такі рэфлекс, як няпоўнагалосьсе. Мы ведаем, што гэты рэфлекс праславянскіх санорных даў розныя праявы ў розных славянскіх мовах. І паводле колькасьці няпоўнагалосных формаў яны ў Скарыны значна пераважаюць поўнагалосныя формы.

Канечне, на першы погляд, выснова напрошваецца адназначная — гэта царкоўнаславянская адметнасьць мовы Скарыны. Але калі я ўзяла каля 2000 вершаў Бібліі з праскага перакладу Скарыны і наклала на чэскі пераклад вэнэцыянскага выданьня 1506 году, а таксама на царкоўнаславянскі тэкст, то атрымалася, што большасьць з гэтых няпоўнагалосных формаў маюць адпаведнікі менавіта ў чэскім тэксьце, а не ў царкоўнаславянскім.

Гэта дало падставу гаварыць пра тое, што на ўзроўні гэтай рысы мы маем акурат уплыў чэскай народнай традыцыі на пераклад Скарыны, а не царкоўнаславянскай.

Тое самае можна сказаць пра ўжываньне такой формы, як аорыст — тыпу насадиша, быша і г. д. На першы погляд здаецца, што гэта царкоўнаславянская рыса, але калі накладаць на два пераклады — чэскі і царкоўнаславянскі, то атрымліваецца, што корань (або сэмантыка слова) супадае з чэскім перакладам, а фармант (гэта значыць вось

гэты суфікс аорысту) бярэцца з царкоўнаславянскага перакладу.

Напрыклад, чэск. *naplnil*, ц.-слав. *исполни*, у Скарыны — *наполни*, або чэск. *nawratila se* + ц.-слав. *обратися* = *навратися*. Гэта значыць, што Скарына кантамінаваў, спалучаў у сваім перакладзе дзьве традыцыі, выпрацоўваў сваю перакладчыцкую тэхніку і сам, падкрэсьліваю, сам назваў мову свайго перакладу, сваю Біблію для таго часу рускай, а сёньня мы гэта называем старабеларускай.

Вось на гэтых падставах я дазволіла сабе сказаць, што мова Скарынавага перакладу Бібліі — старабеларуская. Тым больш што сёлета мы скончылі выданьне «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» ў 37 тамах. Слоўнік выходзіў каля 40 гадоў, і думаю, што я не памылюся, калі скажу, што ў значнай колькасьці слоўнікавых артыкулаў ёсьць тэкставыя ілюстрацыі зь перакладаў Францішка Скарыны.

Напрыклад, у 21-м томе «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» 12,3% слоўнікавых артыкулаў і артыкулаў, датычных асобных значэньняў мнагазначных слоў, маюць тэкставыя ілюстрацыі зь перакладаў Бібліі Скарыны, у 22-м томе — 7,3%, у 23-м — 11,1%, у 24-м томе — 10%, у 25 томе — 9,3%, у 26-м — 10,2%, у 28-м — 16,3%, у 29-м — 15,5%, у 30-м — 13%, у 31-м — 15,8%, у 32-м — 19,8%, у 33-м — 15%, у 34-м — 14%, у 35-м — 10,4%, у 36-м — 11,6%. Такім чынам, без «скарынаўскіх» слоў і цытат немагчыма ўявіць сабе «Гістарычны слоўнік беларускай мовы».

А рэдактарам-пачынальнікам гэтай справы быў Аркадзь Іосіфавіч Жураўскі. І калі б адназначна было высьветлена, што мова перакладу Скарыны — царкоўнаславянская, я думаю, што не ўключалі б ні цытаты, ні яго ілюстрацыі ў гэтае выданьне, якое называецца «Гістарычны слоўнік беларускай мовы». Цытаты са Скарыны ідуць поруч з цытатамі са слоўнікаў Зізанія, Бярынды, з твораў Сматрыцкага, са Статутаў Вялікага Княства Літоўскага, з Полацкіх грамат і г. д.

**— У вашым артыкуле прыцягвае ўвагу параўнаньне 600 біблійных вершаў, калі вы высьветлілі, што ніводзін зь іх у Скарыны не застаўся бязь зьменаў...**

— У сваім артыкуле я пісала пра параўнаныя мной 600 вершаў Бібліі, ніводзін зь якіх ня быў дадзены Скарынам у царкоўнаславянскім або чэскім варыянтах, але быў зьменены. Але насамрэч я прааналізавала пераклады ўсіх 22 кніг праскай Бібліі Скарыны.

Я выбірала з кожнай кнігі па тры-чатыры так званыя знакавыя разьдзелы. І ніводзін верш не паўтарае ні чэскі, ні царкоўнаславянскі тэксты. Кожны верш Скарынам перакладзены. Гэта таксама сьведчыць пра аўтарскую руку, пра тэхніку беларускага першадрукара, якую ён выкарыстоўваў і прапаноўваў.

Тым больш што нельга забываць, што Скарына выдаваў свае кнігі ў 1517 годзе — гэта значыць, што перакладаў іх ён значна раней. І тэндэнцыі, якія ён адлюстраваў у сваіх перакладах, належаць да канца XV стагодзьдзя, у лепшым выпадку, да самага пачатку XVI стагодзьдзя. Вядома, мы ня

можам узяць і параўнаць тое, што было напісана ў канцы XV стагодзьдзя – пачатку XVI стагодзьдзя, з тэкстам, які ўзьнік на 100 гадоў пазьней, і хацець, каб у другім былі такія самыя рысы, як і ў першым. Мова мяняецца, мова — гэта сацыяльна-зьменлівы прадукт.

У адным са сваіх дасьледаваньняў я правяла аналіз лексыкі са Скарынавага перакладу і лексыкі раньняга помніка старабеларускай пісьмовасьці — Чэцьці 1489 году. Па Гістарычным слоўніку каля сотні лексэм ужытыя толькі ў гэтых двух помніках, што таксама дае падставы меркаваць, што тэкст перакладаў Скарына належыць да раньняга этапу ў разьвіцьці старабеларускай мовы, калі яшчэ ўплыў царкоўнаславянскай мовы быў дастаткова моцны.

**— Нават непрафэсійнаму навукоўцу пры чытаньні Бібліі Скарыны кідаецца ў вочы розьніца мовы перакладу кніг Старога Запавету і прадмоваў да іх. Чым адрозьніваюцца прадмовы і пераклады Скарыны?**

— Розьніца палягае ў тым, што ў прадмовах меншы ўплыў царкоўнаславянскай традыцыі. Прадмовы — гэта аўтарскі тэкст і аўтарскі прадукт, хоць там і відавочны ўплыў нейкіх заходнеславянскіх крыніц. Але там значна меншы ўплыў царкоўнаславянскай мовы ў параўнаньні зь перакладам Бібліі.

Што тычыцца саміх перакладаў кніг Старога Запавету, то мы не павінны забываць яшчэ і пра тое, што ў тыя часы дзейнічаў прынцып перакладу verbum de verbo — паслоўны, ад слова да слова. І тэкст, які ляжаў у падмурку перакладу,

адыгрываў ня толькі ролю зьместавага арыенціру для перакладчыка, але і фармальнага, бо шмат і граматычных элемэнтаў пранікала ў пераклад з тэкстаў, якія ляжалі ў падмурку перакладу.

Гэта было нармальна, такая была традыцыя і такая была вельмі распаўсюджаная на той час у Эўропе практыка.

**— Той моўны канструкт, тая мадэль, якую прапанаваў Скарына ў сваіх перакладах і прадмовах, належаць да якой моўнай стыхіі — царкоўнаславянскай ці старабеларускай?**

— Усё ж да старабеларускай. Гэта цудоўная крыніца беларускай лексыкі. Паглядзіце: чобат, бохан, Вялікдзень, верш (рыбалоўная прылада), водзежа, ворганы, ушыркі, каханьне, кахацiся, лагодны, марнасьць, моцны, парада, смак, сьцежка, фарба, цыбуля і мноства іншых. Я думаю, кожны беларус ведае гэтыя словы.

**— Мы ўжо гаварылі, што цяпер адчуваецца патрэба ў агульнанацыянальным кансэнсусе наконт мовы выданьняў Францішка Скарыны. Гэтая формула павінна была б не супярэчыць дадзеным навукі, але й не павінна была б разьвенчваць здабыткі нацыянальнай гісторыі і культуры. Магчыма, вы маеце кансалідаваную з калегамі думку на гэты конт? Якую дакладна дэфініцыю вы прапануеце для азначэньня мовы Скарыны?**

— Мы азначаем яе як старабеларуская мова, прапанаваная ў аўтарскай мадэлі. Але мадэль гэтая разьвівалася ў рэчышчы старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы.

**— У год 500-годзьдзя Скарынавай Бібліі ў Беларусі адбылося нямала дыскусій пра мову перакладу. Многія гісторыкі, культуролягі і лінгвісты сьцьвярджалі, што мова перакладу — царкоўнаслявянская беларускай рэдакцыі. Гэта паказвае, наколькі глыбока ў навуковыя масы пайшлі ідэі прафэсара Аркадзя Жураўскага і яго калегаў Аляксандра Булыкі і Ўладзімера Сьвяжынскага, выказаныя імі яшчэ ў 1990 годзе ў манаграфіі «Мова выданьняў Скарыны».**

**Што, на вашу думку, трэба зрабіць, каб новы падыход, новыя вашы і вашых калегаў высновы запанавалі ў галовах беларускіх навукоўцаў і публіцыстаў. Якім чынам мы можам дасягнуць агульнанацыянальнай згоды?**

— Мне цяжка адказаць на гэтае пытаньне... Думаю, што праз нейкі час я зраблю больш грунтоўнае дасьледаваньне і пакажу ролю лексыкі Скарыны ў «Гістарычным слоўніку беларускай мовы». Бо як ён ствараўся? Спачатку была картатэка. Яна і сёньня ёсьць у Акадэміі навук у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа. Картатэка налічвае каля мільёна картак-цытат.

Калі распрацоўваўся «Гістарычны слоўнік» (а я сама ўдзельнічала ў распрацоўцы некалькіх тамоў), правіла было такое. Мы падавалі ня больш за 10–12 цытат на адно слова або значэньне слова, але калі была цытата зь Бібліі Скарыны, мы яе падавалі абавязкова.

Гэта азначае, што артыкулы слоўніка адлюстроўваюць вэрыфікацыю і тэкставыя ілюстрацыі зь Бібліі Скарыны. І калі паказаць ролю лексыкі Францішка Скарыны ў разьвіцьці лексычнай

сыстэмы старабеларускай мовы, я думаю, што гэта і будзе адказ на пытаньне аб мове ягоных перакладаў.

Мовазнаўцы сёньня спакойна рэагуюць на дыскусіі. Для лінгвістаў праявы моўнай кантамінацыі, узаемапранікненьне моўных рыс — гэта настолькі натуральная зьява, што мы наогул не разумеем прычыны гэтых дыскусій.

Мы заўсёды кажам, што спачатку трэба дасьледаваць сам моўны канструкт, а потым ужо думаць, як яго назваць. Таму ня трэба забывацца, што ў манаграфіі Жураўскага 1990 году напісана, што ў Бібліі Скарыны большасьць царкоўнаславянізмаў. Але калі ня сто працэнтаў — значыць ужо паўстае пытаньне...

**— І тады праблема ў інтэрпрэтацыі.**

— Натуральна! І Жураўскі так напісаў таму, што побач мы маем Цяпінскага, Буднага, Статуты зь іншым канструктам — для нас больш ідэальным, скажам так. Скарына на іх фоне выглядае больш царкоўнаславянскім.

Але калі вы пакажаце пераклад Бібліі Скарыны любому спэцыялісту, знаўцу царкоўнаславянскай мовы і кірыла-мяфодзіеўскай традыцыі, і спытаеце яго, ці гэта царкоўнаславянская мова, ён адразу скажа, што не.

**— Уладзіміраў напісаў пра гэта яшчэ ў XIX стагодзьдзі, бо добра ведаў царкоўнаславянскую мову.**

— Адназначна. Адназначна любы спэцыяліст скажа — не.



## МІХАЭЛЬ МОЗЭР:
## мова выданьняў Скарыны — не царкоўнаславянская

Міхаэль Мозэр нарадзіўся ў 1969 годзе ў горадзе Лінц, у Аўстрыі. Прафэсар мовазнаўства Інстытуту славістыкі Венскага ўнівэрсытэту (з 1998 году), а таксама прафэсар Украінскага свабоднага ўнівэрсытэту ў Мюнхэне (з 2009 году) і Каталіцкага ўнівэрсытэту імя Пэтэра Пазманя ў Будапэшце (з 2011 году). Аўтар некалькіх манаграфій і каля 250 навуковых артыкулаў і рэцэнзій па праблемах славянскага мовазнаўства, гісторыі ўкраінскай мовы.

**— Як вы ставіцеся да факту, што так званую «простую мову» ў Беларусі называюць старабеларускай?**

— Неадназначна, бо, на маю думку, мы гаворым пра мову, якая яднае беларусаў і ўкраінцаў, і тут нельга сказаць, што заўсёды беларускасьць гэтай мовы была першаснаю. Гэта значыць, што калі мы гаворым пра так званую «простую мову», то я ўважаю яе супольнай украінска-беларускай мовай раньнемадэрнай эпохі.

**— А сам тэрмін «простая мова» вы прымаеце?**

— Я маю свой ўласны падыход. Я сам не называю ўсе варыянты рускай мовы раньнемадэрнай эпохі — гэта значыць украінскай і беларускай мовы раньняй эпохі — «простай моваю».

Тут я маю пэўныя ўласныя погляды. Я б хацеў, каб гэты тэрмін выкарыстоўваўся толькі тады, калі размова ідзе пра літаратурную мову, але не пра мову канцылярскіх актаў. Там мова вельмі блізкая, але яе я называю дзелавой рускай мовай, і яна вельмі часта ўсё ж даволі адназначна належыць або да беларускай, або да ўкраінскай спадчыны.

А зь іншага боку, мы маем друкаваныя творы (ня толькі, але перш за ўсё друкаваныя) і літаратурныя творы, якія, фактычна, не выяўляюць спэцыфічна ўкраінскіх або спэцыфічна беларускіх рысаў. Напрыклад, мова Сматрыцкага (калі ён, вядома, ня піша па-царкоўнаславянску) і мова шмат якіх іншых пісьменьнікаў той эпохі — вось гэтую мову я называю «простаю моваю».

Плюс, калі мы гаворым пра гэтую «простую мову», то трэба шмат казаць і пра тое, наколькі яна зьвязаная з польскаю моваю, якая мае велізэзны ўплыў на афармленьне гэтых тэкстаў.

**— Іншымі словамі, канцылярская мова — гэта дзелавая руская мова, а мова мастацкіх літаратурных помнікаў XVI стагодзьдзя — «простая мова». Так?**

— Калі гаворка ідзе пра ўласна літаратурныя творы — то менавіта да іх я часам ўжываю тэрмін «простая мова». Гэта і пераклады, і палемічная літаратура. Але гэта не азначае, што гэта зусім розныя мовы. Вядома, не. Але агулам тэрмін «простая мова» адносны, неадназначны, бо большасьць людзей раньнемадэрнай эпохі вельмі рэдка выкарыстоўвалі гэты выраз або зусім яго не выкарыстоўвалі.

Яны проста называлі гэтую мову рускай мовай або, калі казаць дакладна, рускім языкам (вядома, тут гаворка не пра расейскую мову). Тыя людзі выкарыстоўвалі слова «просты» («просты рускі язык») толькі тады, калі гэта мела нейкае спэцыфічнае значэньне.

Што ж да дзелавой сфэры, зусім зразумела, што калі гэта ня польская ці лацінская мова — то гэта руская мова.

Але калі гаворка ідзе пра літаратурную сфэру, то людзі раньняй мадэрнай эпохі іншым разам дадавалі прыметнік «просты», каб даць зразумець, што тут размова не пра царкоўнаславянскую мову.

І гэта знакава, паколькі сёй-той мог бы чакаць менавіта царкоўнаславянскую мову ў гэтай літаратурнай сфэры. Вось такі мой падыход.

Дзелавая руская мова і «простая мова» вельмі блізкія, гаворка хутчэй пра нюансы, і ўсе яны ў сапраўднасьці належаць да рускай мовы як такой. Прычым гэтая руская мова усё ж у залежнасьці ад узроўню, на якім мы знаходзімся, мае канкрэтны характар.

Калі, напрыклад, на ўзроўні дыялектаў, якія фармуюць базу гэтай мовы, то гэтыя дыялекты, безумоўна, маюць або беларускі, або ўкраінскі характар. Плюс, нават у беларускай моўнай прасторы, або ва ўкраінскай моўнай прасторы — тут яны далей розьняцца пэўнымі дыялектнымі прыкметамі.

**— Лінгвісты Віленскага ўнівэрсытэту пасьля аналізу мовы канцылярыі ВКЛ зрабілі выснову, што да канца XV стагодзьдзя ў мове канцылярыі ВКЛ дамінавалі ўсё ж украінскія элемэнты, а ўжо ў XVI стагодзьдзі запанавалі беларускія.**

— Што мы тут бачым? Тыя беларускія або ўкраінскія элемэнты ў рамках рускай мовы суіснавалі. Прычым найбольш выразныя рысы беларускіх і ўкраінскіх дыялектаў вельмі рэдка трапляюцца ў тых пісьмовых крыніцах.

Гэта ўсё ж была пісьмовая мова, і кожная пісьмовая мова абстрагуецца ў пэўнай ступені ад вуснай, натуральнай мовы. Тое самае стасуецца і да раньняй мадэрнай эпохі.

**— А ці не падыходзіць для атрыбуцыі таго або іншага помніка геаграфічны фактар? Скажам, прадмова да Эвангельля, якую напісаў**

**Васіль Цяпінскі, які жыў на Полаччыне... Ці даводзілася вам чытаць гэтую прадмову, дзе аўтар плача па рускай (чытай — беларускай) мове, якой здраджваюць паны?**

— Вядома, пэўныя помнікі рускай мовы (або ў гэтым выпадку можна сказаць і «простай мовы») можна ўсё ж адназначна адносіць або да беларускай, або да ўкраінскай сфэры.

Што да Цяпінскага, то няма сумневу, што ён належыць да гісторыі беларускай мовы і беларускай літаратурнай спадчыны. Таксама ніхто ня скажа, што Перасопніцкае Эвангельле, напрыклад, належыць перш за ўсё да беларускай мовы і спадчыны — гэта адназначна ўкраінскі помнік.

Але ўсё ж ужо на першым узроўні літаратурнай апрацаванасьці амаль усе рысы, якія належаць або да ўкраінскай, або да беларускай мовы зьнікаюць, іх у тых тэкстах ужо няма. Таму вельмі часта мы знаходзім пэўныя помнікі ў анталёгіях украінскай і беларускай моваў, і ніхто пры гэтым з выдаўцоў і аўтараў ня хлусіць — ні беларусы, ні ўкраінцы.

Нават калі гаворка ідзе пра геаграфію, то яна часта мае адноснае значэньне. Скажам, шмат хто вандраваў са Львова да Вільні або зь беларускай моўнай прасторы да Кіева і так далей. Тыя людзі вандравалі і больш-менш сьвядома працавалі над сваёю моваю ў кірунку, каб яна стала менш дыялектнаю, скажам так, і каб была больш уплывоваю на большай прасторы.

**— Сярод вашых навуковых прац ёсьць і артыкул пра тое, што для вызначэньня моўнай прыналежнасьці таго або іншага тэксту нельга**

**кіравацца статыстычным падыходам. Чаму вы так лічыце? Чаму крытыкуеце статыстычны падыход?**

— Тут мова ідзе, відаць, ужо не пра «простую мову», а пра суржык, трасянку. Я дасьледаваў розныя тэксты вуснага характару. Я іх ня сам запісаў, але ўзяў тыя, якія ва Ўкраіне лічаць моўным суржыкам.

Падчас працы выявілася, што, фактычна, у сьвеце суржыку суіснуюць розныя формы, яны могуць быць або расейскімі, або ўкраінскімі, або зьмешанымі. І загадзя ніколі нельга сказаць, якая форма трапіцца ў маўленьні пэўнага чалавека. Так што я лічу, што гэта нейкі моўны дыяпазон.

Кожны раз, калі я бываю ва Ўкраіне, я назіраю і бачу на ўласным досьведзе, што гэта шмат розных суржыкаў. І статыстыка ў гэтым выпадку ня надта мяне пераконвае. Бо, фактычна, гаворка ідзе пра цэлы дыяпазон ад «чыстае» ўкраінскае мовы да «чыстае» расейскае мовы.

Прычым, сапраўды чыстую мову мы знаходзім вельмі рэдка. Людзі мовы мяшаюць вельмі часта, а працэнты суадносінаў могуць быць вельмі рознымі. У залежнасьці ад многіх чыньнікаў — гэта можа быць геаграфія, адукацыя, погляды, кола кантактаў чалавека або яго цяга да літаратурнай украінскай або расейскай мовы. Так што ёсьць безьліч розных суржыкаў. Іншым разам я сам размаўляю суржыкам дзеля жарту.

Наколькі я ведаю беларускую моўную сытуацыю (а ведаю я яе горш за ўкраінскую, бо дагэтуль не пабываў у Беларусі), тым ня менш, у вас сытуацыя з трасянкай выглядае гэтак сама, як

і ва Ўкраіне з суржыкам. Толькі што, на вялікі жаль, становішча беларускай мовы яшчэ больш слабое, чым ва Ўкраіне.

**— Сапраўды, вы пісалі пра сучасныя моўныя рэаліі Ўкраіны. Але ўсё ж сам па сабе статыстычны падыход для аналізу вы крытыкавалі.**

— Я ніколі ня буду крытыкаваць статыстыку як такую, але ўсё ж пытаю сябе кожнага разу, што нам дае тая або іншая статыстыка, наколькі яна рэпрэзэнтатыўная і якія дадзеныя пацьвярджае.

Я ўважліва сачу за тым, што робіць прафэсар-мовазнавец Герд Генчэль у Ольдэнбургу. Я вельмі паважаю ягоныя працы, яны вельмі каштоўныя. Генчэль, як вядома, шмат навуковай увагі надае пытаньню трасянкі ў Беларусі. Дык вось, я вельмі шаную тыя працы, але дазваляю сабе паставіцца да чыста статыстычнага падыходу па-свойму. Я чытаю гэтую статыстыку з уласнай званіцы.

**— І ў суржыка, і ў трасянкі, апрача лексыкі, ёсьць яшчэ і граматыка, марфалёгія, сынтаксіс — тут цэлы комплекс прыкмет. Таму калі я спытаюся ў вас: суржык на ўсходзе Ўкраіны — гэта зьява ўкраінскай мовы, ці гэта зьява расейскай мовы? Як вы адкажаце?**

— Уся бяда ў тым, што суржык і трасянка дагэтуль не акрэсьленыя адназначна. Некалькі гадоў таму мы правялі шмат часу на канфэрэнцыі, абмяркоўваючы гэтае пытаньне.

Як на мяне, усё ж трасянкай або суржыкам чалавек, які імі карыстаецца, уважае фактычна ўсё тое, што зьмешвае ўкраінскую з расейскай або беларускую з расейскай, усё тое, што не адпавядае чыстым літаратурным мовам. І, такім чынам,

гэта вельмі-вельмі стракаты дыяпазон розных варыянтаў. Але зазвычай (або найчасьцей) суржыкам уважаюць украінскую мову зь вялікай колькасьцю расейскіх элемэнтаў.

Прычым гэтыя расейскія элемэнты могуць быць запазычаньнямі, могуць быць інтэрфэрэмамі — гэта значыць, могуць зьяўляцца ў зьмешаных формах і могуць выяўляцца ў тым, як канкрэтны носьбіт зьмяняе мову, напрыклад, пераходзіць на расейскую для двух-трох сказаў, зноў вяртаецца і так далей. Такім чынам, звычайна тое, што называюць суржыкам, гэта ўкраінская мова паводле паходжаньня.

І тут, як мне здаецца, мы павінны слухаць саміх людзей — інакш кажучы, тое, што яны кажуць, для мяне самае важнае. Паколькі гэтыя тэрміны — суржык і трасянка — такія размытыя, таму калі нехта скажа, што ён размаўляе на беларускай мове, то ён на ёй і размаўляе, нават тады, калі ў мове ёсьць шмат расейскіх элемэнтаў. Гэта тое, што той чалавек думае, і думае цалкам слушна.

Вядома, ад пэўнага ўзроўню русыфікаванасьці яго мовы, мы будзем менш схільныя яму верыць, але звычайна тое, што называюць суржыкам ці трасянкаю — гэта не зусім «чыстая» ўкраінская або беларуская мовы. Так мне здаецца.

**— Я часта еджу на радзіму бацькі ў вёску Кожава Карэліцкага раёну Горадзенскай вобласьці. Неяк мы з братам наведалі ягоную хросную і яе сына. І вось аказалася, што сын вельмі дакладна адрозьнівае трасянку ад літаратурнай мовы. З маці ён гаварыў на трасянцы, у якой**

**было 80–90 працэнтаў беларускай лексыкі, а з намі як выпускнік мясцовай беларускай дзесяцігодкі — на літаратурнай беларускай мове. Зьвяртаючыся да нас пасьля размовы з маці, ён ужыў расейскае слова «апрэль» і тут жа патлумачыў для нас: «Ну гэта красавік». Так што людзі там вельмі дакладна адрозьніваюць трасянку ад літаратурнай нормы.**

— Ну бачыце, вы пацьвярджаеце тое, што я раней сказаў. Я казаў, што шмат што залежыць ад сытуацыі — з кім ты размаўляеш, наколькі ты хочаш гаварыць літаратурнаю моваю.

Я ведаю многіх украінцаў, якія са мной размаўляюць на чыстай літаратурнай мове, але ім прыемна размаўляць, напрыклад, са сваякамі не літаратурнай, але іншай, сваёй традыцыйнай сямейнай мовай, якая не павінна быць чыстай літаратурнай мовай. І, шчыра кажучы, я ў гэтым нічога кепскага ня бачу. Наадварот.

Я, вядома, ня маю права ў такія справы ўмешвацца, але калі мяне пытаюць, я адказваю, што ўкраінцы павінны ведаць літаратурную мову і ўмець на ёй гаварыць, калі гэта патрэбна.

І тое самае стасуецца беларускай мовы. Ня можа быць мэтай тое, каб усе беларусы размаўлялі на чыстай беларускай мове. Мэтай павінна быць сытуацыя, каб усе беларусы ведалі літаратурную мову і маглі на ёй гаварыць і пісаць тады, калі гэта трэба.

**— Давайце зьвернемся да Францішка Скарыны. Яго пачалі вывучаць у XIX стагодзьдзі. Адзін з самых важных дасьледчыкаў Скарынавай спадчыны — гэта Пятро Ўладзіміраў, пра-**

фэсар Кіеўскага ўнівэрсытэту другой паловы XIX стагодзьдзя. Ён паходзіў з Расеі, з Казані, скончыў Казанскі ўнівэрсытэт, быў знаўцам расейскай гісторыі і, вядома, царкоўнаславянскай мовы.

Дык вось, Уладзіміраў лічыў, што Скарына пераклаў Біблію на беларускую мову — гэтак ён пісаў у XIX стагодзьдзі. Яго як знаўцу царкоўнаславянскай мовы мова Скарынавай Бібліі моцна ўразіла, бо была вельмі далёкаю ад той царкоўнаславянскай, якую ведаў Уладзіміраў.

Такой самай думкі пра мову Скарыны прытрымліваўся Мікалай Алексютовіч і іншыя навукоўцы.

Але ў другой палове XX стагодзьдзя сытуацыя зьмянілася. У 1990 годзе ў Інстытуце мовазнаўства Беларускай Акадэміі навук выдалі манаграфію «Мова выданьняў Скарыны». Яе аўтары Аляксандар Булыка, Аркадзь Жураўскі і Ўладзімер Сьвяжынскі прымянілі статыстычны падыход да аналізу мовы біблійных кніг Скарыны.

Паводле аўтараў манаграфіі, ніводная кніга Бібліі Скарыны ня мае хаця б 50% уласна беларускай лексыкі. На гэтай падставе навукоўцы зрабілі выснову, што Скарына пераклаў Біблію на беларускі варыянт царкоўнаславянскай мовы.

У манаграфіі ёсьць табліца, у якой працэнтныя суадносіны лексыкі расьпісаныя па кнігах. Скажам, Другая кніга Царстваў — 40.6% беларускай лексыкі, астатняе — царкоўнаславянізмы, Кніга Эсфір — 42,1%, Кніга Руф —

**42,9%, Трэцяя кніга Царстваў — 43,6% і так далей.**

**У энцыкляпэдыях можна прачытаць, што ў Скарыны ёсьць шмат заходнеславянскай лексыкі, у тым ліку 200 багемізмаў, а таксама польскія словы, нямецкія. Але ў гэтай табліцы ўся лексыка падзеленая толькі на беларускую і царкоўнаславянскую. Няясна, напрыклад, куды аднесеныя словы, якія ёсьць і ў беларускай, і ў царкоўнаславянскай.**

**Як бы вы ацанілі такі статыстычны падыход да вывучэньня перакладаў Скарыны?**

— Вельмі асьцярожна. І вось чаму. Я не сумняваюся, што такая статыстыка мае сэнс. Але я маю пэўны досьвед са статыстыкамі такога пляну, і я ня веру ніводнай зь іх, калі гаворка ідзе пра дэталі. Кожная такая статыстыка выклікае ў мяне безьліч пытаньняў. Звычайна я вельмі дрэнна стаўлюся ўжо да падасновы гэтых статыстык.

Калі вы хочаце пачуць гэта ад мяне адным сказам, то я прыхільнік у гэтай справе таго, што ў свой час сказаў Уінстан Чэрчыль: «Я веру толькі той статыстыцы, якую сам падрабіў».

Такім чынам я дужа скептычна стаўлюся да такога падыходу. А таксама і да спроб жорстка знайсьці адну назву для пэўнага тыпу маўленьня ці для пэўнай пісьмовай мовы.

Мы ведаем, што Скарына не пісаў чыстаю народнаю беларускаю моваю свайго часу.

Мы ведаем, што ён не пісаў чыстаю царкоўнаславянскаю моваю свайго часу.

І гэта, на маю думку, ня проста беларускі варыянт царкоўнаславянскай мовы. Бо беларускі

варыянт царкоўнаславянскай мовы — гэта ўсё ж даволі чыстая царкоўнаславянская мова зь некаторымі беларускімі прыкметамі. Напрыклад, беларусы традыцыйна вымаўлялі чыста царкоўнаславянскія тэксты не на расейскай і не на ўкраінскай, але на беларускай аснове. І я буду называць беларускім варыянтам царкоўнаславянскай мовы менавіта такую мову. Гэта першае.

Другое. Я хоць і не пісаў спэцыяльных дасьледаваньняў па мове Скарыны, але ўсё ж ведаю, што гэта за мова, і бачу, што там так або іначай вельмі-вельмі шмат беларускіх элемэнтаў.

І Скарына сам пра гэта напісаў. Ён напісаў пра тое, што хацеў зрабіць — ён хацеў стварыць для сваіх сучасьнікаў даступную Біблію, гэта значыць напісаную даступнай для іх моваю. Для простых людзей, як ён сам піша. І ён зрабіў першыя значныя крокі ў гэтым кірунку, і за гэта мы яму ўдзячныя. Мы шануем такі падыход і ўважаем гэты падыход вельмі значным крокам у гісторыі беларускай мовы як такой.

Проста назваць мову Скарыны царкоўнаславянскай нельга. Гэта зьмешаная мова, якая зьяўляецца новаю менавіта таму, што там ёсьць багата беларускіх элемэнтаў на ўсіх моўных узроўнях.

**— Вы казалі, што вельмі важна ведаць, што пра сваю мову думае сам чалавек. Я з вамі згодзен. Мне ўжо давялося сёлета пісаць пра Скарыну, пра ягонае нацыянальнае самаўсьведамленьне і пра мову. Ён нам сам сказаў, на якой мове выдаў Біблію, калі назваў яе «Біблія Руска». Калі б ён лічыў, што выдае яе на царкоў-**

**наславянскай, ён бы назваў яе «Біблія Словенска». А так ён пісаў у прадмовах да асобных кніг «зуполне выложены на руский язык».**

**Далей ужо пачынаюцца інтэрпрэтацыі навукоўцаў, але сам Скарына лічыў, што ён выдаў «Біблію Руску» і перакладаў біблійныя тэксты на рускую мову. Нам вядомыя 50 апублікаваных прадмоў і 62 пасьляслоўі, дзе ён піша, чаму ён гэта зрабіў, маўляў, бо мяне «міласьцівы бог з таго языка на сьвет пусьціў...»**

— Так. Калі мы можам ведаць пра гэта (а адносна Скарыны мы дакладна ведаем), то гэта для нас вельмі важна — гэта важная інфармацыя, якая часам можа быць больш важнаю за тое, што кажам мы, мовазнаўцы.

Аркадзя Жураўскага я вельмі шаную, ён напісаў вельмі шмат цудоўных прац. Але ёсьць пытаньні, дзе ніколі ня будзе агучана апошняе слова ў іх праблематыцы. Погляды навукоўцаў могуць мяняцца зь цягам часу, у тым ліку і таму, што навука далей разьвіваецца, і сьвет наш ідзе далей. Так што гэтыя пытаньні заўсёды будуць актуальныя.

Я ня раю выбіраць у такіх справах вельмі катэгарычныя падыходы і рабіць вельмі катэгарычныя высновы. Тут могуць быць легітымнымі розныя погляды і розныя высновы. І, магчыма, гэта плюс.

Але проста ігнараваць думку самога аўтара нельга. Часам мы нават хочам гэта зрабіць, але нам гэта не ўдаецца. Я цяпер ужо кажу не пра Скарыну, але бывае, што нехта скажа, але гэтак ня робіць і нават ня хоча. А вось адносна Скарыны

мы адназначна ведаем, што ён меў пэўны намер, і нешта зь яго выканаў. Гэта адназначна.

Мы таксама ведаем, што ён стаяў перад вялікай задачай. Калі мы пішам, мы павінны працаваць над пэўнымі традыцыямі і пэўным багажом, якім гэтыя традыцыі часам і зьяўляюцца. І мы ведаем, як гэта цяжка было розным славянам (і ня толькі ў XVI стагодзьдзі, але і пазьней) знайсьці шлях да ўласных народных моваў. Царкоўнаславянская спадчына была і ёсьць вялікім багацьцем гэтых культур, але, на пэўных этапах, яна таксама бывала і даволі цяжкім грузам.

**— Цяжка было ня толькі славянам. У Італіі, як і шмат дзе ў Эўропе, панавала тады лацінская мова, і толькі ў самым канцы XV стагодзьдзя ў Вэнэцыі выйшла першая навуковая кніга на ўласна італьянскай мове, якую яе аўтар Люка Пачолі назваў «роднай мясцовай мовай».**

**Скарына быў у Італіі і добра ведаў тагачасную культурную сытуацыю там. Таму ён мог браць натхненьне ня толькі, скажам, у чэхаў, але і ў італьянцаў, у Вэнэцыі.**

**І другое. Факт, што ён сам пісаў акафісты (а гэта вельмі спэцыфічная форма ўсходняга, грэцкага набажэнства), азначае і тое, што ён вырас ва ўсходнехрысьціянскай традыцыі і добра ведаў царкоўнаславянскую мову як сакральную мову ўсходніх хрысьціян.**

**Магчыма, мяшаючы элемэнты царкоўнаславянскай і беларускай моваў, Скарына хацеў стварыць сакральны, высокі стыль тагачаснай беларускай мовы. Дакладна гэтага ведаць мы ня можам, але такая вэрсія магчымая.**

**Ну а для аўтараў манаграфіі, пра якую мы тут гаворым, гэтае пытаньне вырашана проста. Яны ставяць выданьні Скарыны (цытую з заключэньня) «у адзін рад з помнікамі, якія адносяцца да беларускага варыянту царкоўнаславянскай мовы».**

— Я дазволю сабе не пагадзіцца з гэтай высновай, хоць вельмі шаную спадара Жураўскага як вялікага дасьледчыка беларускай мовы. Такая яна, навука.



## АЛЯКСАНДАР НАВУМАЎ:
## Скарына мог сустракацца ў Вэнэцыі з сэрбскім першадрукаром Вукавічам

Аляксандар Навумаў нарадзіўся ў 1948 годзе ў горадзе Арнэта (Польшча). Габілітаваны доктар філялёгіі, літаратуразнавец-славіст, гісторык. Прафэсар Ягелонскага ўнівэрсытэту ў Кракаве і ўнівэрсытэту Ca' Foscari ў Вэнэцыі. Аўтар больш чым дзесяці кніг, у тым ліку самага поўнага збору твораў Францішка Скарыны (у перакладзе на польскую мову) «Franciszek Skoryna z Połocka — życie i pisma» (2007).

**— Ці ў сёньняшняй Італіі нехта цікавіцца постацьцю Скарыны, шукае новыя дакумэнты або вывучае яго спадчыну?**

— На мой погляд, асаблівага зацікаўленьня няма. Наколькі мне вядома, у Падуі вывучалі як частку гісторыі свайго ўнівэрсытэту, але гэта было раней, некалькі гадоў таму. Цяпер у Падуі на славянскай філялёгіі працуе вельмі цікавая дасьледчыца Вівіяна Назільья. Яна займаецца XVI–XVII стагодзьдзямі, Уніяй, пасьля Уніі, але агулам «простай мовай» — як мы тут называем мову XVI–XVII стагодзьдзяў.

Але мэтанакіравана Скарынам цяпер не займаецца ніхто. Ёсьць адна немаладая, вопытная дасьледчыца, якая пісала пра ўсю гэтую гісторыю з прыбыцьцём Скарыны ў Падую, зь ягонымі экзамэнамі і абаронай паводле дакумэнтаў і біскупскага капітулу, і ўнівэрсытэту, бо было дзьве абароны — адна перад уладыкам, а другая — перад навуковай супольнасьцю. І вось якраз яна — адзіная, наколькі мне вядома.

Сёлета пачынаюць троху цікавіцца, бо спаўняецца 500 гадоў Скарынавай Бібліі. Але ня толькі. Спаўняецца і 500 гадоў пратэстантызму, а некаторыя славісты, якія зьвязаны з пратэстанцкімі коламі, спрабуюць зьвязаць Скарыну з пратэстанцтвам, знайсьці ў яго пратэстанцкі аспэкт. Але мне новыя працы не вядомыя. Калі хто і пісаў тут, у Італіі, то гэта я.

**— Як вы думаеце, ці бываў Скарына ў Вэнэцыі?**

— Ну ведаеце... Вядома, прыемна думаць, што бываў. Я неяк пісаў, што хутчэй за ўсё бываў. Па-

мойму, для таго, хто прыехаў у Падую, не прыехаць у Вэнэцыю — немагчыма. Але доказаў ніякіх няма. Гэта толькі наша меркаваньне.

Мне так думалася, што ён прыяжджаў сюды, завязаў кантакт з грэка-славянскім брацтвам, якое тут існавала, можа нават сустрэўся з будучым сэрбскім першадрукаром Божыдарам Вукавічам. І ня толькі зь ім. Тут было шмат выхадцаў з Сэрбіі і Чарнагорыі, якія прыехалі сюды ў канцы XV – пачатку XVI стагодзьдзяў.

І Францыск, і Божыдар пачалі сваю дзейнасьць прыблізна ў адны гады... Скарына ў 1517 годзе, Божыдар у 1519-м... І ў іх праглядаюцца пэўныя агульныя ідэі. Напрыклад, Скарына выдае «Малую падарожную кніжку», а Вукавіч выдае «Кнігу для падарожніка». Тут мы бачым аднолькавыя рашэньні і ідэі, каб ня толькі працаваць для царквы і служыць царкве, а каб і дапамагаць людзям, якія ў вандроўках, у дыяспары...

Таму я і пісаў, што лёгка ўявіць, як Францыск і Божыдар ходзяць тут, у Вэнэцыі пад руку і размаўляюць аб тым, як трэба друкаваць і як дапамагаць людзям чытаць Слова Божае, прычым ня толькі ў царкоўным сэнсе, але і ў сьвецкім.

**— Даводзілася чуць вэрсію, што каля 1512 году студэнты Падуанскага ўнівэрсытэту жылі ў Вэнэцыі, бо ў Падуі была эпідэмія чумы. Наколькі гэта верагодна?**

— Ведаеце, ня столькі чума, колькі вайна. Яшчэ за некалькі месяцаў да прыезду Скарыны ішлі ваенныя дзеяньні, і тая частка Вэнэцыянскай рэспублікі, дзе знаходзіцца Падуя, была ў постваеннай сытуацыі. Заняткаў у Падуі не было.

Першае, што пачалі рабіць ва ўнівэрсытэце, гэта абароны дактаратаў. А звычайных заняткаў ужо некалькі гадоў не праводзілі. Унівэрсытэт, фактычна, ня дзейнічаў.

Скарына наогул не вучыўся ў Падуі, ён прыехаў здаваць доктарскія экзамэны. А ў тыя часы паміж Вэнэцыяй і Падуяй людзі плавалі на чаўнах, гэта забірала ўсяго дзьве-тры гадзіны па канале Брэнта.

Хоць я не сьцьвярджаю, што чумы не было. Я не правяраў па дакумэнтах. Цалкам магчыма, што была і чума.

**— Дзе тады ў Вэнэцыянскай рэспубліцы найбольш друкавалі кніг?**

— Усюды. Усюды былі друкарні. Дасьледчыкі кажуць, што ў пэўны момант было каля 700 друкарняў. Атрымліваецца, што ў кожным дзясятым доме была друкарня. Друкавалі на розных мовах: і па-грэцку, і на іўрыце. Сытуацыя, дарэчы, была падобная да праскай.

Тут была вялікая свабода што да выбару: рэлігійнага, культурнага, моўнага. Вэнэцыя супраціўлялася кантролю папы рымскага, у іх была свая палітыка. Дазвалялі друкаваць на ўсіх мовах, ня ўсё дазвалялі прадаваць тут, але друкаваць было можна, у тым ліку і не каталікам.

**— Якую са сваіх прац пра Скарыну (а іх у вас больш за дзясятак) вы лічыце галоўнай?**

— Ну гэта найперш збор твораў Скарыны на польскай мове. Я са сваёй калегай Марыёлай Валь пераклаў усе вядомыя тэксты, якія выйшлі з-пад пяра Скарыны, на польскую мову і выдаў адным

томам. Гэта самы поўны ў сьвеце збор твораў Скарыны з камэнтарамі, навуковым апаратам і г. д.

Я, дарэчы, ня ведаю, чаму ў Беларусі няма і не было на гэтае выданьне ніякага водгуку, хоць ужо гадоў шэсьць, як мы паслалі яго ў розныя навуковыя ўстановы і бібліятэкі.

Нешта выходзіла і па-беларуску, але наша выданьне самае поўнае: там і акафісты, і малітвы, і ўсё іншае. Кожны радок, напісаны Скарынам, перакладзены і пракамэнтаваны. Там ёсьць нават тэксты, якія не былі надрукаваныя і засталіся ў рукапісах. Напрыклад, другая частка Кнігі Прарокаў. Я таксама напісаў там вялікія ўводзіны.

Я думаю, што гэта адно з найважнейшых выданьняў пра Скарыну, і ня толькі для Польшчы, але і для ўсіх славянаў. Я рады, што меў да яго дачыненьне.

**— Вельмі цікава гучыць ваша гіпотэза, што Скарына мог сустракацца з Божыдарам Вукавічам.**

— Гэта лягічна. Я пісаў пра гэта і ў згаданым выданьні твораў Скарыны, і яшчэ ў адным артыкуле. Я дапускаю, і хацелася б верыць, што яны сустракаліся і гаварылі пра супольныя пляны, як дзейнічаць, калі знаходзісься па-за сваёй роднай краінай. Так што гэта такая эмігранцкая праграма.

А Вукавіч быў вельмі важнай постацьцю. Ён тады пачынаў тут, у Вэнэцыі працаваць. Была цэлая група, якая пераехала сюды з Чарнагорыі і пачынала арганізоўваць сваю культуру тут. Частка зь іх увайшла ў грэка-славянскае брацтва Сьвятога Мікалая. Былі там грэкі, баўгары і сэрбы.

Тады яны ўжо пачыналі думаць пра пабудову праваслаўнай царквы — саборнага храму Сьвятога Георгія. Гэта самая старажытная праваслаўная царква на Захадзе Эўропы. Цікава, што будаваць яе грэкі і сэрбы скончылі ў той час, калі старшынём брацтва быў менавіта Вукавіч, у 1536 годзе. Тут была атмасфэра вялікай дынамікі — этнічнай, культурнай...

А Скарына мог яму перадаць свае веды пра пачаткі славянскага кнігадрукаваньня ў Кракаве. Мне верыцца, што калі Скарына вучыўся ў Кракаве, яшчэ была жывая ўся гісторыя з выданьнямі Швайпальтам Фіёлям першых царкоўнаславянскіх кніг кірылічным шрыфтам.

Зь іншага боку, Божыдар мог браць удзел у працы другой славянскай друкарні, якая працавала ў Чарнагорыі. Цяпер мы дакладна ня ведаем, але здагадваемся (а некаторыя дасьледчыкі дапускаюць), што Скарына мог быць у Валахіі, дзе дзейнічала трэцяя, паводле храналёгіі, кірылічная царкоўнаславянская друкарня. Там, у румын, выйшлі тры кнігі па-царкоўнаславянску: у 1508, 1510 і 1512 гадах.

Так што паглядзіце: Кракаў — 1491, Цэтыне — 1493, 1494 і 1495, трэцяя хваля валаская — 1508, 1510 і 1512. Вось мы ўжо знаходзімся паміж Падуяй і Вэнэцыяй, ідуць размовы, што рабіць далей і як друк арганізаваць. І вось у 1517 годзе ўспыхвае ўся Скарыніяна, а ў 1519 — Божыдар Вукавіч і яго памочнікі, якія пачнуць друкаваць у Сэрбіі.

Гэта цэлая хваля, і цяжка пазьбегнуць спакусы падумаць, што яны дзейнічалі сумесна, што ў іх супольныя ідэі і так далей. Напрыклад, у іх

агульныя ідэі што да фармату кніжак. У той час не было такога кішэннага фармату, так званай васьмёркі, яго тады не існавала. А вось у Вэнэцыі такі фармат зьявіўся, Альд Мануцый пачаў выдаваць такія кнігі. І «Малая падарожная кніжка», і некаторыя выданьні Божыдара Вукавіча і ягонага сына Вічэнца выдадзены такім фарматам.

Так што тут адчуваецца такая новая, вэнэцыянска-праская атмасфэра. Мануцый прыдумаў курсіў, заснаваў новы фармат кніг і г. д. У першыя дзесяць гадоў XVI стагодзьдзя тут, у Вэнэцыі, адбывалася сапраўдная культурная і ідэйная рэвалюцыя, усё вельмі хутка мянялася, у горадзе было вельмі шмат людзей з розных краін, тут было дастаткова пабываць, каб знайсьці добрыя ідэі, якіх хапала на ўсё жыцьцё.

Так што яны абодва, і Скарына, і Вукавіч трапілі ў добры момант, і Скарына відавочна ведаў пра тое, што тады адбывалася ў Вэнэцыі.

Ну і палітычныя бурлівыя падзеі пачатку таго стагодзьдзя сьціхаюць, і ў 1512–13 гадах Вэнэцыя і Падуя ўжо пачынаюць і ў палітычным сэнсе весьці рэгулярнае жыцьцё.

**— Што вам падказвае ваша навуковая інтуіцыя, ці будуць яшчэ знойдзеныя новыя дакумэнты пра Скарыну ў той самай Італіі або ў Польшчы ці яшчэ дзе?**

— Ня думаю. У Падуі даволі пільна ўсё прагледжана. А вось вэнэцыянскі архіў даволі дрэнна вывучаны, яшчэ ёсьць рэчы, якія не вывучалі і не дасьледавалі. Могуць быць знойдзеныя дакумэнты, якія адкрыюць новыя старонкі выда-

вецкай справы або нейкія важныя культурныя сувязі...

Але каб асабіста пра Скарыну — я ня веру. Вядома, хацелася б, але думаю, што ўжо настолькі ўсё прагледзелі, што наўрад ці.

А ёсьць шмат загадак у яго жыцьці і дзейнасьці. Але для мяне як для філёляга і багаслова хопіць ужо таго, што вядома. Скарына для мяне як мысьляр адкрытага характару, які хоча пазбавіцца ад залішне цесных канфэсійных абмежаваньняў, ясны і зразумелы.

Вядома, гэтая спрэчка паміж праваслаўнымі і каталікамі і нават пратэстантамі пра тое, каму належыць Скарына, сьмешная. Скарына належыць нам усім.

Вядома, яму бліжэй за ўсё праваслаўная традыцыя, ён шукае магчымасьці каб менавіта праваслаўную традыцыю зрабіць дынамічнай і адкрытай, каб праваслаўе ня стала культурнай і ідэалягічнай рэзэрвацыяй. І гэта яму ўдалося.

А наконт новых дакумэнтаў — дык няма дзе шукаць. Ва ўнівэрсытэце Падуі ўсё праверылі, у Вэнэцыі пра Скарыну, па-мойму, немагчыма знайсьці канкрэтных сьведчаньняў, але пра эпоху, пра гады яго знаходжаньня тут, пра пачаткі дзейнасьці Божыдара Вукавіча — магчыма, яшчэ нешта будзе знойдзена.

**— Яшчэ застаюцца архівы Чэхіі і Польшчы...**

— У Чэхіі шукалі даволі шмат. Там спадарыня Сокалава шмат шукала...

Але ведаеце, трэба шукаць асобнікі ягоных друкаваных кніг. Тут таксама вельмі цікавы момант. Ніхто да яго так Біблію не друкаваў, асоб-

нымі кнігамі. Вядома, Псалтыр друкавалі асобна, але каб Біблію кніга за кнігай — такога не было, гэта сьмелае рашэньне Скарыны. Ён так усё пасьля выдаваў: і акафісты, і службы — асобнымі брашурамі, а пасьля зьбіраў у канвалют, маючы на ўвазе, што некалі гэта ўсё будзе сабрана.

Ён выдае томікамі, робіць сэрыю, нават ня запар — бярэ тую, якая ў яго гатовая, і друкуе. Мы тут недастаткова зьвяртаем увагу на такі яго даволі сьмелы прыём, на ягонае наватарства. Так што, калі мы кажам «пачаў друкаваць Біблію», трэба казаць «пачаў выдаваць асобныя кнігі Бібліі».

**— Я бачыў кніжку дасьледчыка Скарынавых кніг, Апостальскага візытатара для беларусаў замежжа айца Аляксандра Надсана «Выбраныя малітвы з Малой падарожнай кніжкі». Ён параўноваў тэксты Скарыны і іх перавыданьні Віленскім праваслаўным брацтвам праз стагодзьдзе.**

**Надсан знайшоў, што пры праваслаўных перавыданьнях Скарынавы пераклады рэдагаваліся так, каб зь іх былі прыбраныя каталіцкія догматы. Іншымі словамі, у Скарыны былі тэксты ўсходнія, праваслаўныя, але з прызнаньнем каталіцкіх догматаў.**

**Напрыклад, Скарына называў апостала Пятра — першага папу рымскага, намесьнікам Бога ня зямлі, а праваслаўная дагматыка такога не прызнае і г. д. Надсан даваў побач факсыміле тэкстаў Скарыны і іх пазьнейшых праваслаўных перавыданьняў, каб была відаць гэтая розьніца.**

**Тут напрошваецца выснова, што Скарына дзейнічаў у кантэксьце Флярэнцкай уніі 1439 году. Што вы пра гэта думаеце?**

— Скарына пра Флярэнцкую унію нічога не казаў, але агулам — так.

Я ўжо казаў, што Скарына выходзіць з рамак праваслаўнай традыцыі і робіцца больш сьмелым. Я думаю, што ён хацеў зрабіць праваслаўную культуру больш дынамічнай. На першы погляд, здаецца, усё ідзе ў рамках праваслаўнай традыцыі...

Але зь іншага боку, ужо ў канцы XV стагодзьдзя на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага пачыналіся розныя праўнійныя працэсы — гэта і ліст мітрапаліта Місаіла папу рымскаму, і іншыя рэчы... Так што спроба шукаць сувязі з заходняй багаслоўскай традыцыяй у Скарыны напэўна ёсьць.

У адной зь ягоных малітваў ёсьць пра эвангеліста Марка, а гэта таксама такі вэнэцыянскі момант, бо Скарына там больш пра апостала Марка піша, чым пра іншых апосталаў.

Аляксандар Надсан быў добрым знаўцам Скарыны, але перш за ўсё хацеў паказаць заходні ўплыў, яму гэта было бліжэй...

Некаторыя выданьні Скарыны пасьля перапісваліся ад рукі, і там, вядома, кожны па-свойму перапрацоўваў тэкст. Асабліва тыя рэнэсансныя моманты, калі Скарына піша пра сябе, маўляў, доктар у лекарскіх навуках... Людзі, якія да такога не прывыклі, выкідалі тыя мясьціны. Так што пры наступных перавыданьнях ці перапісваньнях Скарыну падчышчалі.

Яго, дарэчы, абвінавачвалі і ў гусіцтве.

Але трэба сказаць, што Надсан — добры даследчык, бо працаваў з тэкстамі. Цяпер вельмі шмат такіх, хто піша з паветра. А Надсан глядзеў тэксты.

Наогул жа я думаю, што найбольш поўна пра Скарыну напісаў Яўген Неміроўскі. Ён сабраў амаль усё ў сваёй манаграфіі «Францыск Скарына».



## ВІВІЯНА НАЗІЛЬЯ:
## новыя дакумэнты пра Скарыну могуць ляжаць у вэнэцыянскім музэі Карэра

Вівіяна Назілья — славістка, навуковая супрацоўніца Інстытуту лінгвістычных і літаратурных дасьледаваньняў Падуанскага ўнівэрсытэту. Займаецца культурнай спадчынай усходніх зямель Рэчы Паспалітай другой паловы XVI – першай паловы XVII стагодзьдзяў і тэматыкай міту ўсходніх зямель Рэчы Паспалітай у сучаснай польскай літаратуры. Напісала разьдзел пра асьвету і кніжную культуру даўніх літоўскіх, беларускіх і ўкраінскіх зямель для зборніка выдавецтва Варшаўскага ўнівэрсытэту. Разьдзел носіць назву: Oświata Ruska na ziemiach wschodnich Rzeczypospolitej w XVII wieku.

**— Якая сёньня сфэра вашых навуковых зацікаўленьняў?**

— Я цікаўлюся культурнай думкай першай Рэчы Паспалітай, навукай і асьветніцтвам. Таксама мяне цікавіць міжрэлігійная палеміка, пераважна канца XVI – першай паловы XVII стагодзьдзяў. Гэта троху пазьней, чым часы, калі жыў і працаваў Скарына, але ягоная спадчына была важная і для дзеячоў таго часу.

Я не скарыназнавец, але некалькі разоў пісала пра яго, згадвала ў сваіх артыкулах. Зараз я напісала асобны артыкул пра Скарыну для польскага навуковага зборніка.

**— У Падуанскім унівэрсытэце і наогул, калі браць шырэй, у Італіі нехта беларусістыкай займаецца? Ёсьць такія спэцыялісты?**

— Беларусістыкі як такой ў Італіі няма. Ёсьць некалькі спэцыялістаў па русіністыцы. Мы займаемся ўсходнімі землямі Рэчы Паспалітай. Ну і ёсьць славянская філялёгія.

Але раней у Італіі выйшаў стары беларускі пераклад «Трыстана і Ізольды» ў арыгінале і ў перакладзе на сучасную італьянскую мову. Гэта важны помнік беларускай літаратуры, гэта беларуская рэдакцыя, там ужо прадстаўлена тое, што мы называем «простая мова». Гэтым у Рыме займаецца Нікалета Марчаліс, спэцыялістка па славянскай і расейскай філялёгіі.

Але, на жаль, асобнага кірунку, як беларусістыка, у Італіі няма.

**— У Беларусі тая мова, на якую быў перакладзены «Трыстан», называецца старабеларускай.**

**Але вы ўжываеце тэрмін «простая мова». Гэта спэцыяльны навуковы тэрмін у вас?**

— Гэта спадчына старых навуковых дыскусій. Мы ў Італіі ня ведаем, як дакладна назваць тую мову. Іншым разам яна не выяўляе выразнай прыналежнасьці менавіта да паўночнай часткі. Тады, абагульняючы, кажуць пра рутэнскую мову або пра рускую, але праз адно «с».

«Простая мова», таму што ў XV, XVI і XVII стагодзьдзях яшчэ не пісалі, што гэта наша беларуская мова, але пісалі «наша простая мова». І аддзяліць украінскую мову ад беларускай не заўсёды лёгка ў тую эпоху.

Пазьней гэтыя мовы, вядома, разьдзяліліся і пачалі разьвівацца, але калі гаворка пра мову ў папярэднюю эпоху, то мы ня ведаем, як яе дакладна называць. І таму карыстаемся тэрмінам «простая мова» або па-італьянску «lingua rutena» (гэта лацінізм). Так што гэта вельмі складанае пытаньне.

**— Беларускія і літоўскія лінгвісты прызнаюць, што ў XIV і першай палове XV стагодзьдзяў у мове справаводзтва ВКЛ пераважалі ўкраінскія элемэнты, а з канца XV і ў XVI стагодзьдзях запанавала беларуская моўная стыхія.**

— Украінцы чыталі паўночныя тэксты як свае. Таму гэта ўсё складана.

**— Як вы думаеце, ці могуць яшчэ быць знойдзеныя невядомыя дакумэнты пра Скарыну ў Італіі, напрыклад, у Вэнэцыі?**

— Мы нават ня ведаем дакладна ці быў ён у Вэнэцыі і калі быў, то як доўга. Можна пашукаць яшчэ ў Вэнэцыі, напрыклад, у музэі Карэра за-

хоўваюцца багатыя зборы дакумэнтаў, ня ўсе зь іх яшчэ належным чынам вывучаныя.

Але разам з тым, сумнеўна, што нешта новае будзе знойдзена. Унівэрсытэцкі архіў у Падуі Чэчылія Гецi ўжо вывучала і прагледзела ўсё.

**— Як бы вы ацанілі постаць Скарыны і зробленае ім?**

— Я думаю, што гэта вельмі добра, што беларусы маюць такога героя. Ён мне вельмі блізкі, таму што вельмі гарманічна злучае ў сабе ўсходнюю і заходнюю традыцыю. Гэта як бы ўвасабленьне мары пра Рэч Паспалітую. Я добра знаёмая з польскім навуковым асяродзьдзем. Там ёсьць настальгія па тых часах, калі ўсе жылі разам і дружна. Гэта праяўляецца нават у сучаснай літаратуры.

Я думаю, вельмі добра, што беларусы маюць такі сымбаль, як Скарына — гэта постаць зусім бесканфліктная, выдатны прадстаўнік эпохі. Можа быць, гэта гучыць для вас банальна, але тут, у нас, людзям цяжка ўявіць, што нешта такое магло існаваць.



## ПЭТР ВОЙТ: Скарына настолькі вялікі, што ўпрыгожаньні яму непатрэбныя

Пэтр Войт нарадзіўся ў 1956 годзе ў горадзе Пршэраў (Чэхія). Габілітаваны доктар філязофіі, гісторык чэскай літаратуры і кніжнай культуры. Куратар збору першадрукаў Каралеўскай каноніі прэманстратаў у Страгаўскай бібліятэцы ў Празе, дацэнт праскага Карлавага ўнівэрсытэту. Аўтар шматлікіх публікацый па гісторыі кнігадрукаваньня ў Празе, у тым ліку «Праская кніжная культура ў пэрыяд дзейнасьці Францішка Скарыны» (2014); «Мастацкі кампанэнт Скарынавай Бібліі Рускай як частка чэскай кніжнай графікі» (2014); «Новыя зьвесткі пра дзейнасьць Скарыны ў Празе (1517–1519)» (2015); «Скарына і Чэхія. Біблія Руска» (2017, у суаўтарстве) і іншых.

**— Вы ідэнтыфікавалі некалькі крыптапартрэтаў у кнігах Скарыны як выявы чэскага караля Іржы з Подзебрад і каралёў дынастыі Ягайлавічаў Уладзіслава і Людвіка. Вы параўноўвалі крыптапартрэты з рэальнымі выявамі. Ці азначае гэта, што вы параўналі партрэт апостала Яна ў чырвонай мантыі, які ў Кнізе Прамудрасьці Божай моліцца да Хрыста, з рэальным партрэтам Скарыны?**

— На ваша пытаньне я павінен даць два адказы.

Першую групу ўтвараюць крыптапартрэты, што азначае выявы герояў, чые твары маюць рысы канкрэтных жывых асобаў. Пераважна гэта тычыцца ўладароў дынастыі Ягайлавічаў і ранейшага чэскага караля Іржы з Подзебрад, а таксама некаторых іншых, напрыклад, караля Жыгімонта I Старога, папы рымскага Юлія II і іншых.

Там было магчыма знайсьці паралелі паміж тагачаснымі выявамі на кніжных ілюстрацыях або маляваных партрэтах пачатку XVI стагодзьдзя. Пры ідэнтыфікацыі мы заўсёды шукаем тыповыя рысы, напрыклад, акругласьць твару Іржы з Подзебрад і яго характэрныя доўгія, сьпічастыя гатычныя вусы. Або характэрная падбародзьдзе Людвіка з дынастыі Ягайлавічаў. Або магутнасьць твару Ўладзіслава II Ягайлавіча.

Іншае пытаньне: чаму Скарына да гэтага вельмі ўнікальнага выяўленчага прынцыпу — схаванага — зьвярнуўся. Я думаю, што яго натхніў нюрнбэрскі мастак Дзюрэр, які ў сэрыі ксылаграфічных гравюраў пад назвай «Апакаліпсіс» (гэта ілюстрацыі да Кнігі Адкрыцьця Яна Багаслова)

скарыстаў той самы прынцып. Там нямецкі імпэратар, напрыклад, выяўлены як анёл.

Я думаю, што Скарына выкарыстаў гэты прынцып як форму падзякі за тое, што меў магчымасьць два-тры гады жыць і працаваць у Празе. Такая падзяка мае сэнс, нягледзячы на тое, што Ягайлавічы паходзілі і кіравалі ў тых краінах, куды Скарына экспартаваў свае кнігі «Бібліі Рускай». Гэта адказ на першую частку вашага пытаньня.

Другое пытаньне — гэта падабенства выявы Сьвятога Яна Эвангеліста, які кленчыць і моліцца перад Хрыстом, з маладым Скарынам. Тут не было магчымасьці параўноўваць зь нейкай выявай апрача партрэта Скарыны ў «Бібліі Рускай».

Той укленчаны Ян мае са Скарынам мінімум два падабенствы. Першае — акругласьць, паўната твару. А другое — унівэрсытэцкая магістарская мантыя, у якую апрануты апостал Ян Багаслоў. Зразумела, гэта недакладныя доказы, і я не сьцьвярджаю на 100 працэнтаў, што гэта Скарына. Я толькі кажу, што існуе магчымасьць лічыць гэтую выяву другім вядомым партрэтам Скарыны, зьмешчаным у Бібліі.

**— Вы сказалі магістарская мантыя? Чырвоныя мантыі насілі дактары...**

— Ну ведаеце, магістарская або доктарская... Тады вялікай розьніцы не было. У кожным выпадку чырвоная мантыя, аблямаваная каштоўным футрам, была тады прыкметай вучонасьці і галоўным тыповым атрыбутам навукоўцаў.

**— І вельмі важна, што эвангеліст мае вопратку часу Скарыны, а не біблійных часоў...**

— Так, менавіта. Маеце рацыю. Гэта дадатковы аргумэнт. Хоць гэта не ўнікальны выпадак, бо ў той час не было рэдкасьцю, калі біблійных пэрсанажаў апраналі ў рэнэсансныя строі. Тым ня менш, гэта можна ўспрымаць як трэці дапаможны аргумэнт за тое, што ў вобразе Яна Багаслова выяўлены Скарына.

**— Можна лічыць, што гэта ваша навуковая гіпотэза?**

— Дакладна так. Усе гэтыя крыптапартрэты нехта можа паставіць пад сумненьне. У некаторых выпадках ёсьць вельмі блізкае падабенства, нават супадзеньне, таму чыесьці сумневы нельга было б прызнаць справядлівымі. Але ў выпадку Яна Багаслова, які выяўлены ў профіль, фізіягнамічных знакаў вельмі мала. Гэта толькі круглы, скажам, таўставаты твар.

Але ёсьць і яшчэ адзін аргумэнт. Гэта спосаб гравіроўкі, які можа належаць таму самаму разцу — гэта такая сыстэма рысак, якімі абазначаюць цень, няголенасьць або маршчыны на твары. Так што гэта мая гіпотэза.

**— Вельмі цікавая і прыгожая гіпотэза. Я быў рады пачуць яе ад вас на сымпозіюме ў Празе ў чэрвені 2017 году. У 1518 годзе кароль Жыгімонт I Стары ажаніўся другі раз — узяў шлюб з Бонай Сфорцай. Прафэсар Неміроўскі заўважыў, што ў ілюстрацыі да адной з кніг Бібліі, якія выйшлі ў тым годзе, Скарына зьмясьціў герб Боны Сфорцы. Гэта таксама дадатковы факт выкарыстаньня Скарынам таго прынцыпу, пра які вы кажаце.**

— Мушу сказаць, што пра нейкі замежны герб у «Бібліі Рускай» я ня ведаю. Там ёсьць толькі эмблемы і знак Скарыны — сонца зь месяцам, якія сымбалізуюць зацьменьне. Але каб там быў герб як такі — пра гэта я ня ведаю.

Там ёсьць вельмі шмат біблійных пэрсанажаў у малюнках. Усе яны маюць адну агульную рысу — усе твары іх індывідуалізаваныя. Калі вы возьмеце любую ілюстрацыю з таго часу — то ўбачыце, што ўсе яны наадварот тыпізаваныя: усе маюць аднолькавыя вочы, аднолькавыя насы, аднолькавыя бароды і так далей. Ну максымальна, габрэй мае бараду, а рымлянін — паголены, і ўсё. У Скарыны ж гэта наадварот, там усе індывідуалізаваныя.

А што тычыцца жаночых выяваў, дык я лічу, што пры больш глыбокім параўнаўчым вывучэньні знайшліся б далейшыя магчымасьці расшыфроўкі крыптапартрэтаў, напрыклад, у нейкай біблійнай жанчыне можна будзе знайсьці і новую жонку Жыгімонта I Старога. Гэтаксама як там ёсьць Ганна дэ Фуа — жонка Ўладзіслава II Ягайлавіча.

Гэта праца для цэлага калектыву гісторыкаў і мастацтвазнаўцаў, якія б мусілі параўноўваць выявы 20-х гадоў XVI стагодзьдзя з ілюстрацыямі Скарыны.

**— Дык тая індывідуалізацыя, пра якую вы кажаце, выглядае амаль фэномэнам Скарыны...**

— Дакладна так. Я не гісторык мастацтва, але ў пэўнай ступені зьяўляюся спэцыялістам і арыентуюся ў сытуацыі. Я ведаю, што перад Скарынам гэта рабіў толькі Дзюрэр. І ёсьць тэорыя, якая не

падмацаваная ніякім архіўным пісьмовым дакумэнтам, што Скарына ў Нюрнбэргу быў. Але калі б і ня быў...

Яму неабавязкова трэба было сустракацца зь Дзюрэрам асабіста, бо працы гэтага мастака ў той час хадзілі па ўсёй Эўропе. Гэта быў вельмі плённы, прадуктыўны мастак. Скарына мог яго працы дзе заўгодна купіць, прынамсі той самы «Апакаліпсіс» з «Адкрыцьця Яна Багаслова». І, адпаведна, мог прынцып крыптапартрэтаў засвоіць.

А пасьля ўжо, калі даваў замовы мастакам і рэзчыкам, мусіў фармуляваць іх вельмі дакладна і, нават, у некаторых выпадках, даваць намаляваныя ўзоры — яны без сумненьня павінны былі існаваць, хоць і не захаваліся да нашага часу. Гэта такая галерэя партрэтаў уладароў. Яму трэба было падаць выканаўцам усе характарыстыкі твараў тых, каго ён хацеў там бачыць — напрыклад, Салямон будзе Ўладзіславам Ягайлавічам і так далей.

Ёсьць у Скарыны адзін малюнак, які называецца «Дыспут». Калі вы паглядзіце на натоўп удзельнікаў унівэрсытэцкага дыспуту, то ўбачыце, што там усе індывідуалізаваныя, усе маюць характэрныя асобныя твары. Гэта можа быць рэфлексія Скарыны ў бок унівэрсытэцкага кола, зь якім ён, без сумненьня, спатыкаўся. Або Скарына мог намаляваць для гравёра выпадак са свайго жыцьця, нейкае сваё ўражаньне з дыспутаў у Кракаве або ў Падуі.

Але, што дакладна — гэта ўсё рэальныя постаці.

**— Беларускі мастацтвазнавец прафэсар Віктар Шматаў пісаў, што некаторыя з гравюр у скарынаўскіх выданьнях паходзяць наўпрост зь Нюрнбэргу.**

— Шматаў пасьля шматгадовых дасьледаваньняў напісаў тоўстую кнігу «Искусство книги Франциска Скорины». Але я не магу зь ім згадзіцца.

Трэба глядзець яго кнігу — якія менавіта дрэварыты ён лічыць нюрнбэрскімі, таму што трэба ўсьвядоміць сабе адну рэч. Нюрнбэрг для ўсёй Цэнтральнай Эўропы быў тады Мэкай мастакоў — ювэліраў, скульптараў, жывапісцаў, графікаў і іншых. Усё, што там узьнікла, мела ўзорны характар: яго капіявалі, адаптавалі.

Так што знайсьці нюрнбэрскія ўплывы дзе заўгодна у сёньняшняй Польшчы, Чэхіі, Аўстрыі і іншых краінах — не праблема. Але гэта мяне яшчэ не вядзе да высновы, каб я пальцам паказаў на некалькі ілюстрацый і сказаў, што яны маюць нюрнбэрскае паходжаньне.

Бясспрэчны ўплыў (я пра гэта казаў на пачатку сваёй прэзэнтацыі на Праскім сымпозіюме) ёсьць у гравюры «Бой Арханёла Міхаіла». Я лічу, што гэта вельмі дакладная адаптацыя аднаго з малюнкаў «Апакаліпсісу» Дзюрэра. І такога там процьма.

Гэта бясспрэчна, але гэта не азначае, што яны ўзьніклі наўпрост у Нюрнбэргу.

**— На той час Дзюрэр ужо меў багата пасьлядоўнікаў...**

— Так, ён меў вучняў-пасьлядоўнікаў, якіх тады называлі кляйнмайстры — маленькія майстры. Іх было 6–8 чалавек і ўсе — выдатныя.

Я не сьцьвярджаю, што мая гіпотэза пра тое, што малюнкі Скарыны паходзяць з Прагі — адзіна слушная, але ў яе ёсьць пэўныя доказы. Хай сабе і насуперак таму, што Шматаў і цэлы шэраг беларускіх, украінскіх, літоўскіх і расейскіх дасьледчыкаў вырвалі гэтую праблему з кантэксту эпохі, рэлігіі і вывучалі яе як бы ў лябараторным вакуўме.

Калі ўставіце дзейнасьць Скарыны, прынамсі праскага пэрыяду, у цэлы кантэкст, дык убачыце, што тая самая рука, якая рэзала гравюры для яго кніг, працавала і для іншых выдаўцоў, якія працавалі адначасова са Скарынам у Празе — хай сабе з колаў утраквістаў (памяркоўных гусітаў — С.А.), г. зн. хрысьціянскіх, або і з колаў габрэйскіх.

У гэтым і ёсьць каштоўнасьць маёй гіпотэзы — тыя мастакі працавалі без увагі на канфэсійныя пытаньні, таму што гэта быў для іх заробак і ім было ўсё роўна, зь якой рукі грошы падаюць.

**— На сымпозіюме вы сказалі, што вакол Скарыны існуе аднабокі нацыяналістычны міт. Што вы мелі на ўвазе?**

— Я сказаў яшчэ больш адкрыта. Я сказаў «культ». Так мне здаецца. Вядома, я ня маю права ацэньваць памкненьні калегаў з навуковай супольнасьці.

Але ведаеце, што мяне засмучае? З аднаго боку, Скарына — гэта асоба настолькі высока цікавая, што ня мае ў пэўнай ступені сабе роўных у сваім часе ў Цэнтральнай Эўропе.

Сёньня мы адзначаем 500-я ўгодкі выданьня яго першай кнігі, але насуперак гэтаму не знайшлася сіла, каб 3–4 гады назад нехта сфармаваў міжнародны калектыў навукоўцаў, якія б зрабілі або навуковую манаграфію, або новую энцыкляпэдыю пра Скарыну.

Скарына пачынае вывучацца адразу пасьля сваёй сьмерці. Ён як бы надалей, вобразна кажучы, шукае новыя і новыя доказы жывучасьці сваёй спадчыны. Але дакуль мы не адкрыем аснову, тое, на якой глебе — рэлігійнай, грамадзкай, этнічнай, гістарычнай і так далей — ён стаяў, датуль усё будзе толькі варажбой на кававай гушчы.

Мы проста падпарадкоўваемся грамадзкай замове: усім вельмі трэба, каб пры дапамозе Скарыны нешта было даказана. Але дасюль яшчэ існуюць вялізныя прагалы ў спазнаньні яго спадчыны.

Вось гэта мяне ў Скарынаву гадавіну засмучае — што яна не была выкарыстана для таго, каб магутным крокам у міжнародным супрацоўніцтве пайсьці далей.

**— Ну дык гэта нешта іншае, чым тое, што я зразумеў з вашых словаў на сымпозіюме. Вы таксама тады сказалі, што ўважаеце Скарыну касмапалітам...**

— Ну так, але гэта не разыходзіцца з жаданьнямі і пазыцыяй маіх калегаў за мяжой. У рэшце рэшт, вучыўся Скарына ў Кракаве, мог быць у Вене і Нюрнбэргу, часткова жыў у Празе... Для свайго часу, калі возьмем сярэдняга мяшчаніна, які сядзеў дома, дык Скарына быў касмапалітам у добрым сэнсе гэтага слова.

**— Я сёлета для натхненьня і разваг над Скарынавай спадчынай прачытаў ягоныя прадмовы і пасьляслоўі. Там шмат выказваньняў пра любоў да «рускага языка» і братоў «Русі». Усё гэта выглядае як вялікі, магутны патрыятызм...**

— Гэтую праяву палітычнага або моўнага патрыятызму мы ня можам вырываць з кантэксту той эпохі, у якую Скарына жыў.

Мяжа XV–XVI стагодзьдзяў — гэта час нараджэньня і станаўленьня новай сацыяльнай праслойкі — мяшчанства. Само сабой, гэты працэс Італія і іншыя сьпелыя краіны Міжземнамор’я і Заходняй Эўропы тады ўжо прайшлі. Але для Цэнтральнай Эўропы гэта час станаўленьня мяшчанства ў канфлікце з магнатамі і шляхтай.

Гэты працэс ня мог мець іншы характар, як толькі патрыятычны і моўны (або моўна-патрыятычны). У Чэхіі было тое самае — націск на чэскую мову, у Польшчы таксама, і дзе заўгодна.

У тым, да чаго заклікае Скарына, і што ён любіць — няма нічога незвычайнага, гэта знак таго часу.

**— Вы таксама казалі, што Скарына не зьяўляецца гуманістам у клясычным сэнсе гэтага слова... Але калі вы паглядзіце, як гуманізм трактуе чэская вэрсія Вікіпэдыі, то ўбачыце, што гэта супадае з характарам дзейнасьці Скарыны. Вось я працытую кавалак:**

**«Сьветапогляд, які прызнае каштоўнасьць кожнага чалавечага жыцьця і яго прыярытэт перад іншымі каштоўнасьцямі, ставіць акцэнт**

**на ўнівэрсальнасьць чалавецтва, салідарнасьць усіх людзей...»**

— Галоўная праблема хаваецца ў тым, што менавіта мы лічым гуманізмам і як тлумачым гэты панятак. А ён мае два розныя узроўні, якія, на жаль, у асяродзьдзі непрафэсіяналаў, такім, напрыклад, як Вікіпэдыя (або ўжо і ў навуковых колах) зьмешваюцца. А гэтага рабіць нельга.

Тое, што вы мне прачыталі, гэта погляд на гуманізм як на грамадзкі ўзровень дачыненьняў паміж людзьмі. Таму можам сказаць, што гуманістам быў Талстой, Горкі і іншыя, і ніхто з намі ня будзе спрачацца, таму што гэта праўда.

Але калі гаворым пра тыя старыя часы — пра канец позьняга Сярэднявечча і пачатак Рэнэсансу, то гуманізм тады меў абсалютна іншы характар і сэнс, быў на абсалютна іншым узроўні.

Гуманізм тады быў мэтадам, які дазваляў з дапамогай філязофскай і філялягічнай спадчыны антычнасьці актуалізаваць як саму антычнасьць, сярэднявечча, так і сучасныя праблемы. А гэтага ў Скарыны мы ня знойдзем. Ня трэба зьмешваць тое, што ён, напрыклад, заклікаў да адукацыі мяшчан, да адраджэньня і так далей (як я ўжо сказаў, гэта знак таго часу, гэта зьвязана з паўставаньнем і станаўленьнем мяшчанскай праслойкі грамадзтва).

Але каб Скарына перакладаў Біблію такім спосабам, як, скажам, Ляўрэнцыё Вала або Эразм Ратэрдамскі, якія менавіта на падставе антычнай мэтадалёгіі не перакладалі Вульгату Гераніма, але зьвярнуліся да першасных тэкстаў на грэцкай і габрэйскай мовах, такога няма — Скарына так не

зрабіў. У яго няма ніякіх паэтычных, мэтралягічных праяў антычнасьці, нейкіх лацінскіх дыстыхаў, якія б абапіраліся на антычную мэтрыку — а гэта ўсё рысы тагачаснага гуманізму.

Я прызнаю ў Скарыны гуманнасьць, чалавечнасьць, без сумненьня, але гэта рыса, якая характарызуе раньнерэнэсансную літаратуру ў Польшчы, Чэхіі, Маравіі, Нямеччыне і дзе заўгодна яшчэ. Але калі шукаю рысы тагачаснага гуманізму — дык іх у Скарыны не знаходжу.

**— Вы лічыце, што зьмест Скарынавых прадмоваў і пасьляслоўяў, факт зьмяшчэньня ім свайго партрэту ў Бібліі — гэта рысы тагачаснай эмансыпацыі мяшчанства?**

— Часткова, так. Вы кажаце пра партрэт... Гэта ня мае з гуманізмам нічога агульнага...

**— А хіба гэта не рэнэсансная праява асабістай чалавечай годнасьці і павагі да чалавека?**

— Гэта пытаньне разуменьня Бібліі і адна з, відаць, нэўрастэнічных праблематык, якімі дасюль ніхто не займаўся, наколькі я ведаю, і наколькі я абазнаны ў расейскамоўнай літаратуры.

Я думаю, што ў змаганьні за спрашчэньне і дэмакратызацыю тэксту (гэта частка барацьбы за эмансыпацыю мяшчан) ён зайшоў вельмі далёка. Ён разбурыў стагодзьдзямі паважаныя нормы-клішэ ў стаўленьні да біблійнага тэксту.

Датуль ніколі не было (наколькі я ведаю — да 1641 году), каб Біблію суправаджаў партрэт сьвецкага чалавека, які быў бы перакладчыкам або рэдактарам выданьня! Максымальна гэта мог быць Геранім — але ён быў сьвяты. Але, паўтараю, ня

сьвецкая асоба. Гэта першая рэч, якая ўражвае, але ня мае нічога агульнага з гуманізмам.

Ну а калі вы згадалі пра зьмест і тон прадмоваў і пасьляслоўяў Скарыны — дык тут я абсалютна згодны. Але я лічу, што гэта не праява гуманізму ў вузкім сэнсе слова — той філязофска-філялягічнай мэтодыкі з апорай на антычнасьць, але той барацьбы за адраджэньне і эмансыпацыю мяшчанскай клясы.

**— Вы казалі, што Скарыну мусіла б вывучаць міжнародная каманда эўрапейскіх навукоўцаў і што ўвагі ягонаму юбілею нададзена недастаткова. Як бы вы ацанілі постаць Скарыны і зробленае ім?**

— Я проста зачараваны Скарынам. Гэта асоба, роўнай якой падчас сваіх дасьледаваньняў літаратуры, культуры і выяўленчага мастацтва Цэнтральнай Эўропы я не сустракаў.

Задачай згаданага калектыву навукоўцаў было б зьняцьце са Скарыны мноства наноснага, што мінулыя пакаленьні з добрым намерам да яго прычапілі. Гэта трэба было б зрабіць толькі для таго, каб падкрэсьліць ягоную веліч і ягоныя грамадзкія, ідэалягічныя заслугі.

Я лічу, што веліч Скарыны настолькі вялікая, што штучныя дадаткі і ўпрыгожаньні яму зусім непатрэбныя — ён будзе жыць і бязь іх. Але затое будзе жыць аўтэнтычным.



## ВОЛЬГА ШУТАВА:
## доктарскі экзамэн Скарыны ў Падуі адметны складам камісіі з 33 чалавек

Вольга Шутава нарадзілася ў 1970 годзе ва Ўкраіне. Скончыла гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту ў 1992 годзе, у 1999–2007 — дацэнт гістфаку БДУ. Жыве ў Францыі. Дырэктар Лябараторыі скарыназнаўства і валярызацыі дасьледаваньняў гісторыі і культуры Беларусі. Сфэра навуковых інтарэсаў: гістарыяграфія, гісторыя Беларусі, скарыназнаўства. Аўтар манаграфій «Психоистория: Школа и методы» (1997); «На пути к истории Людей: заметки по истории исторической мысли конца XX века»

(1999); «Историография и постмодерн: Вопрос об идентичности во второй половине XX — начале XXI вв.» (2008), а таксама больш чым 60 навуковых артыкулаў.

**— Вы цяпер жывяце і працуеце ў Францыі. Ці існуе ў гэтай краіне скарыназнаўства? Ці нехта займаецца асобай і даробкам беларускага першадрукара?**

— Тут сытуацыя парадаксальная. Пры ўсёй той значнасьці, якую мае асоба Францішка Скарыны для Беларусі, у Францыі скарыназнаўства як такога няма. Дый наагул ва ўласна эўрапейскім кантэксьце дасьледаваньняў пра яго адносна мала, а ў Францыі яны сёньня практычна зводзяцца да нуля.

Я спэцыяльна займалася гэтым. У Нацыянальнай бібліятэцы Францыі фонд ці калекцыя скарыназнаўства фактычна адсутнічае. Там знаходзіцца ўсяго некалькі кніжак, якія былі напісаныя яшчэ ў 60–70-я гады XX стагодзьдзя ў Беларусі. А на францускай мове там ёсьць толькі адна брашура старонак на семдзесят аўтарства Георгія Галенчанкі і Вячаслава Чамярыцкага, выдадзеная пад эгідай UNESCO. Так што гэта вялікая лякуна, і я канстатую гэта зь вялікім шкадаваньнем.

Зрэшты, беларусістыка як такая ў Францыі ёсьць, але яна датычыцца пытаньняў сучаснасьці — вывучэньне Галакосту, партызанскага руху ў часе Другой сусьветнай вайны, Віцебскай мастацкай школы і Марка Шагала. Але ўсё, што тычыцца больш даўняй гісторыі, цалкам адсутнічае.

Зрэшты, сёньня вялікі дэфіцыт дасьледаваньняў пра Скарыну назіраецца ня толькі ў францускай гістарыяграфіі, але і ў англамоўнай, амэрыканскай. Мы можам казаць пра навуковую дзейнасьць вакол Скарыны старэйшага пакаленьня эміграцыі, гэта, у тым ліку, Сымона Брагі, Яна Садоўскага, Аляксандра Надсана, Антона Флароўскага. Але сёньня наагул адчуваецца адсутнасьць дасьледаваньняў пра Скарыну ў заходнеэўрапейскай гістарыяграфіі.

Таму ў мяне ўзьнікла ідэя стварыць «Лябараторыю скарыназнаўства» для актывізацыі дасьледаваньняў у галіне гісторыі Беларусі. Яна можа стаць адзінай плятформай і вэб-рэсурсам для публікацый і каардынацыі намаганьняў многіх дасьледчыкаў у галіне скарыназнаўства, а таксама беларускіх дасьледаваньняў у цэлым.

Наш праект ужо існуе, хоць і не ўступіў яшчэ ў працу на поўную сілу. Ён ствараецца на чатырох мовах — беларускай, расейскай, францускай і ангельскай. Таму ён зможа даць імпульс для лепшай заўважальнасьці беларускіх дасьледаваньняў у заходняй гістарыяграфіі. І вельмі важна, што некаторыя вядучыя дасьледчыкі-скарыназнаўцы з Чэхіі, Літвы і Беларусі ўжо падтрымалі «Лябараторыю скарыназнаўства». Спадзяюся, што яна хутка запрацуе напоўніцу.

**— Нават няма беларусістыкі ў кантэксьце славістыкі — мова, літаратура, этналёгія?**

— Так, і нават у кантэксьце славістыкі. Беларусістыкі ў Францыі, фактычна, няма. Ёсьць шэраг дасьледчыкаў, якія займаюцца дасьледаваньнем сучаснай гісторыі Беларусі, але каб казаць

пра гісторыю сярэдніх вякоў або пачатку новага часу — гэтага няма.

**— Тым ня менш, у сваім дакладзе на скарынаўскай канфэрэнцыі ў Празе ў пачатку лістапада 2017 году вы расказвалі, што знайшлі згадкі пра Скарыну ў старой францускай бібліяграфіі.**

— Так, я думаю, калі мы гаворым пра фэномэн Скарыны, трэба ставіць яго ня толькі ў наш беларускі кантэкст, але і ў цэлым у эўрапейскі. Скарына і паводле сваёй адукацыі, і паводле свайго, скажам так, эмігранцкага выбару належыць да эўрапейскага, а ня толькі да беларускага кантэксту. Таму і трэба шукаць у эўрапейскай культурнай прасторы зьвесткі пра яго. І такія зьвесткі знаходзяцца.

Напрыклад, у кнізе Bibliotheca sacra (Парыж, 1702 і 1709), якую стварыў найвядомейшы бібліёграф Францыі, заснавальнік бібліятэчнай справы ў гэтай краіне Жак Лелёнг, ёсьць такая згадка. Пра Лелёнга ў свой час згадвалі і Пятро Ўладзіміраў, і Яўген Неміроўскі, але яны, відавочна, сам арыгінал ня бачылі. Лелёнг хацеў сабраць любыя публікацыі, зьвязаныя зь Біблiяй — і рукапісныя, і друкаваныя. І вось у дастаткова вялікім фрагмэнце ён згадаў пра існаваньне Biblia Ruthenica.

І ў гэтым самым кавалку сваёй працы Лелёнг паведамляе, што здабыў інфармацыю пра існаваньне русінскай Бібліі ў італьянскага рэлігійнага дзеяча XVI стагодзьдзя П'етра Паўла Вэрджэрыё, пратэстанта, які жыў на тэрыторыі сучасных Славеніі і Харватыі і які быў асьветнікам, выдаўцом Бібліі. Менавіта ён згадвае пра Біблію Францішка

Скарыны. Вось так мы можам казаць пра дзьве згадкі пра Скарыну і яго Біблію ў эўрапейскай культурнай і інтэлектуальнай прасторы.

Летам 2017 году ў зборніку «Францыск Скарына. Асоба, спадчына, дзейнасьць» быў апублікаваны мой артыкул, дзе я пісала пра ўрывак, які, як мне здаецца, у гістарыяграфіі быў недаацэнены і, больш за тое, няправільна атрыбуяваны. Гэта ўрывак з працы «Сапраўдныя партрэты знакамітых людзей» францускага дасьледчыка канца XVI стагодзьдзя Андрэ Тэвэ.

Ён у нас перакладзены на беларускую і расейскую мовы. У гэтым кавалку Андрэ Тэвэ кажа, што ў Масковію прыяжджаў нейкі русінскі купец з Польшчы з кнігамі і шрыфтамі, якія былі там спаленыя.

Гэты фрагмэнт з Андрэ Тэвэ быў апублікаваны нашымі дасьледчыкамі ў 1988 годзе, але быў узяты не з самога арыгіналу, але зь перавыданьня Агюстэнам Галіцыным 1858 году ў Францыі. У выніку гэтай блытаніны атрымалася, што ўрывак лічыўся ўзятым зь іншай працы Тэвэ — «Касмаграфіі». Але насамрэч ён узяты з працы «Сапраўдныя партрэты знакамітых людзей», якая датуецца 1584 годам.

І вось калі мы бярэм арыгінал, тады можам меркаваць пра той кантэкст — чаму Тэвэ пра гэта расказаў і хто яму пра гэта расказаў. Пасьля цэлага расьсьледаваньня я прыйшла да высновы, што Андрэ Тэвэ пра гэта расказаў пасол ангельскай кампаніі ў Маскве сэр Томас Рэндальф.

Калі ж высьветлілася гэта, то стала на месца і іншае сьведчаньне, якое прыводзіцца ў той самай

беларускай хрэстаматыі 1988 году — сьведчаньне Джайлза Флэтчэра, які амаль слова ў слова кажа тое самае, што і Андрэ Тэвэ (але на ангельскай мове) пра спальваньне кніг і шрыфтоў, якія прывёз нейкі ідэаліст-русін з Польшчы.

Калі мы высьвятляем, што Томас Рэндальф быў непасрэдна начальнікам, калегам і сябрам Джайлза Флэтчэра, тады мы знаходзім агульную плятформу паміж сьведчаньнем Андрэ Тэвэ і сьведчаньнем Флэтчэра і разумеем, што яны казалі пра тое самае.

Да сьведчаньняў Тэвэ і Флэтчэра ставіліся раней зь недаверам і адкладалі ўбок. Сьведчаньне Флэтчэра лічылася больш позьнім у параўнаньні з інфармацыяй Андрэ Тэвэ. Калі ж мы іх аб’ядноўваем і бачым, што сьведчаньне Тэвэ апублікаванае ў 1584 годзе, і сьведчаньне Флэтчэра, якое хоць і было апублікаванае ў 1591, на самой справе зьявілася ўжо ў 1589 годзе, — абодва адсылаюць нас да цараваньня ў Маскве папярэдняга манарха, гэта недзе 50–60-я гады XVI стагодзьдзя.

Далей паўстае пытаньне або пра больш дакладнае датаваньне гэтых сьведчаньняў, або пра тое, хто быў русінам з Польшчы, які прывёз спаленыя шрыфты. Магчыма, гэта быў не Скарына, а нехта іншы.

**— Вы аўтар новай гістарычнай вэрсіі адносна доктарскага экзамэну, які ў Падуі здаваў Скарына. Пра што канкрэтна новае мы можам сёньня казаць?**

— Існуе даволі рэдкае выданьне, якое было зроблена Дасьледчым цэнтрам Інстытуту гісторыі Падуанскага ўнівэрсытэту. Яны паставілі

сабе задачу транскрыбіраваць нечытэльныя запісы актаў абаронаў Падуанскага ўнівэрсытэту за ўсе тыя гады, калі яны адбываліся. І выйшла велізарнае, шматтамовае выданьне. Пачало яно выдавацца ў 20-я гады мінулага стагодзьдзя. А ў 60-я гады XX стагодзьдзя друкаваліся запісы таго пэрыяду, што нас цікавіць.

Кніга 1969 году, рэдактарам якой была Эльда Форын, уключала ў сябе акты абаронаў за 1501–1525 гады (Acta graduum academicorum ab anno 1501 ad annum 1525 / ed. E. Martellozzo Forin. — Padova : Antentore, Istituto per la storia dell'Università di Padova, 1969).

Там я знайшла зьвесткі пра абарону Францішка Скарыны. Гэта ўсё тое, што ў нас прыводзіцца, што перакладзена на беларускую і расейскую мовы. На першы погляд здаецца, што нічога новага мы там узяць ня можам. Але калі тыя зьвесткі ставяцца ў кантэкст абаронаў іншых кандыдатаў, гэты запіс набывае зусім іншы выгляд.

У кнізе прадстаўленыя тры дакумэнты пад нумарамі 649, 650 і 651. Я іх апублікавала, хоць яны ня новыя, мы іх маем нават у хрэстаматыі. Але ў гэтай кнізе яны пададзеныя з больш дакладнай транскрыпцыяй. Тут мы можам дакладна казаць пра некаторыя лацінскія словы, якія былі прапушчаныя ў хрэстаматыі — яны не былі заўважаныя ранейшымі перапісчыкамі, бо не былі дастаткова выразна напісаны.

Але галоўнае — гэта абарона Скарыны ў кантэксьце абаронаў іншых кандыдатаў. Напрыклад, экзамэн *privatum*, які ў клясычнай хрэстаматыі 1988 году названы «асаблівым». Насамрэч тэрмін

*privatum* ня можа перакладацца, як «асаблівы» — маўляў, наладжаны менавіта для Скарыны. *Privatum* азначае «асабісты». Гэта быў агульны этап для ўсіх кандыдатаў. Гэта вынікае з таго самага зборніка актаў 1969 году і наагул з гісторыі Падуанскага ўнівэрсытэту і іншых тагачасных эўрапейскіх унівэрсытэтаў.

Кожны кандыдат у дактары праходзіў працэдуру абароны, якая складалася з трох этапаў: прашэньне аб міласьці *gratia*, другі этап *tentativum* (пробны экзамэн, на якім вырашаўся лёс кандыдата) і трэці этап — *privatum* або асабісты, прыватны, дзе адбывалася ўласна ўзнагароджаньне ступеньню доктара і ўручаліся доктарскія знакі — так званыя *insignia*.

А што яшчэ больш цікава, дык гэта тое, што з дапамогай гэтых запісаў мы можам бачыць і аналізаваць склад камісіі, якая прысутнічала на экзамэнах Скарыны, бо да актаў існуюць яшчэ біяграфічныя сьпісы.

Як я высьветліла, у складзе камісіі на абароне Скарыны прысутнічалі як найменш тры пэрсанажы, зьвязаныя з кнігавыдавецкай справай. Сярод іх выдатны зьбіральнік кніг і манускрыптаў, перапісчык, знаёмы Альда Мануцыя Барталямэа дэ Санвіта. Гэта вельмі цікавы пэрсанаж для італьянскай гістарыяграфіі. Побач з Альдам Мануцыем ён лічыцца вынаходнікам курсіву і вялікага мноства навінак у справе перапісваньня кніг.

Яшчэ Сымон Брага некалі пісаў, што будучы ў Падуі, Скарына павінен быў заехаць і ў Вэнэцыю, каб пабачыць там бліскучую справу пасьпяховага Альда Мануцыя. Але высьвятляецца, што ў Падуі

да 1500 году існавала як мінімум 7 друкарняў, а кнігарні знаходзіліся ў непасрэднай блізкасьці ад унівэрсытэту. Туды натуральна павінен быў заходзіць Скарына.

Дык вось паўтаруся, што на абароне Скарыны дзеля нейкіх прычынаў прысутнічалі як мінімум тры пэрсанажы, зьвязаныя з выданьнем кніг. Гэта значыць, што ўжо ў Падуі Скарына ня мог прайсьці міма ідэй пра друкаваньне кніг.

**— А хто былі два іншыя, апрача Санвіта?**

— Гэта Антоні дэ Санчына і Хрыстафор зь Ліньяміна. Абодва яны паходзілі зь вельмі вядомых сямей заснавальнікаў італьянскага кнігадрукаваньня.

Санчына — гэта вядомая юдэйская сям'я, якая займалася кнігадрукаваньнем. А Ліньяміна сам быў пісьменьнікам, паходзіў з тых Ліньяміна, якія пакончылі зь нямецкай манаполіяй на італьянскае кнігадрукаваньне.

**— Ці быў Санчына хрышчаны, калі прысутнічаў на абароне ў каталіцкім унівэрсытэце?**

— Не. Гэта цікавы факт. Менавіта ў Падуанскім унівэрсытэце дапускалі да працы і да абароны без увагі на веравызнаньне. Гэта сьведчаньне верацярпімасьці ў Падуанскім унівэрсытэце. Можа таму туды і трапіў Скарына... Але тое, што ўнівэрсытэт славіўся сваёй верацярпімасьцю, гэта вядома.

**— Значыць, экзамэн Скарыны ў Падуі быў ня нейкім асаблівым. Усе тры этапы, пра якія вы казалі, гэта была звычайная працэдура звычайнай доктарскай абароны і такіх абаронаў у 1512 годзе ў Падуі было ня менш за дванаццаць?**

— Так, менавіта. Але каб гэта было правільна зразумета, я цяпер працую над тэмай пра іншую асаблівасьць Скарынавай абароны. Яна была, але ў іншым. З тых дванаццаці доктарскіх абаронаў абарона Скарыны сапраўды вылучаецца, але ня тым, што ў яго быў нейкі асаблівы экзамэн, якога насамрэч не было.

Калі паглядзім на ўсе дванаццаць абаронаў 1512 году, то ўбачым, што такая прадстаўнічая камісія з 33 чалавек, з такімі пэрсанажамі, як Санвіта, як галоўны прэзыдэнт Падуанскага ўнівэрсытэту, як высокія прадстаўнікі царквы — зьбіралася ў тым годзе толькі два разы.

Адзін раз, калі бараніўся Фэдэрыка Маўрацэні (Маразіні) — найвядомейшы арыстакрат, сын нядаўна памерлага Дамініка Маразіні — члена Вэнэцыянскай Рады Дзесяці і нязьменнага пратэктара ўнівэрсытэту. А другі раз — у выпадку абароны Скарыны. І гэта вялікая загадка.

Тыя шматлікія людзі спэцыяльна прыйшлі, каб тое дзіва паслухаць і ўбачыць на *tentativum* і на апошняй стадыі экзамэну, на *privatum*.

**— Дык можа гэта адбылося таму, што Скарына быў сакратаром караля Даніі?**

— Можа быць. У кожным выпадку, увага яму была нададзена асаблівая. І гэта на прыкладзе дванаццаці абаронаў 1512 году можна бачыць выразна. Такія прадстаўнічыя камісіі былі толькі ў Скарыны і Маўрацэні.



## ВОЛЬГА ДАДЗІЁМАВА:
## у часы Скарыны Беларусь была ўсходнім фарпостам музычнай Эўропы

Вольга Дадзіёмава нарадзілася ў 1955 годзе ў Гомелі. Доктар мастацтвазнаўства, прафэсар, загадчыца катэдры беларускай музыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Аўтарка кніг «Нарысы гісторыі музычнай культуры Беларусі (2001), «Музычная культура Беларусі XVIII стагодзьдзя» (2002), «Гісторыя музычнай культуры Беларусі да XX стагодзьдзя (2012), а таксама шэрагу навуковых і навукова-папулярных артыкулаў.

**— Наколькі добра мы ведаем музыку Беларусі часоў Скарыны?**

— Музыку таго часу дасьледчыкі ведаюць вельмі добра. Большасьць крыніц мы здабылі ў пэўнай ступені выпадкова. Дасьледчыкі пераважна цікавяцца больш позьнім часам — XVII–XVIII стагодзьдзямі, калі пачаўся бурлівы рост, нават росквіт музычнага мастацтва. Музыка гэтага часу для нас больш блізкая і зразумелая.

Але музыка XVI стагодзьдзя цікавіла нас заўсёды, таму, працуючы з больш позьнімі часамі, мы паралельна шукалі і больш старыя крыніцы.

У беларускіх сховішчах крыніц амаль няма, яны не захаваліся, а ў замежжы яны ёсьць. І вось калі мы робім франтальны пошук у бібліятэках Санкт-Пецярбургу, Масквы, Вільні, Кракава, Варшавы, а таксама ў архівах Нямеччыны або Швэцыі, то знаходзім там і беларускія помнікі. Яны для нас як дыямэнты. Знайшоўшы нешта, я стараюся адразу пашырыць інфармацыю пра знаходку, пусьціць яе ў слухацкую практыку і, галоўнае, у навучальны працэс для студэнтаў.

Так што можна сказаць, што тую музыку спэцыялісты і вучнёўска-студэнцкая моладзь ведаюць вельмі добра.

**— Калі мы тую музыку ведаем, значыцца, мы можам яе параўноўваць з суседзямі. Музыка была гарадзкая, сялянская, арыстакратычная, была прафэсійная, была і народная. Скарына нарадзіўся ў горадзе, і вось пытаньне, ці можам мы параўноўваць тагачасную гарадзкую музыку Беларусі з гарадзкой музыкай нашых**

**суседзяў? Яна была самабытнаю, ці была ўсё ж падобнаю да іншых?**

— Самабытнасьць заключаецца ў тым, што гэта музыка нашай краіны, гэтага арэалу, які быў і застаецца ўнікальным. Ва ўсім сьвеце няма больш такой зямлі, дзе б крыжаваліся канфэсійныя плыні ў двайным памежжы.

Беларусь (я заўсёды пра гэта кажу) — самы заходні арэал усходнеславянскага праваслаўя і самы ўсходні арэал заходняга каталіцтва — як мадэль музычнай Эўропы. Нідзе, у ніводнай краіне сьвету ў часы Скарыны не існавала гэтага сугучча, гэтай паліфаніі, гэтай партытуры, якую і ён, і ягоныя бацькі, і ягоныя нашчадкі маглі паслухаць і асэнсаваць, бо яны ў гэтым выхоўваліся.

На галоўным пляцы кожнага беларускага гораду стаяў праваслаўны і каталіцкі храмы, пазьней, зьявіліся пратэстанцкія, уніяцкія храмы, і нехрысьціянскія таксама. І гэта было фантастычнае сугучча. З кожнага храму чулася музыка, гэта быў найперш харавы сьпеў. У праваслаўных ён быў адзін, у каталікоў быў іншы, з арганамі, у пратэстантаў таксама быў вельмі спэцыфічны шматгалосы сьпеў.

Таму я і кажу, што вось гэтае сугучча і было галоўнай спэцыфікай беларускай музыкі часоў Скарыны і наагул усіх часоў, як і ўсёй нашай талерантнай і шматвэктарнай культуры.

Калі ж гаварыць пра гарадзкі пласт гэтай музычнай культуры, то ён быў абсалютна непадобны паводле сваёй структуры, свайго зьместу і духоўнага напаўненьня на гарадзкія музычныя рэаліі іншых краін.

Я вам больш скажу: рэнэсансная музычная Беларусь больш адраджэнская, чым усе іншыя краіны Эўропы. Таму што ў часы Барталямэеўскай ночы, рэлігійных войнаў наш музычны арэал быў і цяпер застаецца самым шматколерным у музычна-канфэсійным пляне. Хоць ва ўсе часы і ў нас было не бязвоблачна. Наша гарадзкая прастора, якая фармавалася найперш са шматканфэсійнага музычнага субстрату, была абсалютна ўнікальнаю.

Іншая рэч — музыка мяшчанская, музыка вялікакняскага і каралеўскага двароў, сядзіб магнатаў. Тут мы сустракаемся з выразным падабенствам да тагачасных эўрапейскіх арыстакратычных сядзіб і мастацкіх асяродкаў. Гэтае падабенства — абсалютна натуральнае і арганічнае, бо музычная Эўропа была на той час даволі адзінай.

Музыканты, якія працавалі тут — гэта пераважна музыканты прыежджыя, запрошаныя вялікімі князямі і арыстакратамі. Дастаткова сказаць, што працаваў тут брат Галілеа Галілея — Мікелянджэлё Галілей. Дастаткова сказаць, што тут працавала шмат першаклясных музыкантаў — такіх, як італьянскі музыкант Лука Марэнцыё, вугорскі музыкант Валянцін Бакфарк.

Гэта ўсё сусьветныя велічыні, якія перарабілі, перайначылі эўрапейскі музычны сьвет XVI стагодзьдзя і, вядома, несьлі свае інавацыйныя ідэі туды, дзе працавалі.

**— А музыка Масковіі таго часу адрозьнівалася ад музыкі Вялікага Княства Літоўскага?**

— Гэта пытаньне, на якое адказу няма і доўгі час ня будзе. Чаму? Таму што расейскія музыч-

ныя помнікі XVI стагодзьдзя вельмі нешматлікія. Гэта рэшткі, якія захаваліся цудам і прэзэнтуюць толькі рэлігійную сфэру, тыя музычныя рэаліі якія складаліся ва ўлоньні Праваслаўнай царквы.

Наша традыцыя і традыцыя Масковіі ў гэтым, рэлігійным, сэнсе падобныя, бо гэта адзіны рэлігійны канон. А сьвецкая музыка Масковіі XVI стагодзьдзя не захавалася. У музыказнаўцаў ёсьць аксіёма: Беларусь — гэта апошні на ўсходзе арэал Рэнэсансу. Значыцца, і інструмэнтальнай культуры, твораў для лютні, а значыцца і заходніх канфэсіяў (каталіцтва і пратэстанцтва) зь іх музычным мастацтвам.

Але калі мы гаворым пра праваслаўны сьпеў — дык трэба ведаць, што ў Масковіі ён вельмі багаты і разнастайны. Хоць крыніцы і не захаваліся, але паводле рэштак чутно і бачна, што гэта вельмі самабытнае і вельмі высокае мастацтва, але таксама і вельмі спэцыфічнае, сапраўдная terra incognita. Аднак падабенства музыкі ва ўсёй палітры нашага з Масковіяй быць ня можа ў сілу сацыяльна-гістарычных фактараў.

Праваслаўнае шматгалосьсе, якое сфармавалася ў Беларусі, у гэтым перакрыжаваньні канфэсіяў, прыйшло ў Расею значна пазьней, толькі у XVII стагодзьдзі, гэта ўжо часы Сімяона Полацкага. Як Сімяон Полацкі прынёс у Расею новыя літаратурныя жанры, так і нашы дзеячы музычнай культуры ў XVII стагодзьдзі прынесьлі ў Расею шматгалосьсе, шматгалосы сьпеў.

**— Вы сказалі, што сьвецкая музыка Масковіі не захавалася. Але ж яна была...**

— Вядома, была. Але існавала яна ў вусных крыніцах, яна не запісвалася, і мы ня ведаем, якія менавіта гэта былі творы. Аўтарская творчасьць — гэта зьява для расейскага мастацтва значна больш позьняя, чым для нашага, далучанага да заходнеэўрапейскай рэнэсанснай плыні. Таму тут параўнаньні некарэктныя.

**— А ў Беларусі захавалася?**

— Так. У нас тут цэлы Манблян, у нас захавалася ў вялікай колькасьці.

Я скажу, чаму параўнаньне з Масковіяй некарэктнае. Таму што пазьней — ня значыць горш. Гэта проста рух з захаду на ўсход эўрапейскага музычна-гістарычнага працэсу. І тое, што шматгалосьсе было ад нас у XVII стагодзьдзі прынесенае ў Расею, дало такі штуршок, такія высокія дасягненьні расейскаму мастацтву, што яны потым праявіліся ў літургіях Рахманінава, Чайкоўскага, Часнакова, Танеева... Проста гэта іншы час, іншая эпоха. Гэта справа часу, а ня ўзроўню.

А што тычыцца нашых музычных помнікаў, дык іх сотні, многія сотні, мы проста ня можам іх прэзэнтаваць у аўтэнтычным выглядзе ў канцэртах, бо гэта таксам часта фрагмэнты, кароткія творы, нават адзін радок...

Дарэчы, расейскія калегі гэта робяць, я маю на ўвазе рэлігійны пласт. Нашы выканаўцы і музыколягі таксама прыстасоўваюцца да выкананьня на канцэртах помнікаў Беларусі XVI стагодзьдзя, часоў Скарыны, але гэта ня тыя аўтэнтычныя крыніцы, якія мы, дасьледчыкі, здабываем і аддаём у рукі выканаўцаў.

А наконт колькасьці, жанравай разнастайнасьці ды інфармацыйнай ёмістасьці, тут поўны парадак. Яны даюць магчымасьць рэканструяваць эмацыйны фон і фонд Скарынаўскай эпохі. Мы дакладна ведаем, што слухалі і чулі сучасьнікі Францішка Скарыны ў Беларусі.

**— Дык што мы ведаем пра сьвецкую музыку гораду часоў Скарыны?**

— Пра сьвецкую музыку гораду пытаньне вельмі простае. Дастаткова паслухаць творы з так званага «Полацкага сшытку», дзе захаваліся мэлёдыі і з XVI стагодзьдзя. Прычым гэта гарадзкая музыка, музыка гарадзкога побыту. Гэта музыка, пад якую танчыла моладзь, якую слухалі гараджане, гэта хіты свайго часу, якія маюць як тутэйшае, так і заходняе паходжаньне. Гэта танец бэргамаска, канцоны, канты. Гэта песьні гарадзкога люду, якія тады ўсе ведалі.

Я вам скажу больш. Многія з тых песьняў захаваліся да нашых дзён. Калі ў мяне студэнты едуць у экспэдыцыі, дык штогод запісваюць тыя канты з «Полацкага сшытку», бо цяпер іх сьпяваюць ужо ў вёсцы. Тыя канты перайшлі з гарадзкога асяродзьдзя ў сельскае і цяпер існуюць у вуснай традыцыі.

Наша дасьледчыца кантавай культуры Ларыса Касьцюкавец пра гэта напісала шмат манаграфій. Гэтыя ўзоры ўсім — і дасьледчыкам, і вучням, і студэнтам, і выканаўцам — добра вядомыя.

**— Дзе гараджане ў пачатку XVI стагодзьдзя маглі чуць музыку апрача храму? Ці былі нейкія танцы, тэатральныя вечарынкі, паказы,**

**канцэрты? Падчас якіх мерапрыемстваў гараджане маглі чуць сьвецкую музыку?**

— Музыкалёгія, з аднаго боку, гуманітарная, а зь іншага, дакладная навука.

Я б магла дакладна адказаць на гэтае пытаньне, каб у мяне ў руках былі крыніцы мэмуарнага характару, эпісталярнага або дакладныя фінансавыя дакумэнты, напрыклад, рахункі за выкананьне музыкі на ратушы або недзе на плошчы. У мяне такіх дакумэнтаў няма, таму я магу толькі ўявіць сабе, як гэта адбывалася — але гэта ўжо недакладныя зьвесткі.

**— Дык, можа, па аналёгіі зь іншымі краінамі?**

— Менавіта, так. Я таму пра ратушу і згадала, паколькі ратушы — гэта рэаліі Магдэбурскага права, якое тады ўжо было. Таму музыка гучала на ратушных пляцах, падчас кірмашоў, падчас шэсьцяў.

У мяне ёсьць спэцыяльныя распрацоўкі па паратэатральных дзеях. Прыяжджае, скажам, магнат у горад. Адразу ж арганізуецца вялікае сьвята, і зьвесткі пра гэта ў мяне ёсьць. У такім сьвяце прымае ўдзел увесь горад, тут слухач і выканаўца існуюць у адной асобе. Сьпяваюцца масавыя песьні, гімны, услаўляльныя песнапеньні...

Дый гаворка ня толькі пра масавыя мерапрыемствы. Па музыцы мы можам рэканструяваць тагачасныя музычныя паводзіны. Людзі ж ня надта зьмяніліся з таго часу. Проста ў іх тады не было пляншэтаў, не было радыё і тэлебачаньня, але патрэба ў музыцыраваньні, у эмацыйным самавыяўленьні ў іх была. Так што можна сказаць,

што тыя віды музычнай практыкі, якія мы маем сёньня, і ў іх тады таксама ўжо былі.

Напрыклад, сёньня моладзь танчыць на дыскатэках. Ну дык і тады моладзь зьбіралася на танцы, толькі інструмэнты і мэлёдыі былі іншыя. А якія гэта былі мэлёдыі, мы можам даведацца, адкрыўшы і паслухаўшы той «Полацкі сшытак» або іншыя помнікі.



## ГАННА БАРВЕНАВА: у эпоху Скарыны мода Беларусі не адрозьнівалася ад Цэнтральнай і Заходняй Эўропы

Ганна Барвенава нарадзілася ў 1968 годзе ў Менску. Мастацтвазнавец, гісторык шляхецкага касьцюму. Кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт, загадчыца аддзелу выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Цэнтру дасьледаваньняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Аўтар кнігі «Тэкстыль Сярэднявечча на землях Беларусі» (2008) і шматлікіх артыкулаў па гісторыі прыкладнога мастацтва Беларусі.

**— Наколькі добра мы ведаем, у што апраналіся беларусы ў часы Скарыны?**

— За апошнія 25 гадоў выйшла некалькі кніжак, прысьвечаных беларускім строям. У прыватнасьці, нашы дзьве дасьледчыцы з Акадэміі навук, Валянціна Бялявіна і Любоў Ракава, выдалі дзьве манаграфіі: «Мужчынскі касьцюм на Беларусі» і «Жаночы касьцюм на Беларусі». А такія дасьледчыкі, як Анастасія Скеп’ян і Юры Бохан, выдалі кнігу «Матэрыяльная культура беларускай шляхты».

У гэтых кнігах закранутыя пытаньні, якія не асьвятляліся раней, у тым ліку — як апраналіся беларусы ў розныя часы. У пералічаных манаграфіях хоць і мала, але закранутая тэма касьцюму эпохі Рэнэсансу.

**— Эпоха Рэнэсансу — гэта адрэзак часу, у якім жылі арыстакраты, шляхта, гараджане, местачкоўцы і сяляне. Скарына быў гараджанінам. Ці можам мы гаварыць пра апратку гараджан ягонага часу, мы ведаем пра яе дастаткова?**

— Крыніц хапае. Мы адзеньне гараджан яшчэ так не апісалі, як апісалі палякі або чэхі. У нас гэтая праца яшчэ ня зроблена. А крыніцы ёсьць, і ня толькі тэкставыя, але і выяўленчыя — гэта партрэтны жывапіс, кніжная графіка. Я кажу, як мінімум, пра два саслоўі — каралі і прадстаўнікі каралеўскага двара, а таксама заможныя гараджане.

**— Калі я вас спытаю, у што апраналіся гараджане ў часы Скарыны, вы зможаце адказаць?**

— Я асабіста пісала пра тое, як апраналіся каралі і магнатэрыя. А пра гараджан у маіх тэкстах сказана, што яны капіявалі адзеньне магнатаў і шылі тое самае, толькі зь менш каштоўных тканін.

А наконт таго, як апраналіся каралі і магнаты, расказвае партрэтны жывапіс, на якім усё відаць. Там і Жыгімонт I Стары, і Жыгімонт Аўгуст, і Барбара Радзівіл. Можам таксама гаварыць, адкуль куплялі тканіны, хто ім шыў, як тады шылі. Ведаем, як гэта рабілася ў каралеўскім горадзе Вільні.

**— Я калісьці чытаў кніжку гісторыка Кастамарава «Нарыс хатняга жыцьця і нораваў вялікарускага народу XVI і XVII стагодзьдзяў». Ён там называе шмат дэталяў гардэробу, пра якія мы сёньня нічога ня чулі, напрыклад зіпуны, абнізь або ічэтыгі. У першым выпадку гэта верхняе адзеньне, у другім — каўнер, у трэцім — абутак.**

**Кастамараў, напрыклад, сьцьвярджаў, што ў XVI стагодзьдзі маскоўцы насілі штаны толькі да кален, пераважна жоўтага, блакітнага або чырвонага колераў, а рукавы ў іх даходзілі да зямлі.**

**Мы вось так пра сваё гарадзкое адзеньне эпохі Скарыны можам гаварыць? Напрыклад, вы можаце назваць некалькі прадметаў адзеньня?**

— Касьцюмы на тэрыторыі ВКЛ і ў Масковіі вельмі адрозьніваюцца, пачынаючы якраз з XVI стагодзьдзя, бо мы разышліся ў розныя бакі. Мы ў эпоху готыкі выбралі эўрапейскі кірунак

разьвіцьця і, адпаведна, касьцюму. Тады ў нас зьявіліся гатычныя строі. А тым больш у эпоху Рэнэсансу мы разьвіваліся ўжо ў цалкам эўрапейскім рэчышчы.

Расейцы абралі іншы кірунак разьвіцьця. У іх зусім іншыя адносіны да жанчын, іншы ідэал жаночай і мужчынскай прыгажосьці. І ў Кастамарава, і ў іншых напісана, што яны лічылі сябе Ўсходам. І касьцюм іх, гэта цытата, «больш набліжаны да Ўсходу» і ніяк не падобны да заходняга. А наш касьцюм разьвіваецца цалкам у эўрапейскім рэчышчы.

Наконт назваў асобных прадметаў адзеньня магу сказаць, што мы толькі пачалі гэта распрацоўваць і адпаведны слоўнік з ілюстрацыямі пакуль ня створаны. А вось у палякаў такі слоўнік выдадзены, там ёсьць назва тканіны, кампанэнту касьцюму, і падаецца побач адпаведная ілюстрацыя. У нас такога слоўніка пакуль няма. Але крыніц хапае, таму раней ці пазьней гэта будзе зроблена.

Паводле перакладаў Францішка Скарыны, можам пералічыць барвы тканін — барвовую, лазуровую, нябесную з золатам, шоўк сіні і брунатны, «червчатый». Назвы тканінаў: воўна, шоўк, шоўк з золатом, лён, лён перасукаваны, гарнастаі, ножкі казьлячыя.

Названы сымбалі ўлады — вянец, жазло — і дадзена ім характарыстыка: вянец пахвалы, вянец надзеі, вянец вагой талант золата.

Кампанэнты адзеньня — рыза, плашч, апона, урэцішча, бот, баток, чобат. Аксэсуары — сумка, каліта. Упрыгожаньні — маніста, персьцень,

абручы, грыўны, зашчэпкі. «Пяцьдзесят пугавак» на адзеньні, пяцелькі, гаплікі, гафткі, запоны.

Многія кампанэнты адзеньня аздабляліся, напрыклад, вышываліся золатам па шоўку і льну.

А хто гэта ўсё рабіў? Гафтаркі, ад слова «гафт» — вышываньне золатам і срэбрам. Сярод упрыгожаньняў былі званочкі — «званцамі залатымі»... Ну і так далей. Так што апісаць касьцюм таго часу нам складанасьці няма.

Наконт гараджан паўтаруся, што яны капіявалі строі магнатаў і каралёў, але ня мелі магчымасьці набываць каштоўныя тканіны. Таму мелі тыя самыя строі, толькі ў больш танным выкананьні.

**— А штаны насілі?**

— Вядома, яны так і называліся — штаны. І пояс да іх, і ў перакладах Скарыны ёсьць слова «перапаясаны».

**— А Скарына ў што апрануты на сваёй гравюры? Там у яго барэт. А што яшчэ?**

— Хутчэй за ўсё рыза — гэта тое, што пад плашчом, а ўверсе — плашч. Таксама добра бачны пояс. На галаве ў Францыска Скарыны барэт. На Скарыну цалкам эўрапейскі строй.

**— Значыцца, у эпоху готыкі, XIV–XV стагодзьдзі, мы сталі апранацца як эўрапейцы, бо наша шляхецкая і гарадзкая культура пайшла ў той бок. А ў Маскоўскай дзяржаве захоўвалася свая, самабытная традыцыя, зьвязаная з Усходам. Гісторыкі пішуць, што бацька Івана IV Жахлівага вялікі князь маскоўскі Васіль III насіў чалму, татарскі халат і ятаган...**

— Чалму, дарэчы, і ў нас насілі. У нас было захапленьне Ўсходам... Гэта была агульнаэўрапейская хваля захапленьня арыенталізмам. Гэта пачалося ў XV стагодзьдзі. У нас у Радзівілаўскім летапісе адлюстраваны Ўсяслаў Чарадзей у чалме. Ня важна, што гэта пэрсанаж іншай эпохі, важна, калі ствараўся летапіс.

У нас у часы готыкі і рэнэсансу і Дзеву Марыю, і біблійныіх пэрсанажаў, і гістарычных пэрсанажаў маглі адлюстроўваць у строях таго часу, калі выява стваралася. Так што ў Радзівілаўскім летапісе Ўсяслаў адлюстраваны ў гатычным строі — абціслыя порткі, выцягнутыя насы абутку і іншыя элемэнты касцюму готыкі, і пры гэтым чалма на галаве.

Агулам у эпоху готыкі мужчыны ў нас насілі ўжо цалкам эўрапейскі строй, які падкрэсьліваў прыгажосьць мужчынскай фігуры, бо быў блізкі да цела. А на тэрыторыі Масковіі панаваў усходні варыянт касьцюму — шырокае, доўгае адзеньне з доўгімі рукавамі.

**— Мы можам сказаць, што элемэнты побытавай культуры, да якой адносіцца і адзеньне, былі ў Беларусі эўрапейскія, і гэта спрыяла арыентацыі нашых людзей на Захад, яны туды ехалі, там вучыліся і там нам кніжкі друкавалі...**

— Менавіта так. Ужо пачынаючы з эпохі готыкі, а тым больш у часы Рэнэсансу, у нас былі вельмі разьвітыя эканамічныя сувязі, а таксама матрыманіяльныя (шлюбныя) і культурныя. Ішоў вялікі гандаль з заходнімі і скандынаўскімі краі-

намі, гандлёвыя шляхі былі адкрытыя. Стваралася адпаведнае заканадаўства.

Да нас ехалі купцы, траплялі іхнія тавары і, адпаведна, узоры адзеньня. Зразумела, што для нас гэта было ўжо як роднае. За два стагодзьдзі — XV і XVI — мы стварылі свае ўласныя ўзоры эўрапейскага адзеньня, гэта значыць у той стылістыцы, якая была модная ў астатняй Эўропе. Спачатку ў гатычнай, а пасьля ў рэнэсанснай, калі мова пра часы Скарыны.

Да таго ж у эпоху Рэнэсансу яшчэ паехалі масава вучыцца на Захад. Гэта дадатковы канал кантактаў, камунікацыі, знаёмства з набыткамі матэрыяльнай культуры.

**— Вы сказалі, што беларусы стварылі свой узор рэнэсанснага строю часоў Скарыны. А былі нейкія адрозьненьні ад іншых эўрапейскіх варыянтаў?**

— У эпоху Рэнэсансу ўсе эўрапейскія краіны стварылі свае ўнікальныя ўзоры касьцюму. Да гэтага ў нас была адзіная культурная прастора моды, таму ў эпоху Готыкі касьцюмы былі вельмі блізкія, вельмі падобныя. Але пачынаючы з эпохі Рэнэсансу ўсе эўрапейскія краіны мелі ўжо свае ўнікальныя ўзоры касьцюму. І беларусы ў тым ліку — яны стварылі свой, непаўторны касьцюм пачынаючы з эпохі Рэнэсансу.

**— Убачыць гэтыя строі можна?**

— Вядома, можна, у тым ліку на гравюрах Францішка Скарыны. Справа ў тым, што ў эпоху Рэнэсансу мастакі адлюстроўвалі біблійных пэрсанажаў у адзеньні свайго часу. Таму ў іканапісе, фрэскавым жывапісе біблійныя пэрсанажы, ап-

рача Хрыста, адлюстраваныя ў адзеньні адпаведным эпосе стварэньня выявы.

У выпадку Скарыны — у касьцюме эпохі Рэнэсансу. На гравюры Скарыны, напрыклад, каралева сядзіць на троне ў рэнэсансным касьцюме зь глыбокім дэкальтэ і характэрнымі складкамі на спадніцы.

**— І апошняе пытаньне пра вопратку часоў Скарыны. Гафрыраваны высокі рэнэсансны каўнер у Васіля Цяпінскага быў зроблены зь якога матэрыялу?**

— Гэта хутчэй за ўсё тонкі шоўк або тонкі-тонкі кужэльны лён.



## ЭДВАРД ЗАЙКОЎСКІ:
## улюбёнымі стравамі Скарыны маглі быць рысавая каша з шафранам і гусь з грыбамі

Эдвард Зайкоўскі нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Дубашы Валожынскага раёну Менскай вобласьці. Археоляг, кандыдат гістарычных навук. Працаваў старэйшым навуковым супрацоўнікам Інстытуту гісторыі НАН Беларусі. Дасьледуе помнікі нэаліту і бронзавага веку, паганскія вераваньні і першабытнае мастацтва на тэрыторыі Беларусі, старажытную кухню. Аўтар кніг «Першабытныя помнікі Паўночнай Беларусі» (1990) і «Старажытная беларуская кухня» (у суаўтарстве, 1995), а таксама шматлікіх артыкулаў.

**— Кажуць, што кухня — адна з самых устойлівых рысаў этнасу. Што ў часы Скарыны елі жыхары беларускіх гарадоў, у прыватнасьці, Полацку?**

— На жаль, больш за ўсё крыніц пра гэта захавалася з другой паловы XVI–XVII стагодзьдзяў. Але можам гаварыць і пра кухню часоў Скарыны, часткова — рэтраспэктыўна.

Напрыклад, ёсьць вядомы твор беларускай літаратуры пачатку XVII стагодзьдзя «Прамова Мялешкі». Там Мялешка крытыкуе заганы ягонага часу і ўспамінае «добрыя старыя часы». У прыватнасьці ён успамінае, як раней не выдумлялі розных навамодных страў, а любілі есьці такія спрадвечныя беларускія стравы як гуска з грыбамі, кашка зь перчыкам, пячонка з цыбулькаю або часнаком.

А самым выкшталцоным, паводле Мялешкі, тады лічылася рысавая каша з шафранам. Менавіта гэтыя стравы як спрадвечна беларускія падае Мялешка. Далей ён кажа, маўляў, раней за завознымі вугорскімі вінамі ня гналіся, а сьціпла пілі мальвазію, мядок і гарэлачку.

Мальвазія — гэта салодкае віно, якое прывозілася з вострава Крыт праз Украіну. Зь цягам часу гэтая назва распаўсюдзілася на некаторыя іншыя віны. Гэта была вельмі старая традыцыя, яшчэ з часоў Бізантыі. Адтуль, з Грэцыі, імпартавалі такое віно.

**— Калі яшчэ раз назваць галоўныя мясныя стравы для XVII стагодзьдзя, гэта...**

— Гусь, фаршыраваная грыбамі, пячонка з цыбуляй або часнаком, ну і розная дзічына. Яшчэ

сучасьнік Скарыны Мікола Гусоўскі пісаў «Жывіся глушцом, станеш мудрацом...»

**— А каўбасы, шынкі, паляндвіцы ў той час ужо былі?**

— Вядома, былі. На часы Скарыны інвэнтароў маёнткаў захавалася яшчэ мала, але троху пазьней, у сярэдзіне і другой палове XVI стагодзьдзя ў інвэнтарах маёнткаў згадваюцца запасы сала, кілбасаў, кумпякоў і паляндвіц.

**— Атрымліваецца беларуская клясыка, тое што і цяпер. А які хлеб елі тады — чорны або белы?**

— Пераважаў чорны, таму што прыродныя ўмовы як тады, так і цяпер былі больш спрыяльныя для вырошчваньня жыта. Таму пераважаў жытні хлеб.

**— Тыя стравы, што назваў Мялешка, былі ўласьцівыя якім колам грамадзтва ВКЛ? Наколькі тады адрозьнівалася ежа гарадзкіх і вясковых жыхароў?**

— Мялешка назваў шляхецкія стравы. З пазыцый тагачаснага здаровага кансэрватызму ён крытыкаваў тых, хто пачаў трымаць індыкоў — ён іх на тагачаснай мове называў «галагузыя куры».

**— Дык ці можам мы гаварыць пра адрозьненьні ў кухні шляхты, гараджан, местачкоўцаў і сялян часоў Скарыны?**

— У нейкай меры можам. Найперш у тым аспэкце, які датычыць прыпраў. Калі я праглядаў прывілей вялікага князя на наданьне Наваградку Магдэбурскага права у 1511 годзе, то там агаворваецца, на якіх умовах розныя тавары могуць прадаваць наваградчане. І там згадваліся «імбір

і іншыя прыправы простыя». Імбір, такім чынам, лічыўся простай прыправай.

Я ўпэўнены, што калі б 40 гадоў таму, у брэжнеўскія часы, у горадзе, нават у сталічным Менску, спыталіся, што такое імбір, пераважная большасьць ня ведала б. А вось для пачатку XVI стагодзьдзя гэта была паўсядзённая і ўсім добра знаёмая рэч.

**— Ці можна гаварыць пра рэгіянальныя асаблівасьці тагачаснай беларускай кухні?**

— Вельмі сьціпла, але, у пэўнай меры, можна. У XVI–XVIII стагодзьдзях на Палесьсі быў распаўсюджаны маньнік балотны — гэта расьліна з дробнымі зярняткамі, якая расла ў забалочаных месцах. Гэты маньнік зьбіралі, сушылі і варылі зь яго кашу. Ён нават ішоў на экспарт.

А ў Падзьвіньні, у тым ліку ў Полацку, зь якога паходзіў Скарына, былі папулярныя селядцы, якія імпартаваліся з Рыгі і іншых гарадоў, разьмешчаных на землях Лівонскага ордэну. Я думаю, што зь селядцамі ў сваім рацыёне Скарына быў знаёмы добра.

**— Бацька Скарыны, як вядома, быў купцом. Захаваліся нават зьвесткі, што дзед Скарыны судзіўся ў Рызе з рыскімі купцамі. Таму мы, відаць, можам казаць, што як саслоўе купцы былі адкрытыя да эўрапейскай кухні?**

— Несумненна, сям’я Скарыны была знаёмая з эўрапейскай кухняй, найперш праз Рыгу, і купляла там прадукты як мясцовай вытворчасьці, так і прывазныя з больш аддаленых куткоў Эўропы.

**— Можа быць, з падарожжамі дзеда і бацькі зьвязаны і той факт, што сам Францішак Скарына выправіўся ў далёкія краі...**

— Несумненна. Ад ягонага нараджэньня ў іх сям'і была такая мэнтальнасьць, што падарожжа ў далёкія краі не лічылася нечым незвычайным.

**— Ну а калі мы возьмем міжнародны аспэкт і падумаем пра месца беларускай кухні на гастранамічнай, кухарскай мапе Эўропы XVI стагодзьдзя, як бы вы гэтае месца вызначылі?**

— Пры моцных сваіх традыцыях, якія склаліся яшчэ ў раньнім сярэднявеччы, няма сумневу, што Беларусь часоў Скарыны была добра знаёмая з заходнеэўрапейскай кухняй. Сюды пастаўляліся ўсе тыя тавары, якія былі хадавымі і ў краінах на захад ад Беларусі — у той самай Польшчы, Нямеччыне і г. д.

**— Дык сьвіней і кароў у той час у нас ужо гадавалі? Гэта была ўжо клясыка для XVI стагодзьдзя, ці прыйшло пазьней?**

— Гэта было ўжо клясыкай. Паводле археалягічных дадзеных, нават у раньнім сярэднявеччы (другая палова першага тысячагодзьдзя), у нас прасочваюцца косьці сьвіней, буйной рагатай жывёлы і курэй.

**— Калі я першы раз трапіў у каўбасную краму ў Італіі, я быў уражаны пахам. Там пахла дакладна так, як у каморы маёй бабулі ў Горадзенскай вобласьці, дзе пад стольлю віселі кумпякі, паляндвіцы і каўбасы, пакрытыя белай цьвільлю. Ня вэнджаныя, але менавіта вяленыя... Можа быць такое самае падабенства можна экстрапаляваць і на XVI стагодзьдзе?**

— Думаю, што можна, бо замежныя падарожнікі ў сваіх нататках ня згадваюць пра нейкія рэзкія адрозьненьні тагачаснай беларускай кухні ад больш знаёмай ім кухні Заходняй Эўропы.

**— А калі возьмем Масковію таго часу? Якое адрозьненьне кухні ВКЛ ад кухні тагачаснай Маскоўскай дзяржавы?**

— Там больш адчуваўся ўплыў кухні цюрскіх і фіна-вугорскіх народаў. Нават у самой сталічнай Маскве.

**— У чым гэта выяўлялася?**

— Там на працягу многіх стагодзьдзяў была значна меншая роля сьвініны ў харчаваньні і большая роля ялавічыны і бараніны. Ну і імпарт харчоў быў пашыраны найперш ад усходніх суседзяў — з Казанскага ханства, Астраханскага ханства і г. д.




## АНАСТАСІЯ СКЕП’ЯН:
## Скарына наўрад ці ўмеў карыстацца відэльцам і мог любіць гульню ў косьці

Анастасія Скеп’ян нарадзілася ў 1974 годзе ў Менску, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, старшы навуковы супрацоўнік Інстытуту гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Аўтар манаграфій «Побыт фэадалаў Вялікага Княства Літоўскага ў XV–XVII стст.» (2011, у суаўтарстве), «Князі Слуцкія» (2013), суаўтар падручніка па гісторыі для 7-й клясы, а таксама аўтар разьдзелаў у калектыўных манаграфіях і шматлікіх навуковых артыкулаў.

**— Калі казаць пра агульны ўзровень матэрыяльнай культуры Беларусі ў пачатку XVI стагодзьдзя, якім ён быў?**

— Цяжка параўноўваць. Таксама як і сёньня мы ня можам параўноўваць, бо дыфэрэнцыяцыя ў грамадзтве існавала заўсёды. У нас і тады былі багатыя людзі і бедныя.

Калі браць масавую культуру — гэта культура сялянская. Вядома, узровень матэрыяльнай культуры быў ня вельмі высокі. Доўгі час, асабліва на ўсходзе Беларусі, даступнымі застаюцца толькі драўляныя пабудовы. З пункту гледжаньня эўрапейца, гэта было беднае жыльлё, таму што яно было пабудавана з дрэва без выкарыстаньня каменю.

Але з пункту гледжаньня кліматычных умоваў выкарыстаньне каменю выклікала праблемы з ацяпленьнем і ўтульнасьцю. Каменная пабудова каштавала ў тры-чатыры разы даражэй, яна была статусная і падкрэсьлівала заможнасьць свайго гаспадара. Але, зь іншага боку, яна была менш зручная для карыстаньня.

Так што ў нас сьведчаньнем матэрыяльнага ўзроўню быў хутчэй не матэрыял, зь якога пабудавана жыльлё, але колькасьць пакояў і тое, што ў тых пакоях было — гэта значыць, наколькі людзі маглі камфортна існаваць.

Большасьць насельніцтва карысталася вельмі прымітыўнай мэбляй і іншымі прыладамі. У гэтым мы не адрозьніваліся ад суседніх краін, дзе была прыкладна такая самая сытуацыя.

Нават калі мы будзем браць за ўзор вельмі высокаразьвітыя ў гэтым сэнсе краіны, напрыклад

Італію, Ангельшчыну ці Францыю, можна сказаць, што і яны не нашмат апярэдзілі нас нават для элітарных слаёў грамадзтва, нават для багатых гараджан і для заможнай шляхты. Я маю на ўвазе камфорт жыцьця. Бо тыя самыя ложкі, якія дазвалялі добра выспацца, зьяўляюцца там толькі на паўстагодзьдзя раней, чым у нас.

Так што, у прынцыпе, мы ішлі ў агульным рэчышчы эўрапейскай культуры, калі мова ідзе пра забесьпячэньне тых слаёў грамадзтва, якія мелі грошы.

**— А калі гаварыць пра тыпы жытла, тыпы інвэнтару... Наколькі тут Беларусь была падобнаю ці адрознаю ад далёкіх і блізкіх краінаў Эўропы?**

— Трэба сказаць, што калі мы бярэм агульнае насельніцтва, то тут тыпалёгія была агульнаэўрапейская. Гэта сельскае насельніцтва, гарадзкое насельніцтва, земляўласьнікі, сьвятары і кіруючыя колы. Тыпалёгія і структура грамадзтва выглядаюць аднолькава. Іх правы і абавязкі ўжо вызначаюцца мясцовымі асаблівасьцямі.

А калі гаворка заходзіць пра ўзровень іх матэрыяльнай культуры ці забясьпечанасьці іх штодзённага жыцьця, то той самы нямецкі селянін, францускі, польскі ці беларускі ня вельмі адрозьніваліся. Гэта былі людзі, якія карысталіся самым невялікім наборам выгодаў.

З матэрыяльнага пункту гледжаньня пераважна гліна і дрэва. Што ў нас, што ў Эўропе, дастаткова позна, напрыклад, навучыліся рабіць посуд з дрэва, бо зьявіліся такарныя станкі. Гэта пацьвярджаюць нашы масавыя знаходкі. Мэтал

быў каштоўным матэрыялам, бо цаніўся і ў нас, і ў суседзяў. Ім карысталіся ў значна меншай ступені.

Адзінае, у чым мы адставалі, гэта прылады працы — гэта такое тэхналягічнае адставаньне. Але зноў жа яно было зьвязана, у тым ліку, і з кліматычнымі ўмовамі, з распаўсюджанасьцю лясных масіваў, балотных масіваў, якія на той момант яшчэ ня ўмелі выкарыстоўваць як гаспадарчыя аб’екты.

Акрамя таго, у нас была значна меншая заселенасьць, чым у Заходняй Эўропе, што вымагала зусім іншага тэмпу жыцьця. Калі ў Эўропе з кожным стагодзьдзем усё больш і больш пачынае адыгрываць ролю гарадзкое насельніцтва, то ў нас доўгі час пераважным насельніцтвам у краіне заставалася сельскае насельніцтва. Вось тут і хаваецца прычына розьніцы ва ўзроўні матэрыяльнага дабрабыту людзей.

**— Вядома што ў Беларусі шараговая мураваная гарадзкая забудова зьявілася ў другой палове XVI стагодзьдзя. А ў першай палове XVI стагодзьдзя гэта пераважна былі драўляныя будынкі, нават Менскі замак быў драўляны. Але калі гаварыць пра самі тыпы гэтага жытла і параўноўваць яго з Масковіяй ці Польшчай, з Чэхіяй, дык ці моцна гарадзкія дамы тады адрозьніваліся?**

— Беларускія гарады заставаліся пераважна драўлянымі да пачатку XX стагодзьдзя. І нават дамы багатых гараджан ці нават земскіх або гродзкіхураднікаў у Цэнтральнай і Ўсходняй Беларусі былі драўлянымі яшчэ вельмі-вельмі доўга.

Мураванымі яшчэ ў XVIII стагодзьдзі мы знаходзім некаторыя замкі, цэрквы, усё астатняе пераважна застаецца драўляным. Асабліва, калі казаць пра дзяржаўныя гарады. Нават знакамітыя Полацкі ці Віцебскі замкі, якія складаліся з дзьвюх-трох частак, ці, напрыклад, Слуцкі замак — усё роўна яны былі драўляныя. Гэта была больш танная тэхніка, якая да таго ж дазваляла хуткі рамонт.

Мураваныя пабудовы зьяўляюцца для гараджан вельмі позна, на пачатку XVI стагодзьдзя, але гэта Вільня, Горадня, Берасьце. І зноў жа ня цалкам, але некалькі палацаў, некалькі дамоў, якія фармуюць цэнтральныя вуліцы гораду. Усё астатняе застаецца па-ранейшаму драўляным.

Пра гэта сьведчаць і вялікія страты, якія наносілі пажары. Але нягледзячы на гэта, цікавы быў падыход вялікакняскай улады, пачынаючы ад Жыгімонта І Старога. Дзяржаўныя ўлады рабілі ўсё магчымае, каб забясьпечыць захаванасьць гэтых гарадоў. Тут вельмі цікава сапраўды параўнаць з Масквой.

Калі ў нас выдаюцца прывілеі ці загады, напрыклад, Боны Сфорцы для Горадні, упарадкаваць вуліцы так, каб яны былі прамымі, абавязкова будаваць дамы з дзьвюх сьцен, каб было цяжка перакінуцца агню, і стварыць гарадзкі водаправод, каб можна было адтуль браць ваду для тушэньня пажараў, і абавязкова чысьціць коміны, то ў той самы час у Маскве проста забаранялі гатаваць ежу ў памяшканьнях. Усе печы і жароўні выносіліся на вуліцу ў спэцыяльныя гаспадарчыя

двары, дзе гатавалася ежа для ўсіх жыхароў, напрыклад, баярскага дому.

Вось вам розьніца ў падыходах. У нас імкнуцца ўпарадкаваць, пачысьціць, давесьці да ладу, у Маскве проста забараняюць карыстацца ў дамах агнём, выносячы гэта на вольнае паветра.

У нас у Вільні і Горадні праводзяць водаправод. Пры тым, што спаганяюць за гэта грошы, бо ўласьнікам водаправоду, як правіла, зьяўляецца, паводле гаспадарскіх прывілеяў, нейкі з манаскіх ордэнаў, таму кожны ўласьнік дому павінен плаціць.

У Маскоўскай дзяржаве водаправоды зьяўляюцца значна пазьней, у XIX стагодзьдзі.

Першы водаправод у Горадні ў пачатку XVI стагодзьдзя быў з цэнтральным фантанам паводле італьянскага ўзору, каб людзі маглі падыходзіць і набіраць ваду. Ён быў закладзены згодна з прывілеем Боны Сфорцы ў 40-я гады XVI стагодзьдзя.

Цікава, што археалягічныя раскопкі, якія праводзіліся на працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў, паказалі, што зруб цэнтральнага калодзежа ў Горадні захаваўся. Але, на жаль, умовы для яго захаваньня не былі створаныя, цяпер на гэтым месцы гарадзкая магістраль, але затое вядома, дзе гэта было.

**— А калі гаварыць пра Менск?**

— Водаправод у Менску зьявіўся ў XIX стагодзьдзі. Вядомы фантан каля Купалаўскага тэатру — «Хлопчык зь лебедзем» — якраз і быў адкрыты з нагоды заснаваньня гарадзкога водаправоду ў 1874 годзе.

Сам Менск да XVIII стагодзьдзя быў пераважна драўляным. Ды нават такі вялізны горад як Кіеў, які захоўваў сваё значэньне для ўсіх усходнеславянскіх тэрыторый да сярэдзіны XVII стагодзьдзя, меў мураванымі толькі некалькі храмаў. Усё астатняе было драўляным, што пацьвярджаюць і раскопкі, і дакумэнты.

Ну і тыя мураваныя будынкі, што былі ў нашых гарадах, найперш палацы магнатаў — яны адрозьніваліся ад заходнеэўрапейскіх. Там у шчыльна пастаўленых мураваных дамках жылі рамесьнікі і купцы, а ў нас палацы былі цэлымі комплексамі, за галоўнымі будынкамі знаходзіліся двары, сады, лазьні, гаспадарчыя пабудовы. Разам з тым, рэдка калі яны былі вышэйшыя за два паверхі. Матэрыял — або цэгла, або спалучэньне дрэва і цэглы: мураваны першы паверх, і драўляны другі.

Самае цікавае, што самі ўласьнікі вельмі рэдка жылі на першым мураваным паверсе. Яго часьцей за ўсё здавалі ў арэнду — майстрам-рамесьнікам, напрыклад, ці гандлярам.

**— Калі браць хатні інвэнтар, мэблю. Чым елі і з чаго? Як мы тут выглядалі ў параўнаньні з суседзямі з захаду і ўсходу?**

— Мэбля была самая прымітыўная. Доўгі час асноўная мэбляй былі сталы і лавы. Лавы былі розныя, шырокія, вузкія.

**— І куфры, відаць?**

— Так, і куфры. Але куфры ў нас пераважна стаялі ў так званых каморах, там дзе спалі і захоўвалі рэчы. Куфры вельмі рэдка выстаўляліся

ў агульных пакоях, бо туды траплялі розныя людзі, а ў куфрах захоўваліся пэўныя каштоўнасьці.

Цяпер мы можам зь цяжкасьцю ўявіць, як можна спаць бяз ложка. Але ў пачатку XVI стагодзьдзя ложкі былі прэрагатывай каралеўскай сям'і. Калі мы перабярэм усе-усе дакумэнты, дык убачым, што на ложках спалі толькі вялікія князі. Усе астатнія абыходзіліся іншай мэбляй.

Калі шляхта магла браць з сабой у паход раскладную, абабітую скурай мэблю, хутчэй за ўсё запазычаную з Эўропы, накшталт табурэтаў, то ўсе астатнія карысталіся драўлянай мэбляй.

Спалі часьцей за ўсё на сеньніках — гэта мяшкі, цюфякі, набітыя сенам, якія клаліся на падлогу. Падарожнікі, якія прыяжджалі ў Беларусь, адзначалі, што нярэдка мужчыны і жанчыны спалі ў адным пакоі, у тых самых корчмах ці заезных дварах. Гэта значыць, не існавала падзелу на асобныя нумары. Проста ў куце клалі сеньнікі, і людзі на іх клаліся спаць.

Але калі мы падумаем, што гэта было дзікунства і барбарства, то памылімся. Успомнім часы кіраваньня ў Ангельшчыне Генрыха VIII Тудора — тая самая сярэдзіна XVI стагодзьдзя. Пры ягоным двары існаваў спэцыяльны слуга, які прыходзіў і правяраў тыя самыя набітыя сенам цюфякі, ці не схаваў у іх нехта зброю або іншыя вострыя прадметы.

Так што і ў Эўропе каралі і іх сьвіта спалі на тым самым, што і ў нас. Хіба што тканіны былі лепшыя. Але набіваліся цюфякі тым самым матэрыялам — сенам. Багацейшы чалавек мог дазволіць сабе духмянае сена зь зёлак, якія прыемна

пахлі, давалі пачуцьцё чысьціні і адганялі клапоў. А бедныя карысталіся саломай.

**— А ў Маскоўскай дзяржаве?**

— Там карысталіся тымі самымі сеннымі ці саламянымі мяшкамі.

**— Калі ж наступілі лепшыя часы для здаровага сну?**

— У канцы XVI стагодзьдзя зьяўляюцца зьвесткі, што ў ВКЛ пачалі карыстацца пер’ем і пухам для вытворчасьці матрацаў.

**— Мода на пер’е прыйшла з Эўропы?**

— Гэта, хутчэй за ўсё, агульная тэндэнцыя. Цяжка сказаць, хто што ў каго запазычыў, бо ўсе карысталіся той самай крыніцай пер’я, як тымі самымі сенам і саломай — гэта былі прадукты сельскай гаспадаркі.

**— Вядома, што лыжкамі людзі карысталіся здаўна. У Беларусі гэтая традыцыя налічвае некалькі тысяч гадоў. А што наконт відэльцаў? Калі і як яны зьявіліся ў Беларусі? Калі імі пачалі карыстацца і хто?**

— Відэльцы — гэта ўжо было заходняе запазычаньне. Хутчэй за ўсё, першымі іх прынесьлі ў Беларусь прыдворныя Боны Сфорцы.

Асабліва паспрыялі распаўсюджаньню ў нас італьянскай моды падарожжы ў Заходнюю Эўропу, якія пачынаюцца з 30-х гадоў XVI стагодзьдзя.

І тут назіраюцца такія асаблівасьці. Калі, напрыклад, у гарады Польшчы запазычаньні прыходзяць зь мяшчанамі, якія на Захадзе атрымлівають адукацыю, ці з тымі самымі італьянцамі, якія засноўваюць шматлікія гандлёвыя, ліхвяр-

скія канторы, як у Кракаве, Любліне, Гданьску, то да нас італьянскую моду прыносіць шляхта. Менавіта шляхта езьдзіць туды ў адукацыйныя падарожжы або ажыцьцяўляе дыпляматычныя ці прадстаўнічыя функцыі.

Тагачасны відэлец адрозьніваўся ад клясычнага, вядомага нам відэльца. Гэта быў відэлец на два зубцы, які звычайна быў аздоблены, напрыклад, косьцю ці срэбрам, або, нават, мог быць упрыгожаны каштоўнымі камянямі. Яны захоўваліся ў асобных скрынках.

У вядомай эўрапейскай казцы пра сьпячую прыгажуню фэя пакрыўдзілася якраз на тое, што ёй не дасталася каштоўнага сталовага набору ў складзе відэльца, лыжкі і нажа — ён быў падрыхтаваны для ўсіх астатніх, а ёй падалі больш просты. Гэта якраз сьведчыць пра тое, што відэлец быў прыкметай раскошы, элітарнасьці.

**— Ці можам мы сказаць, што Францішак Скарына навучыўся есьці відэльцам ня ў Кракаве, а хутчэй за ўсё ў Італіі?**

— Напэўна ня ў Кракаве. І я не ўпэўненая, што ён карыстаўся ім у Італіі. Таму што масавае карыстаньне відэльцам пачалося ўжо ў тыя часы, калі ён быў старым чалавекам.

**— Дык вы лічыце, што каралеўскі садоўнік у Празе відэльцам не карыстаўся?**

— Справа ў тым, што нам дагэтуль незразумела, на якой пазыцыі пры двары караля ён быў. Бо карыстацца відэльцам пры двары падчас прыдворных застольляў — гэта адно, гэта арыстакратыя.

А слугі ці прыдворныя вышэйшага рангу наўрад ці відэльцамі карысталіся. Ім магло быць не па кішэні замовіць такую рэч. Яны маглі ня бачыць патрэбы ў валоданьні такой статуснай рэччу.

**— Я б Скарыну слугой не назваў... Усё ж ён быў двойчы доктарам навук, лекарам. Такім у некаторых краінах належала шляхецтва. Хоць, зь іншага боку, шляхта сапраўды займала пасады ў абслузе караля...**

— Так, слугамі адзін аднаго называлі нават людзі, якія займалі найвышэйшыя пасады — так ці іначай яны ўсё роўна былі слугамі караля. Для ўсіх прыдворных ёсьць тэрмін — слугі дворныя, гэта значыць, людзі, якія былі занятыя пры двары і атрымлівалі за гэта заработную плату.

**— Ключнікі, лоўчыя і г. д.**

— Так, так. Ну дык кім назваць Скарыну? Гэта быў высокапастаўлены слуга, які, дзякуючы сваёй дасьведчанасьці, вопыту і прафэсіі, атрымліваў вельмі высокую плату.

Тут яшчэ трэба разумець, што з усіх слуг, якія былі занятыя ня толькі пры каралеўскім, але і пры любых іншых дварах, дактары, асабліва мэдыкі, атрымлівалі значна большую плату, чым нават ураднікі, якія кіравалі канцылярыямі, ажыцьцяўлялі прадстаўнічыя функцыі і г. д. Заробак мэдыка быў у два-тры разы большы.

Мы, вядома, ня кажам, што Скарына меў нізкі статус, але ўсё роўна заставаўся служачай асобай, не прывілеяванай.

**— Такім чынам, вы сумняваецеся, што Скарына авалодаў відэльцам нават у Італіі?**

— Так. На той момант нават у Італіі відэлец ня быў прадметам агульнага карыстаньня, гэта значыць такім, якім карысталіся ў карчме, у мяшчанскім доме і так далей. Гэта была яшчэ арыстакратычная рэч. Цалкам магчыма, што ён іх бачыў, нават мог ім карыстацца.

Але калі мы кажам пра беларускае штодзённае жыцьцё са сьняданкам, абедам і вячэрай, то наўрад ці відэльцы ўжо ўвайшлі ў звычайны ўжытак. Таму што ўсе знаходкі, якія вядомыя на гэты момант (а гэта, як правіла, італьянскія вырабы) прывезеныя пазьней.

**— Давайце пагаворым пра тое, як бавілі час людзі ў беларускіх гарадах у пачатку XVI стагодзьдзя? Якія тады былі забавы?**

— Забаўкі, вядома, былі. Былі, як і цяпер, радзінныя сьвяты ў кожнай сям'і. Звычайна адзначаліся вялікія нагоды — нараджэньне дзяцей, хрэсьбіны, вясельлі, хаўтуры. Плюс — рэлігійныя сьвяты паводле календара.

Нельга сказаць, што гэта баўленьне часу ў поўным сэнсе слова — гэта хутчэй рытм жыцьця, калі чалавек уставаў, маліўся, ішоў у царкву ці касьцёл (для пачатку XVI стагодзьдзя гэта найперш царква), пасьля пачынаў працаваць у сваёй майстэрні ці гандляваць, а, можа, выпраўляўся ў дарогу. Штодзень вялікай колькасьці забавак мы, вядома, тут ня знойдзем. Людзі працавалі і працавалі цяжка.

Забаўкі прыпадаюць на вялікія сьвяты, калі людзі былі вызваленыя ад працы — г. зн. на сьвяты рэлігійныя. Тады людзі праводзілі час у выкананьні рэлігійных рытуалаў.

Або можна гаварыць пра членаў брацтваў. Брацтвы былі пры цэрквах — царкоўныя, або гэта былі рамесныя брацтвы. І хаця яны афармляюцца пазьней, нам вядома, што яны ўжо тады завуцца сотнямі, братчынамі і г. д. Існавалі нават такія вялікія брацкія каўшы, зь якога кожны павінен быў выпіць — прычыніцца да нейкага сьвята.

Акрамя таго, царкоўныя забароны, якія ня раз выдаваліся, сьведчаць пра тое, што людзі не цураліся гульні ў косьці. Гэта адбывалася, як мы цяпер кажам, у публічных месцах — у корчмах, аўстэрыях і г. д. Або ў дарозе, калі людзі былі адарваныя ад сям'і — яны сустракаліся за сталом для вырашэньня нейкіх спраў ці для агульнай вячэры.

Вось такім было баўленьне часу.

Калі ж мы кажам пра сельскую мясцовасьць, то там ў пэрыяды вызваленасьці ад сэзоннай працы, часьцей удавалася выкраіць час для танцаў і музыкі. Так што такія беларускія нацыянальныя інструмэнты, як дуда, былі моцна распаўсюджаныя нават сярод шляхецкага саслоўя. Да канца XVI стагодзьдзя арыстакраты не цураліся гукаў дуды, аж пакуль яе ня выцесьніў прыход замежнай лютні ці віёлы. Пасьля дуду пачнуць ужо называць мужыцкай музыкай.

Таксама ў гэтым часе да дуды дадаюцца скрыпкі і цымбалы. Такім чынам можна сказаць, што песьня і музыка суправаджалі ў тыя часы прадстаўнікоў усіх саслоўяў Беларусі.

Калі казаць пра шляхту, дык там запазычаньні з заходняй культуры заходзілі вельмі далёка — аж

да рыцарскіх турніраў. Тут заходнеэўрапейскія запазычаньні прасочваюцца вельмі ясна.

Але калі казаць пра гараджан, местачкоўцаў і сялян, то, вядома, яны прытрымліваліся традыцыйнай культуры і традыцыйных каштоўнасьцяў. І гэта вельмі важна, бо вернасьць сваёй грамадзе, супольнасьці і яе традыцыйным каштоўнасьцям дазволіла захаваць некаторыя народныя рысы да пачатку XX стагодзьдзя.

Зьмены, вядома, былі, але ішлі вельмі павольна. Народ іх ня браў цалкам, не пераймаў, але толькі ўключаў тое, што можна было прыстасаваць да традыцыі, што дапасоўвалася да яе.

**— Давайце падсумуем. Пытаньне да вас як да чалавека, які напісаў кніжку пра матэрыяльную культуру беларусаў XVI стагодзьдзя. Калі Скарына трапіў у Польшчу, пасьля ў Данію, Італію, Чэхію — зазнаў ён культурны шок ці не? Або ўсё ж большасьць таго, што ён убачыў, яму было знаёмае?**

— Не, усё яму знаёмае не было. Першае, што яго магло ўразіць — колькасьць мураваных пабудоў. У Полацку цэгла з такім размахам не выкарыстоўвалася. Акрамя таго — велічэзныя гатычныя саборы, яны агаломшвалі чалавека, які туды заходзіў.

Або рэнэсансная культура той самай Італіі зь яе сьмехам, весялосьцю, танцамі — гэта было зусім іншае. Гэта было тое, што ўражвала і нярэдка шакавала нашых людзей, якія туды траплялі. А ў кансэрватараў гэта выклікала і незадавальненьне — асабліва тымі людзьмі, якія нешта пазычанае з Захаду хацелі завесьці і ў нас.

Вядома, культура была розная, перш-наперш за кошт розьніцы ў веравызнаньні. Як бы там ні было, але на пачатак XVI стагодзьдзя традыцыйная культура Беларусі знаходзілася пад вельмі вялікім уплывам сьветапогляду і арганізацыі праваслаўнай царквы.

Скарына быў сынам дастаткова багатага купца, які выяжджаў за межы дзяржавы, які гандляваў з рознымі гарадамі і краінамі, той самай Польшчай. Звычайна бацькі падцягвалі дзяцей, уключаючы іх у сваю справу і навучаючы свайму рамяству (у нашым выпадку гандлю), пра што сьведчаць дакумэнты, знойдзеныя ў Познані.

Таму Скарына ня быў чалавекам, які раптоўна трапіў з аднаго асяродзьдзя ў іншае. Уражаньні ад Захаду ён ужо меў.

## ПРА ШТО ХАЦЕЛАСЯ Б ПРАЧЫТАЦЬ У НОВЫХ КНІГАХ ПРА СКАРЫНУ

1. Калі нарадзіўся
2. Паходжаньне і продкі бацькі і маці
3. Склад сям'і першадрукара
4. Дзе вучыўся ў школе
5. Якой веры быў у пачатку жыцьця і ў яго канцы
6. Ці жыў у Вільні да паступленьня ў Кракаўскі ўнівэрсытэт у 1504 годзе
7. Хто фінансаваў ягоныя паездкі ў раньні пэрыяд жыцьця
8. Дзе і што рабіў паміж 1506 і 1512 гадамі
9. Дзе атрымаў ступень доктара свабодных навук
10. Дзе атрымаў мэдычную адукацыю
11. Ці сапраўды быў сакратаром караля Даніі
12. Ці браў удзел летам 1512 году ў нарадзе ў Ватыкане з удзелам папы Юлія II, прысьвечанай пашырэньню каталіцкай веры на ўсходзе Эўропы
13. Чаму на яго доктарскую абарону ў Падуі ў лістападзе 1512 году сабралася больш за 30 чалавек, у тым ліку кардыналы, біскупы і кнігавыдаўцы
14. Ці стаяла за яго дзейнасьцю Каталіцкая царква

15. З кім сустракаўся ў Вэнэцыі і што там рабіў
16. З кім са славутых гуманістаў таго часу быў знаёмы асабіста
17. Што рабіў і дзе быў паміж 1512 і 1517 гадамі
18. Ці браў удзел у Венскім кангрэсе Ягайлавічаў і Габсбургаў у 1515 годзе
19. Хто фінансаваў выданьне ягоных кніжак у Празе
20. Хто дакладна ствараў гравюры для яго праскіх выданьняў
21. Якія гістарычныя пэрсанажы хаваюцца за індывідуалізаванымі партрэтамі ў праскай Бібліі
22. Ці сам маляваў эскізы для гравёраў
23. Чаму ня сшытыя аркушы яго праскай Бібліі выкарыстоўвалі ва Ўроцлаве для рамонту кніг
24. Чаму пакінуў Прагу і пераехаў у Вільню ў 1519 годзе
25. Што дакладна рабіў за 15 гадоў свайго жыцьця ў сталіцы ВКЛ паміж 1520 і 1535
26. Куды падарожнічаў у віленскі пэрыяд
27. Дзе жыў у Вільні
28. Ці адзін раз быў жанаты
29. Колькі меў дзяцей
30. Якая сапраўдная мэта прыезду Скарыны ў Каралевец у 1530 годзе
31. Ці быў ён шпіёнам біскупа Яна ў пратэстанцкай Прусіі
32. Навошта яму быў патрэбны лекар-юдэй, якога ён вывез з Каралеўца
33. Навошта ён забраў з сабой наборшчыка-друкара пры ад'езьдзе з Каралеўца
34. Ці меў яшчэ выдавецкія пляны пасьля выхаду «Апостала» ў 1525 годзе

35. Ці захаваліся рукапісы ягоных перакладаў і арыгінальных тэкстаў

36. Хто езьдзіў у Маскву з кнігамі Скарыны — сам першадрукар ці Багдан Онкаў

37. У якіх дачыненьнях ён быў са сваім братам Іванам

38. У якіх дачыненьнях быў са сваімі сёстрамі і астатнімі сваякамі

39. Каго ў Вільні лячыў і вылечыў

40. У якіх беларускіх гарадах, апрача Полацку і Вільні, пабываў. Ці быў у Менску

41. Ці існавалі схаваныя прычыны ягонага трохмесячнага зьняволеньня ў познанскай турме ў 1532 годзе. За што яго насамрэч перасьледавалі варшаўскія габрэі

42. Чаму ён вырашыў зьехаць у Прагу

43. Як яму прыйшла ў галаву ідэя на сотні гадоў раней, чым гэта сталася ў іншых краінах Цэнтральнай Эўропы, пачаць разводзіць у Празе цытрусавыя культуры

44. Чым яшчэ займаўся падчас другога прыезду ў Прагу

45. Чаму сышоў з пасады каралеўскага садоўніка

46. Дзе жыў пасьля 1541 году

47. Калі памёр

48. Дзе пахаваны

49. Як склаўся лёс ягоных нашчадкаў

50. Ці захавалася на гістарычных дакумэнтах ягоная ДНК або ДНК ягонага сына Сымона Руса, прыдатная для параўнаньня (у Чэхіі цяпер шмат людзей маюць прозьвішча Rus)

## ШТО Я ХАЦЕЎ БЫ ВЕДАЦЬ ПРА ЯГО

1. Якія першыя словы вымавіў
2. Быў у дзяцінстве спакойны ці гарэза
3. Ці біўся падлеткам з аднагодкамі
4. Якія дзіцячыя гульні любіў
5. Ці аддаваў сябрам прайграныя ў біткі яйкі на Вялікдзень
6. Што любіў есьці і піць
7. Якія меў рост, вагу і памер нагі
8. Якога колеру меў валасы і вочы
9. Якое здароўе меў, чым хварэў
10. Ці скраў нешта ў жыцьці
11. Ці забіў жывёлу
12. Ці забіў чалавека
13. Ці ўратаваў некага ад сьмерці
14. Быў шчодрым або сквапным, ці падаваў міласьціну
15. Ці любіў глядзець на зоркі
16. Што любіў больш — сьвітанак ці захад сонца
17. Ці любіў слухаць птушак
18. Ці любіў езьдзіць на кані
19. Ці меў слых і голас
20. Ці граў на музычных інструмэнтах
21. Ці любіў сьпяваць
22. Ці любіў танцаваць
23. Ці любіў граць у косьці
24. Быў добры або злы
25. Якому алькаголю аддаваў перавагу
26. Якія меў слабасьці і дрэнныя звычкі
27. Быў пыхлівы або прыязны
28. Ці быў зайздросны

29. Ці быў раўнівы
30. Ці быў помсьлівы
31. Які меў голас — бас, барытон, тэнар
32. Ці гучна сьмяяўся
33. Ці ўмеў плаваць
34. Ці ўмеў лавіць рыбу і паляваць
35. Ці любіў зьбіраць грыбы
36. Ці моцны поціск рукі меў
37. Колькіх жанчын кахаў
38. Ці строга выхоўваў сваіх дзяцей
39. Ці быў дасьціпным
40. Ці часта маліўся
41. Які колер любіў
42. Ці падвышаў голас на жонку, бацьку або маці
43. Што любіў чытаць апрача Бібліі, ці чытаў Гамэра, Вэргілія, Дантэ
44. Каго цаніў вышэй — Батычэлі, Рафаэля або Леанарда да Вінчы
45. Архітэктуры якога стылю аддаваў перавагу — раманскай, гатычнай, рэнэсанснай
46. Ці пасівеў
47. Ці аблысеў пад старасьць
48. Пра што найбольш шкадаваў напрыканцы жыцьця
49. Што лічыў сваім галоўным дасягненьнем
50. Што думаў пра будучыню

# ПАКАЗЬНІК АСОБАЎ

**Т**



**У**



**Ф**



**Ц**



**Ч**

# ПАКАЗЬНІК МЕСЦАЎ

## ПРА АЎТАРА

Сяргей Абламейка нарадзіўся ў 1962 ў Менску. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага Дзяржаўнага ўнівэрсытэту і дактарантуру Люблінскага Каталіцкага ўнівэрсытэту (Польшча). Працаваў сьлесарам на Менскім аўтамабільным заводзе, выкладаў гісторыю ў школе, быў навуковым супрацоўнікам Беларускага Дзяржаўнага музэю народнай архітэктуры і побыту, а затым Скарынаўскага цэнтру Акадэміі навук Беларусі. Зь верасьня 1990 — журналіст «Свабоды» ў Менску, з траўня 1995 у Празе. Зь сярэдзіны 1980-х гадоў займаўся актыўнай грамадзкай дзейнасьцю, быў членам «Талакі». Адзін з арганізатараў першага Вальнага Сойму беларускіх суполак (1987), выдавец часопісу «Унія» (1990). Аўтар некалькіх дзясяткаў навуковых публікацый па гісторыі Беларусі. З 1983 друкуецца як пісьменьнік і журналіст. Выдаў кнігі «EGOізмы», «Настальгія», «Мой Картаген», «Дом літаратара». Тэксты перакладаліся на італьянскую, польскую, расейскую і чэскую мовы.

## SUMMARY

"The Unexpected Skaryna" — sheds new light on one of Belarus's most eminent sons, Francysk Skaryna, one of the first book printers in Eastern Europe. Skaryna's first printing of the Bible laid the groundwork for the development of the Belarusian language.

In the 25 essays that comprise the first part of the book, author Siarhiej Ablamiejka takes a fresh look at the life and work of Skaryna. He dissects existing biographical data to help explain what motivated and fired the passions of this humanist, scholar, physician and translator.

Ablamiejka delves into the profound influence of the Italian Renaissance on this remarkable man, and offers a unique analysis of some of the illustrations Skaryna himself drew in the Bible he published in Prague 500 years ago. That Bible, according to Ablamiejka, contains four self-portraits of the book printer, as well as images of his father and other relatives.

In the second part of the book, Ablamiejka talks about the age of Skaryna with scholars from Belarus, Austria, Italy, Poland, France and the Czech Republic. These interviews also provide fascinating new insights into the life and work of one of Europe's most brilliant polymaths.

Siarhiej Ablamiejka is the author of several books of essays, aphorisms, and short stories focusing on Belarusian culture, religion and national identity. He is a long-time staffer at Radio Free Europe/Radio Liberty's Belarus Service.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.* **Прыгоды АРА ў Беларусі.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** 2-е выд., дапоўненае. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.* **Вострая Брама.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Беларуская Атлянтыда.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.* **Альбом сямейны.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы
Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка.**
**Сто песень.**
**2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.










*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.

*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.

*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2018. —
282 с. + 56 с. укл.: іл.